Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 39 (4737) 4 кастрычніка 2013 г.

## Пункціпрам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў удзельнікаў і гасцей VIII Міжнароднага фестывалю Юрыя Башмета з адкрыццём форуму, які нязменна з'яўляецца запамінальнай падзеяй культурнага жыцця Еўропы, адным з лепшых музычных праектаў сучаснасці, падкрэсліў Кіраўнік дзяржавы. «Фестываль з гонарам выконвае важную місію захавання і папулярызацыі твораў класічнага мастацтва, далучае сучаснікаў да ідэалаў сапраўднай духоўнасці і сусветнай культуры», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Планы па арганізацыі Дзён эмірацкай культуры ў Мінску абмеркаваны ў Абу-Дабі. Гэтыя пытанні разглядаліся на сустрэчы Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Беларусі ў ААЭ Рамана Галоўчанкі з міністрам культуры, моладзі і грамадскага развіцця ААЭ шэйхам Нахаянам бен Мубаракам аль-Нахаянам. Размова ішла пра двухбаковае ўзаемадзеянне ў галіне культуры ў кантэксце дамоў, дасягнутых па выніках першага пасяджэння сумеснага камітэта па супрацоўніцтве паміж урадамі Беларусі і ААЭ. Разгледжана магчымасць падпісання пагаднення аб супрацоўніцтве ў сферы культуры, а таксама абмену мастацкімі выстаўкамі і візітамі.

✔ З 9 па 13 кастрычніка ў Магілёве пройдзе Міжнародны музычны фестываль «Залаты шлягер-2013». Упершыню будзе прадстаўлена джазавая праграма. Актыўны ўдзел у форуме возьмуць беларускія калектывы — групы «Камерата», VIP-JAZZ, «Яблычны чай», «Чысты голас». Выступяць таксама Анатоль Ярмоленка, Іна Афанасьева, Іскуі Абалян і інш. На сольны канцэрт запрашае Юрый Антонаў.

✔ Прэм'ера спектакля для дарослых «Скрыпка дрыгвы і верасовых пустэчаў» адбылася ў Беларускім тэатры «Лялька». Пастаноўку паводле твораў Уладзіміра Караткевіча ажыццявіў мастацкі кіраўнік тэатра, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Віктар Клімчук.

✔ Выстаўка «Сучасны японскі дызайн» адкрываецца сёння ў Гродне. Наведвальнікі пазнаёмяцца з узорамі прамыслова дызайну Японіі перыяду 1990 — 2000-х гадоў. Выстаўка прымеркавана да памятных дат з гісторыі беларуска-японскіх адносін: 40-годдзя ўстанаўлення пабрацімскіх стасункаў паміж Мінскам і Сендаем і 200-годдзя з дня нараджэння ўраджэнца Беларусі Іосіфа Гашкевіча — першага консула Расійскай імперыі ў Японіі і аўтара першага ў свеце японска-рускага слоўніка. Выстаўка праходзіць падчас фестывалю «Японская восень у Беларусі».

✔ Выстаўка работ нямецкай фотамастачкі Хельгі Парыс адкрылася ў Нацыянальным гістарычным музеі. Экспазіцыя прысвечана побыту пасляваеннай Усходняй Германіі. Прэм'ера адбылася ў Лейпцыгу, пасля — сусветнае турнэ.

✔ 8 кастрычніка ў чарговай праграме «Дыя@блог. Пра літаратуру» на тэлеканале «Беларусь 3» ў 10.20 і ў 23.15 глядзіце гутарку з вядомым беларускім пісьменнікам Міколам Чарняўскім, прысвечаную сучаснай дзіцячай літаратуры Беларусі.

Падрыхтавала
**Ярына РЫТАМІНСКАЯ**



# Кірунак — будучыня!



Сцэна са спектакля «Patris», фота Аляксандра Дзмітрыева

З 28 верасня па 21 кастрычніка ў Мінску праходзіць III Міжнародны форум тэатральнага мастацтва «ТЕАРТ». Учора ў Палацы культуры МАЗа адбылося яго ўрачыстае адкрыццё.

Чытайце на стар. 2 ▶

## Пытанне да творцы

# Чым вас прывабліваюць тэатральныя фестывалі?



**Таццяна Арлова, тэатразнаўца:**

— Тэатральныя фестывалі, якія праходзяць сёння ў Мінску, — міжнародныя. Для мяне як тэатральнага крытыка важна канкурэнтаздольнасць беларускага тэатра. Даводзіцца часам чуць, што ён благі. Так, у нас абмежаваныя тэхналагічныя магчымасці, але мы заўсёды перамагалі ў тым, што датычыць адкрыцця сэнсаў і акцёрскай псіхалагічнай школы. Акрамя таго, паўсюль вельмі папулярныя беларускія драматургі так званай новай хвалі, якіх мы цяпер толькі-толькі адкрываем, і менавіта фестываль гэтаму спрыяе.

Кажуць, што тэатр — мастацтва «нярэйтынгавае». Аднак менавіта падчас падобных фэстаў публіка найбольш актыўная. Моладзь з мастацкіх навучальных устаноў прапускаюць увогуле без квіткоў, і яна гатовая на прыступках сядзець, каб толькі ўбачыць спектакль!



**Алена Гарбачык, куратар тэатральнага праекта «Дзверы»:**

— Вельмі добра, што два гучныя тэатральныя фестывалі, «Тэатральны куфар» і «ТЕАРТ», ідуць адзін за адным. Падвоенае ўражанне свята, асалода знаходзіцца ў атмасферы агульнай апантанасці мастацтвам. Гэта, безумоўна, напружанне, але прыемнае: больш убачыш — больш зразумееш. Што да «Куфра», ён каштоўны для ўсіх, а для моладзі яшчэ і больш даступны, чым прафесійны тэатр. Да таго ж — выдатная школа для тых, хто авалодвае тэатральным майстэрствам: майстар-класы прадугледжваюць і проста назіральнікаў. Калі звярнуцца да пастановак, больш за ўсё таленавітай эксперыментальнасцю ўразіў маскоўскі спектакль «Сырыя і гордыя». Адкрыццём сталі беларускія тэатральныя трупы, у тым ліку з рэгіёнаў — Гомель, Брэст, Краснаполле. «ТЕАРТ» толькі пачаўся, але ўжо ёсць што параўноўваць. Мяне найбольш уразіў спектакль «Кароткачасовыя» па К. Сцешыку.



**Ягор Лёгкін, рэжысёр:**

— Імкнуся глядзець фестывальныя спектаклі. Быў на нядаўняй «Белай вежы», на форуме «М@рткантакт». Маё меркаванне, аднак, не вельмі станоўчае, таму што нашы фестывалі паступова камерцыялізуюцца. І нават губляюць сваё першаснае прызначэнне — абмен досведам, узаемавучэнне творцаў. Між тым, менавіта для гэтага пачыналі калісьці ладзіць фестывалі. Людзі, якія маюць дачыненне да мастацтва, павінны атрымаць магчымасць без перашкод, у дадзеным выпадку — бясплатна, бачыць лепшае.

Да таго ж, фестывалі, безумоўна, найлепшы сродак для таго, каб далучыць гледача да тэатра.

*Форум*

# Кнігі «гасцявалі» ў Баку

**Напрыканцы верасня ў сталіцы Азербайджана праходзіла III Бакінская міжнародная выстаўка-кірмаш, арганізаваная Міністэрствам культуры і турызму Азербайджанскай Рэспублікі.**

Экспазіцыя беларусаў, прадстаўленая на пешаходнай вуліцы пад адкрытым небам, была накіравана на папулярызацыю айчыннага кнігавыдання і нашай культуры за мяжой. Усяго ў кніжным форуме ўдзельнічала 25 краін, сярод якіх — Расія, Казахстан, Турцыя, ЗША, Латвія, Эстонія, Румынія, Таджыкістан, Палесціна.

Падчас цырымоніі адкрыцця кірмашу міністр культуры і турызму Азербайджана Абульфаз Мурсал аглы Караеў адзначыў, што выстаўка з'яўляецца вынікам міжнароднай цікавасці да кніжнай справы ў краіне. Падобны форум будзе праводзіцца раз на два гады. Падчас работы выстаўкі міністр пазнаёміўся і са стэндам беларускіх кнігавыдаўцоў.

Намеснік дырэктара РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» Ала Корбут па запрашэнні азербайджанскага тэлебачання «AZ.TV» узяла ўдзел у «круглым стале», прысвечаным сумеснаму выдавецкаму праекту «Сугучча сэрцаў», распавяла пра гэты праект у інтэрв'ю тэлеканалу «Мир» і мясцовым радыёстанцыям, бліжэй пазнаёмілася з азербайджанскімі пісьменнікамі, чые творы ўвайшлі ў кнігу «Шчаслівая сустрэча» з серыі «Сугучча сэрцаў»: Анарам, Чынгізам Аліаглу, Націгам Расуладзэ, Эльчынам Гусейнбейлі і інш. Прадстаўніца Выдавецкага дома «Звязда» дамовілася пра сумесную працу са старшынёй Аб'яднання азербайджанскіх выдаўцоў і паліграфістаў, генеральным дырэктарам выдавецтва *Tehil* Бахрузам Ахундавым, загадчыкам выдавецкага сектара Міністэрства культуры і турызму Азербайджана Чынгізам Аліаглу, прынамсі, азербайджанскі бок рыхтуецца да выдання анталогіі беларускай літаратуры па-азербайджанску.



*Намеснік дырэктара выдавецтва «БелЭн імя П. Броўкі» Вікторыя Калістратава, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Азербайджане Мікалай Пацкевіч, намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Звязда» Ала Корбут.*

Таксама адбыліся перамовы з пісьменнікамі, бібліятэкарамі краіны-гаспадыні выстаўкі, прадстаўнікамі Азербайджанскай нацыянальнай энцыклапедыі. У прыватнасці, адбылася сустрэча намесніка дырэктара выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» Вікторыі Калістратавай з віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук Азербайджана, акадэмікам, дырэктарам навуковага цэнтра «Азербайджанская нацыянальная энцыклапедыя» Тофікам Муртуза аглы Нагіевым, яго намеснікамі — доктарам біялагічных навук, прафесарам Шангам Ібрагімавым і доктарам эканамічных навук Фамілам Фронт аглы Мустафаевым, падчас якой беларускі бок прапанаваў для разгляду праект «Энцыклапедычная бібліятэка кіраўнікоў краін СНД». Удзельнікам дэлегацыі былі перададзены тры тамы (у VIP-выкананні) Азербайджанскай энцыклапедыі для Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі».

Беларускія кнігавыдаўцы ўзялі ўдзел ва ўрачыстым закрыцці выстаўкі і былі адзначаны дыпломам. Нашы суайчыннікі вельмі плённа папрацавалі на прадстаўнічым форуме. Пацверджаны ранейшыя кантакты, наладжаны новыя сувязі з азербайджанскімі выдаўцамі і энцыклапедыстамі, вызначаны шляхі далейшага супрацоўніцтва.

**Раіса МАРЧУК**

# Кірунак — будучыня!

**Міжнародны форум тэатральнага мастацтва «ТЕАРТ» праходзіць у Мінску трэці год. За гэты час ён стаў пазнавальным брэндам.**

Яшчэ да афіцыйнага адкрыцця гледачы атрымалі магчымасць спрычыніцца да лепшых пастановак свету, пабачыць працу прафесіяналаў і ацаніць наватарскія праекты. На «круглых сталах», калі не ішлі спектаклі, спецыялісты абмяркоўвалі феномен беларускага тэатра, магчымасці супрацы тэатра і бізнесу ды інш. Размовай пра тое, наколькі бізнесу можа быць цікавы тэатр, і пачаліся творчыя дыскусіі з удзелам журналістаў. Нездарма на шыльдзе форуму арганізатарамі пазначаны Цэнтр візуальных і выканальніцкіх мастацтваў «АРТ Карпарэйшн» і ААТ «Белгазпрамбанк». Генеральны партнёр — ААТ «Газпрам трансгаз Беларусь». Форум праходзіць пры падтрымкі Міністэрства культуры Беларусі і Міністэрства культуры Расійскай Федэрацыі, Камітэта па культуры Санкт-Пецярбурга, дэпартамента культуры г. Масквы. Афіцыйныя партнёры — Пасольства Францыі ў Беларусі, Інстытут Гётэ ў Мінску, Новы драматычны тэатр, Цэнтр Сучасных Мастацтваў.

Анжаліка Крашэўская, якая ўзначальвае Цэнтр візуальных і выканальніцкіх мастацтваў, заўважыла: місія форуму — прадставіць беларускім гледачам магчымасць убачыць лепшыя праекты ў сферы тэатральнага мастацтва. Прычым, запрошаныя пастаноўкі ўяўляюць сабою працы альбо досыць тытулаваныя, альбо эксперыментальныя, не звыклыя для беларускага гледача. Як сцвярджаюць спецыялісты, беларускі тэатр у галіне тэхнікі і тэхналогій ад еўрапейскіх адстае гадоў на 20.

Імянітыя рэжысёры, сярод якіх мэтры XXI стагоддзя — Рамэа Кастэлучы, Крысціян Люпа, Алвіс Херманіс — прапаноўваюць нечаканае і тым здзіўляюць. Як вам спектакль без акцёраў? А супраца беларускіх рэжысёраў і польскіх мастакоў? Апошнюю адзначыўся спектакль «Patris». Былі праекты, створаныя спецыяльна для форуму («Сумны хакеіст»), а Магілёўскі тэатр лялек прадставіў адзін з найбольш паспяховых спектакляў апошняга года «Гамлет» і аспрэчыў меркаванне, быццам тэатр лялек — толькі для дзяцей. Дарэчы, праграма беларускіх прэм'ер стала вельмі разнастайнай.

Да нас прыехалі госці з Расіі, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Францыі, Польшчы, Італіі, Карэі, Аргенціны. І на месяц Мінск ператварыўся ў вялікую лабараторыю, дзе крышталізуецца мастацтва. Завітайма ў адчыненыя дзверы...

**Ірына ТУЛУПАВА**

*З нагоды*

# Любань запрашае

Заўтра ў горадзе Любань пройдзе першае абласное свята мастацтваў «Палескія сустрэчы». Такім чынам, у Мінскай вобласці з'явіцца новы фестываль. Музычную праграму форуму падрыхтаваў Міхаіл Фінберг, народны артыст Беларусі, прафесар, мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра.

Па словах маэстра, новы праект адрозніваецца ад іншых фэстаў, якія праводзіць аркестр. Канцэртная праграма складаецца з класікі, эстрады і джаза. «Пакажам усе вытокі беларускай музыкі, якія нарадзіліся ў Любані, — зазначыў Міхаіл Фінберг. — Мы аднолькава ставімся да эстраднай, джазавай і акадэмічнай музыкі, галоўнае, каб яна адпавядала некалькім крытэрыям. Па-першае, была прафесійна выканана, па-другое, напісана добрымі кампазітарамі, па-трэцяе, мела нацыянальную падаплёку».

Творчы праект прысвечаны 190-годдзю са дня нараджэння знакамітага паэта, краязнаўцы Уладзіслава Сыракомлі і этнографа, фальклорыста Паўла Шпілеўскага. На Любаншчыне 2013-ы абвешчаны Годам землякоў. Падчас фэсту чакаюцца сустрэчы са знакамітымі суайчыннікамі: пісьменнікам Іванам Муравейкам, дырыжорам Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі Мікалаем Калядкам, мастацкім кіраўніком дзіцячага хору гімназіі-каледжа мастацтваў імя Ахрэмчыка Марыяй Ліпніцкай, салісткай Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі Валянцінай Альшанскай.

Упершыню падчас свята будзе ўручана 16 пасведчанняў стыпендыятаў спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі, а таксама лаўрэатаў міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў навучэнскай моладзі. Арганізатарамі фестывалю выступілі Мінаблвыканкам, Любанскі райвыканкам і Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Прыцягненне Украіны

**Беларуска-ўкраінскія літаратурныя стасункі сталі багацейшымі яшчэ на адну кнігу.**

У Выдавецкім доме «Звязда» пабачыла свет своеасаблівая аўтарская анталогія перакладаў з украінскай паэзіі — томік перуўвасабленняў Ніны Мацяш «Гарнуся душою да слова». Раім усім, хто цікавіцца ўкраіністыкай, звярнуць увагу на гэтую працу. Разам сабраны літаральна ўсе пераклады вядомай паэтэсы, якія яна настойліва і апантана рабіла ў знак любові і павагі да Украіны на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў. Шкада, што ў такім фармаце кніга не ўбачыла свет пры жыцці Ніны Мацяш. І ўсё ж мы маем магчымасць сустрэцца з цікавымі, яркімі перакладамі зараз. Зборнік з'явіўся на свет дзякуючы руплівасці супрацоўнікаў Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага і філалагічнага факультэта Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта. Пад адной вокладкай — пераклады з паэзіі Тараса Шаўчэнкі, Лэсі Украінкі, Аляксандра Гаўрылюка, Маі Львовіч, Пятра Маха, Васыля Гэя, Валадымыра Барна, Аляксандра Кавалёва, Ніны Горык. Паэты розных гістарычных вымярэнняў, сучаснікі і класікі — усе яны ў аднолькавай ступені былі цікавыя для Ніны Мацяш.

Большасці падборак папярэднічае адмысловае эсэ самой перакладчыцы. Укладальнікі таксама падрыхтавалі і біяграфічныя нататкі пра ўкраінскіх майстроў мастацкага слова. А ў прадмове да зборніка Марыя Новік выклала бачанне перакладчыцкага свету Ніны Мацяш, яе мастацкія перакананні ў стасунках з літаратурай суседзяў. Яшчэ адно шкадаванне: кніга выдадзена накладам усяго ў 600 асобнікаў. Тым не менш спадзяёмся, што выданне будзе заўважана, дойдзе адрасна да ўсіх, каму не чужыя беларуска-ўкраінскія літаратурныя, культурныя стасункі. Магчыма, украінская грамадскасць Беларусі адважыцца і на прэзентацыю кнігі. Тым больш што на такую цікавую і для беларусаў сустрэчу ў Мінск ці Брэст можна запрасіць і кагосьці з аўтараў кнігі.




**Мікола БЕРЛЕЖ**

## Падарунак для самых кемлівых

Свята беларускай дзіцячай кнігі, арганізаванае выдавецтвам «Народная асвета» і Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі прайшло днямі ў сталічнай гімназіі № 21. На працягу некалькіх гадзін вучні і педагогі змаглі пазнаёміцца з выстаўкамі кніг, адрасаваных дзецям і настаўнікам. А ганаровым госцем юных чытачоў і педагогаў быў вядомы пісьменнік, старшыня сталічнай пісьменніцкай арганізацыі Міхась Пазнякоў. Спачатку ў актавай зале гімназіі адбылася яго сустрэча з вучнямі трэціх і чацвёртых класаў, затым — з пяцікласнікамі і шасцікласнікамі, а таксама з настаўнікамі.

У межах свята прайшлі прэзентацыі аўтарскай серыі Міхася Пазнякова «Свет вакол нас», у якой выйшла ўжо адзінаццаць кніжак. Серыя адрасавана малодшым школьнікам і з'яўляецца своеасаблівай паэтычнай энцыклапедыяй, якая садзейнічае выхаванню любові да Радзімы, да роднай прыроды, дапамагае пашырыць веды пра навакольны свет праз маляўнічыя вершы, скорагаворкі і загадкі.

Свята вельмі спадабалася настаўнікам і вучням, якія з вялікай цікавасцю слухалі выдатнага творцу, задавалі пытанні, набывалі выданні, атрымоўвалі аўтографы, а самыя кемлівыя — нават кніжкі ў падарунак.

Такія літаратурныя святы з удзелам вядомых пісьменнікаў вырашана праводзіць і ў іншых сталічных гімназіях.

**Павел КУЗЬМІЧ**

*Прэм'ера*

# А трэці лішні… тэлефон

Дзве прэм'еры ў адзін вечар адбудуцца 9 і 11 кастрычніка ў Вялікім тэатры Беларусі. У рэпертуары Камернай залы імя Александроўскай з'явяцца аднаактовыя оперы «Чалавечы голас» Франсіса Пуленка па матывах п'есы Жана Както і «Тэлефон» Джанкарла Меноці.




Асновай сюжэта оперы «Чалавечы голас» стала адвечная тэма: пакуты пакінутай жанчыны. У спектаклі паказаны доўгія хвіліны яе размовы па тэлефоне з былым каханкам, які заўтра павінен ажаніцца з іншай. Нягледзячы на ўяўную простасць сюжэта, «Чалавечы голас» належыць да лепшых твораў кампазітара, любімы публікай і артыстамі за цудоўную музыкальную мову, арыгінальнасць і глыбіню задумы, а таксама ярка акрэслены характар яго адзінай гераіні. «Такі матэрыял — добрая глеба і для рэжысёра, і для актрыс, якія будуць яго выконваць. «Чалавечы голас» — можна сказаць, бенефісны спектакль для сапрана, партыя ў гэтай монаоперы прыцягальная для любой спявачкі дзякуючы велізарнай эмацыянальнай насычанасці маналогу, які прадугледжвае імгненныя змены пачуццяў і хуткі пераход ад аднаго настрою да іншага», — лічыць рэжысёр-пастаноўшчык Міхаіл Панджавідзэ.

У сваіх нататках да партытуры кампазітар нагадвае, што ў п'есе Жана Както, якая па сваім духу з'яўляецца вельмі «французскай» і нават «парыжскай», гераіня маладая і элегантная. Актрыса, якая выконвае яе ролю ў оперы, таксама павінна быць прывабнай. «У трупе Вялікага тэатра нямала бліскучых артыстак, якія маюць свайго гледача і здольныя ярка і прыгожа працаваць у камерным жанры. Жаночыя партыі ў прэм'ерных спектаклях выканаюць сапрана Ганна Гур'ева, Алена Сіняўская і Дзіяна Трыфанава. Гэта выдатныя актрысы з непаўторнай індывідуальнасцю і вялікім сцэнічным вопытам. Ім ёсць што сказаць публіцы, таму гледачам, напэўна, цікава будзе за імі назіраць», — дадае дырыжорпастаноўшчык Андрэй Іваноў.

Калі французскі кампазітар Франсіс Пуленк у сярэдзіне XX стагоддзя ў сваёй монаоперы «Чалавечы голас» зрабіў з тэлефоннай размовы сапраўдную драму, то ў спектаклі яго сучасніка, амерыканца Джанкарла Меноці, вакол тэлефоннага апарата разгортваецца абсалютна камічная сітуацыя. У спектаклі дзейнічае цікавы любоўны трохкутнік: Ён, Яна і трэці лішні — тэлефон. З бліскучым гумарам паказаны бясконцыя дзявочыя тэлефонныя размовы па дробязях, якія не даюць закаханаму ў яе маладому чалавеку сказаць нешта важнае… Паводле рэжысёра Міхаіла Панджавідзэ, камічная опера «Тэлефон» Меноці — гэта своеасаблівы скетч, музычны жарт, вельмі займальны і лёгкі. А разам з операй «Чалавечы голас» яны прапануюць два розныя мастацкія погляды на адно і тое ж пытанне: якое значэнне маюць сёння тэхнічныя сродкі камунікацыі і наколькі яны могуць замяніць жывыя чалавечыя зносіны.

**Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ**

# Кветка, што не звяне

Ці знаёмае вам імя Андрэя Пумпура? Ці даводзілася чытаць яго «Лачплесіс»? Магчыма, адзінкі змогуць упэўнена адказаць «так». Між тым, Андрэй Пумпур — знакавая постаць для латышскай культуры, а яго гераічны эпас у свой час сапраўды выконваў нацыястваральную функцыю. Сёлета выбітнаму твору — 125 гадоў. І гэтую падзею не абмінулі ў Беларусі.

25 верасня ў Доме Дружбы адбыўся круглы стол па тэме «"Лачплесіс" А. Пумпура і яго месца ў гісторыі латышскай культуры». Мерапрыемства наведаў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Латвіі ў Беларусі Міхаіл Папкоўс, які распавёў пра значэнне «Лачплесіса» для сваёй нацыі. Твор пісаўся цягам 15 гадоў і, завершаны, стаў краевугольным каменем латышскай культуры. І сёння ён не пыльны пасаг, не маўклівая спадчына, але жывая крыніца натхнення для сучасных творцаў. Паводле напісанага ў 1888 годзе эпасу нават пастаўлена рок-опера.

Спадар пасол заўважыў сімвалічнасць у тым, што прозвішча Пумпур перакладаецца на беларускую мову як «пупышка». «Лачплесіс» акурат і стаў той пупышкай, з якой вырасла кветка латышскай культуры.

Пра латышска-беларускія сувязі натхнёна казаў Сяргей Панізнік — старшыня таварыства «Беларусь — Латвія». Прагучалі і вершы паэта, прысвечаныя Андрэю Пумпуру. Масток да тутэйшай прасторы, да нашай культуры праклала Святлана Тарасава — старшы выкладчык кафедры беларускай літаратуры Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Апярэдзіўшы магчымае правакацыйнае пытанне, чаму ў Беларусі няма такога яркага эпасу, як латышскі «Лачплесіс», даследчыца абгрунтавана і доказна распавяла пра тое, у якіх формах рэалізаваўся беларускі эпас і як эпічнасць трансфармуецца ў наш час. Анатоль Верабей — кандыдат філалагічных навук, дацэнт — звярнуўся да творчасці Максіма Багдановіча, яе гераічнага, эпічнага пачатку, згадаў пра героікарамантычны пафас Уладзіміра Караткевіча. У цэлым выступленні пераканалі, што беларуская літаратура прайшла свой адметны шлях, яна выяўляе нацыянальнае аблічча, і скардзіцца тут не выпадае.

Наогул, гэта мерапрыемства, прысвечанае беларуска-латышскім сувязям, не першае — у маі была арганізавана сустрэча гарадоў-пабрацімаў Беларусі і Латвіі. І, відавочна, не апошнім.

**Аліса НЕСЦЕРАВА**

*Стасункі*

# Незалежнасць як галоўная каштоўнасць

Выстаўка, прысвечаная 150-годдзю паўстання 1863 — 1864 гг., працуе ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь. Экспазіцыя падрыхтавана сумесна з Пасольствам Рэспублікі Польшча ў Беларусі.



*Прамаўляе Яцэк Міхайлоўскі.*

Праект арганізаваны на падставе выстаўкі, якая прэзентавалася ў Польшчы, а таксама матэрыялаў Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі і прыватных калекцыянераў. Паўстанне 1863 — 1864 гадоў успыхнула на частцы зямель колішняй Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага — тэрыторыях сучасных Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны. Да гэтай мэты звяртаюцца зноў і зноў. Падзеі не страцілі сваёй актуальнасці для грамадства і па сёння.

— Можна ўпэўнена сказаць, што паўстанне было для некалькіх народаў сігналам да змагання за незалежнасць, — зазначыў кіраўнік канцылярыі Прэзідэнта Рэспублікі Польшча, дзяржаўны сакратар Яцэк Міхайлоўскі падчас адкрыцця выстаўкі. — Дзякуючы тагачасным змагарам, удзельнікам паўстання, сённяшнія палякі, беларусы, украінцы, літоўцы, латышы жывуць у свабодных краінах. А незалежнасць — гэта самая вялікая дзяржаўная каштоўнасць.

Экспазіцыя складаецца з дзвюх тэматычных частак. У першай дэманструюцца экспанаты, прадстаўлены Галоўным архівам старажытных актаў Польшчы, Генеральнай дырэкцыяй Дзяржаўных архіваў і іншымі архівамі краіны-суседкі. Прэзентуюцца рукапісныя і друкаваныя дакументы, а таксама іканаграфічныя матэрыялы і фотаздымкі. Архіўную інфармацыю дапаўняюць фота, атрыманыя з Нацыянальнага лічбавага архіва Рэспублікі Польшча, а таксама экспанаты з калекцыі аддзела мастацкіх рамёстваў і гістарычных каштоўнасцей Варшаўскага гістарычнага музея. Гэтая частка адлюстроўвае падыход да падзей 1863 — 1864 гг. польскіх навукоўцаў.

У другі раздзел экспазіцыі ўвайшлі матэрыялы, падрыхтаваныя беларускімі даследчыкамі. Гэта творы графікі, узоры фалерыстыкі, сфрагістыкі і іншыя помнікі XIX ст. «Гістарычны музей павінен паказваць падзеі, якія адбываліся на нашай зямлі, каб даць магчымасць наведвальнікам самім асэнсаваць мінулае, а можа, і адкрыць для сябе штосьці новае, — падкрэсліў дырэктар Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь Алег Рыжкоў. — Сёлета гэта ўжо другая выстаўка, прысвечаная паўстанню 1863 — 1864 гг. Першая была падрыхтавана намаганнямі супрацоўнікаў гістарычнага музея і Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, а таксама ўладальнікаў прыватных калекцый».

**Раіса МАРЧУК, фота аўтара**

# Месяц польскай літаратуры

Мінская кнігарня па адрасе праспект Незалежнасці, 37а, на сталай аснове адкрывае «Польскую шафу» — паліцу з кнігамі польскіх аўтараў на польскай і беларускай мовах. Літаратуру розных жанраў і стыляў можна не толькі набыць, але і проста пачытаць у самой кнігарні.

Урачыстае адкрыццё «Польскай шафы» адбылося 1 кастрычніка. Але на гэтым мерапрыемствы не скончыліся, наадварот — распачаўся цэлы месяц польскай літаратуры. Падчас яго адбудзецца прэзентацыя кнігі польскага паэта Рышарда Крыніцкага «Дакрануцца» (8 кастрычніка, 19.00), кніжная выстаўка, прысвечаная жыццю і творчасці Юльяна Тувіма (Інфармацыйна-выставачны цэнтр ЦНБ НАН Беларусі, 15 кастрычніка, 16.00), тэатралізаваная прэзентацыя перакладу камедыйных п'ес драматурга Аляксандра Фрэдэры з удзелам акцёраў Купалаўскага тэатра (Энгельса, 7, 22 кастрычніка, 18.00), а завершыцца акцыя 30 кастрычніка — прэзентацыяй кнігі Марка Эдэльмана і Паўлы Савіцкай «У гецэ было і каханне» (кнігарня, 19.00). На ўсе мерапрыемствы ўваход вольны.

**Уладзімір ГОРЫНЬ**

*Абрысы*

Сёння і заўтра ў сталічным кінатэатры «Цэнтральны» адбудзецца беларуская прэзентацыя зборніка лепшых нямецкіх кароткаметражных фільмаў «Soirée Allemande 2013». Іх прэм'ера адбылася на сусветна вядомым Міжнародным фестывалі ў Клермон-Феране (Францыя) у лютым 2013 г. У зборнік увайшло 10 лепшых фільмаў, адабраных з больш як 450 работ — удзельнікаў нямецкіх кінафестываляў. Лепшыя ўзоры сучасных нямецкіх фільмаў, знятых у 2012 — 2013 гг., прадстаўляе беларускаму гледачу Інстытут імя Гётэ ў Мінску. Работы дэманструюцца на мове арыгінала з рускімі субцітрамі.

Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь запрашае заўтра на музычную казку для дзяцей «Мелодыя ночы». Прадстаўнікі Мінскай міжнароднай школы, а таксама вучні і настаўнікі музычнай школы № 10 імя Я. Глебава — прафесіяналы і аматары — аб'ядналі свае намаганні ў стварэнні незвычайнага канцэрта. Гледачоў чакае захапляльнае падарожжа вакол свету, ад Мадрыда і Рыма да Нью-Ёрка і Вашынгтона. Вытанчаныя мелодыі Ф. Шапэна і Р. Вагнера будуць чаргавацца з чароўнымі рытмамі джаза і фламенка. Гідам у падарожжы стане найлепшы казачнік у свеце — Оле-Лукоe.

Пяты Міжнародны фестываль нацыянальных лялечных тэатраў, які сабраў творчыя калектывы з Германіі, Швецыі, Галандыі, з рэспублік Паволжа і Каўказа Расійскай Федэрацыі, прайшоў у Самары. Гомельскі дзяржаўны тэатр лялек не першы год бярэ ўдзел у фэсце, гэтым разам беларусы паказалі спектакль «Чарадзейны рукзачок» па п'есе Васіля Ткачова. Гамяльчане прывезлі з Самары заслужаныя ўзнагароды. Спектакль быў добра прыняты не толькі маленькімі гледачамі, але і членамі журы фестывалю.

Вытанчаныя прадметы інтэр'ера з фонду музеязапаведніка «Нясвіж» можна ўбачыць у Малой выставачнай зале гэтай установы. Тут прадстаўлены фарфоравы посуд і дробная пластыка XX ст. з Заходняй Еўропы і Кітая. Кожны экспанат — сапраўдны цуд. Тэматыка, стылістыка, эстэтычнае рашэнне вырабаў сведчаць не толькі пра прыгажосць лепшых традыцый мастацкага фарфору, але і пра цікавасць вытворцаў да сучасных дызайнерскіх ідэй.

# «І думай, браце, аб бядзе»

## ПРА ШТО СВЕДЧАЦЬ ПРАШЭННІ ЯКУБА КОЛАСА ЗА РЭПРЭСІРАВАНЫХ

**Вялікіх пісьменнікаў нездарма называюць вялікімі гуманістамі. Да гэтага схіляюць не толькі іх творы, але і жыццё ў цэлым. У першым шэрагу чалавекалюбцаў стаіць і постаць Якуба Коласа. Яго ўнёсак у выратаванне людзей важкі: шмат каго паэт убярог ад Малоха сталінскіх рэпрэсій. Аднак тэма дагэтуль застаецца нераскрытай. Актуальнай публікацыяй мы толькі прыадкрываем яшчэ адну старонку жыцця класіка і заклікаем даследчыкаў пашырыць і паглыбіць яе.**

Да сярэдзіны 1920-х гг. палітычнае дзейства, якое разгарнулася ў Савецкім Саюзе на ніве беларушчыны, выглядала для яе сваімі тэндэнцыямі далёка не аптымістычна. У прыватнасці, Якуб Колас пачынаючы з 1925 г. меў шчыльны кантакт з органамі дзяржбяспекі, часам выступаючы сведкам па справах іншых падазроных. Сведкам, аднак, быў кепскім: важнай інфармацыі з яго так і не выцягнулі.

Яшчэ раней з'явіліся адмоўныя характарыстыкі: на аповесць «У палескай глушы» — з боку Галоўліта (1922) і на асобу самога творцы — з боку АДПУ, што было сур'ёзным сігналам пагрозы ўсёй дзейнасці (канец 1924). На паэта нагаворвалі. І ён, «старый и хитрый враг Советской власти и Коммунистической партии» (з паказанняў на Якуба Коласа 1937 г.), бачыў, як імкліва радзеюць пісьменніцкія шэрагі, і мог толькі спадзявацца, што дамоклаў меч бальшавіцкай улады на яго апусціцца пазней. Таму доўгі час народны паэт спаў не распранаючыся, трымаючы клуначак самых неабходных рэчаў пад рукою.

> *Паэт не толькі не баяўся розгаласу пра тое, што ён дапамагае патэнцыяльным, а то і ўжо нібыта выяўленым «ворагам народа», але і сам складаў пратэкцыю ім і даваў згоду, каб яны спасылаліся ў хадайніцтвах на яго…*

Толькі дзякуючы родным да нас дайшла эпіграма Коласа, датаваная 1938 г.:

*Калі на з'ездзе ці на сходзе*
*К табе фатограф не ідзе,*
*Дык так і ведай: ты не ў модзе*
*І не патрэбен ты нідзе.*
*І думай, браце, аб бядзе.*

Гэтыя некалькі радкоў выдаюць пільнае вока Якуба Коласа. Несумненна, ён разумеў і тое, што магло чакаць чалавека, які кінуўся б ратаваць «бліжняга свайго» ад смяротнай небяспекі. А менавіта — такая самая доля: этапы ці і таго горай. Аднак гэта не спыняла вялікага гуманіста.

Ці не першай спробай выратавання стаў ліст да старшыні Саўнаркама БССР Мікалая Галадзеда ў абарону арыштаванага Ф. Аляхновіча, падпісаны разам з Янкам Купалам ды іншымі ў 1928 г. На жаль, ён не прынёс жаданых вынікаў, хаця часы яшчэ стаялі, як вобразна выказалася Г. Ахматава, «адносна вегетарыянскія».

У 1930 г. Якуб Колас заступаецца за раскулачаных і падрыхтаваных да высылкі сясцёр і маці самога Янкі Купалы. Трэба мець на ўвазе, што кожны падобны крок браўся на ўлік. «Всё время поддерживал письменную связь с высланными в 1930 году нацфашистами и отдельным из них оказывал материальную помощь», — так пісаў у кампрамаце на Якуба Коласа малодшы лейтэнант дзяржбяспекі Завадскі ў жніўні 1937 г. А канец 1930-х падобных перажыванняў за рэпрэсіраваных падкінуў нашмат болей. І тут жа просьбы (дарэчы, у адрозненне ад вышэйзгаданага беларускамоўнага заступніцтва за Ф. Аляхновіча, напісаныя па-руску) накіроўваліся сакратару ЦК КПБ П. Панамарэнку.

Аднак далёка не заўсёды атрымлівалася дасягнуць поспеху. К. Міцкевіч не мог уратаваць нават сваякоў. Так, нягледзячы на яго прашэнні, у жорнах рэпрэсіўнай машыны знік швагер А. Каменскі (арыштаваны ў лютым 1938 г., перапіска з ім абарвалася з пачаткам вайны).

Што тут казаць пра магчымасці адвесці бяду ад сяброў, таварышаў, аднадумцаў. К. Міцкевіч, віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук БССР, не змог паўплываць на вырак акадэміку І. Замоціну, арыштаванаму ў красавіку 1938-га. У канцы 1939 г. разам з Янкам Купалам, а таксама са Змітраком Бядулем Якуб Колас напісаў прашэнне ў абарону арыштаванага Аляксандра Уласава. Яўген Калубовіч пераказваў гэты эпізод са слоў пісьменніка: «Мы з Купалам, — далей казаў Я. Колас, — хадзілі да Панамарэнкі. Прасілі за яго. Але Панамарэнка нам не дапамог. Ён быццам бы званіў у НКВД, скуль яму адказалі, што Уласава ў БССР ужо няма. Таму ён нічога ня можа зрабіць». Хоць П. Панамарэнка узяў справу пад асабісты кантроль, як сведчыць нядаўна знойдзеная ў архіве запіска, і тут станоўчага выніку пісьменнікі не дабіліся.

Але былі і перамогі. Летам 1939 г. Кузьма Чорны, арыштаваны яшчэ ў 1938-м і моцна замучаны, быў выпушчаны на волю, пасадзейнічала вызваленню ў тым ліку заступніцтва за яго Якуба Коласа, з якім П. Панамарэнка ўжо нават раіўся. Паэт запэўніў у высокай якасці творчасці Кузьмы Чорнага і яго палітычнай добранадзейнасці (на жаль, здароўе апошняга было падарвана катаваннямі і жыць яму заставалася нядоўга).

Ратаваў Якуб Колас і людзей, якія не ўваходзілі ў блізкае кола сяброў і родных ці калег па пяры. Адным з такіх быў І. Касяк — настаўнік з Павільні. У фондах музея знаходзяцца чатыры лісты паэта да І. Касяка. У адным з іх гаворыцца, што 7 верасня 1940 г. Якуб Колас займаўся справай знаёмага і рэкамендаваў яму «возбудить ходатайство перед органами НКВД». Паэт не толькі не баяўся розгаласу пра тое, што ён дапамагае патэнцыяльным, а то і ўжо нібыта выяўленым «ворагам народа», але і сам складаў пратэкцыю ім і даваў згоду, каб яны спасылаліся ў хадайніцтвах на яго: «В своём заявлении можете сослаться на меня, как знающего Вас и могущего поддержать Ваше ходатайство…» Колькі было такіх выпадкаў, сёння, бадай, не ўстанавіць.

Славуты дзеяч музычнага мастацтва Р. Шырма пасля далучэння Заходняй Беларусі актыўна працуе на ніве беларушчыны і стварае прафесійны калектыў — Беларускі ансамбль песні і танца (з 1955 г. — Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла БССР). Аднак ужо ў 1941 годзе выбітны дзеяч апынаецца за мурамі Лубянкі. За сваё вызваленне ён мусіў дзякаваць Якубу Коласу, які асабіста хадайнічаў перад галоўным камуністам рэспублікі Пантэляймонам Панамарэнкам. У далейшым паэт сачыў за лёсам гэтага ансамбля, прадстаўляў яго інтарэсы перад рэспубліканскім кіраўніцтвам: «Ансамблю трэба аказаць маральную, матэрыяльную і іншую дапамогу. <...> Пагутарыце з Пантэляймонам Кандратавічам. На мой погляд, ансамбль заслугоўвае таго, каб яму давесці болей увагі і клопату», — піша Якуб Колас у лісце да Ц. Гарбунова (17 чэрвеня 1942 г.).

> *Трэба сказаць, што прасіць і тым больш выпрасіць літасці для ахвяр палітычных рэпрэсій у той час не ўяўлялася магчымым нават першым асобам…*

Пасля вайны клопат на той час ужо класіка пра бязвінных ахвяр палітычных рэпрэсій не аслаб. Не пабаяўся Колас скласці пратэкцыю і апальнаму геолагу Г. Гарэцкаму, пра перавод якога на Беларусь народны паэт гутарыў з П. Панамарэнкам летам 1944 г., выказваючы ўпэўненасць, «цвёрдую перакананасць» у непасрэдным лісце вучонаму ад 11 ліпеня 1944 г., «што мы з Вамі будзем працаваць у Беларусі». Гэта справа адняла не адзін дзень і, як можна толькі здагадвацца, шмат нерваў. «Калі будзеце ў Маскве, пастарайцеся пабачыцца са мною: мы пойдзем з Вамі ў ЦК і на месцы будзем выратоўваць Вас для работы ў Беларусі <…> Калі што трэба дапамагчы Вашым, дык пішыце мне — усё, што змагу, буду рабіць», — напісаў паэт вучонаму ў чарговым лісце ад 18 жніўня 1944 г.



Якуб Колас. Мінск, 1952 г.

Дарэчы, калі пасля Другой сусветнай вайны вырашалася пытанне пра мяжу паміж Польшчай і Беларуссю, а ў прыватнасці пра прыналежнасць Беласточчыны, Г. Гарэцкі менавіта праз Якуба Коласа перадаў сваю грунтоўную манаграфію «Межы Заходняй Беларусі ў Польшчы (нацыянальны склад насельніцтва Заходняй Беларусі)» П. Панамарэнку, які ўзяў яе з сабой на размову з І. Сталіным, прыводзіў адтуль розныя доказы на карысць Беларусі.

Таксама Якуб Колас наведвае Першага сакратара ЦК КП(б)Б 3 сакавіка 1944 г. Сведчанні пра гэта захаваліся ў дзённіку класіка. У тыя дні паэт клапаціўся пра вяртанне рэпрэсіраванага яшчэ ў 1936 г. мастацтвазнаўцы А. Уса. Палітычны дзеяч прыслухоўваўся да слоў лірыка, але дзейнічаў па прынцыпе «давярай, ды правярай», бо «аддаў распараджэнне тэрмінова адшукаць матэрыялы асабістай партыйнай справы А. Уса». Канечне, перад прыняццем рашэння неабходна было азнаёміцца з сутнасцю пытання. Пасля ў прысутнасці паэта П. Панамарэнка распарадзіўся паслаць выклік праз Усесаюзны ЦК. Тым не менш прыезд А. Уса з незразумелых прычын зацягваўся і ў выніку адклаўся да канца навучальнага года. Але ў выніку А. Ус пераехаў у вызвалены Мінск нават раней за свайго заступніка. Што праўда, супраць А. Уса ў 1948 г. распачалася новая палітызаваная кампанія, і ён быў вымушаны з'ехаць на чатыры гады з Беларусі.

Часам паэт нават арганізоўваў сустрэчы кіраўніка рэспублікі з людзьмі, якія самі ніколі б не дайшлі са сваімі вартымі ўвагі меркаваннямі да найвышэйшых эшалонаў улады. Пра адзін такі выпадак даведваемся са стэнаграмы выступлення П. Панамарэнкі на VIII пленуме ЦК КП(б)Б ад 12 снежня 1945 г. Праз пасрэдніцтва Якуба Коласа палітык сустрэўся з настаўнікам-«заходнікам», які меў 40 гадоў педагагічнай практыкі, і абмеркаваў пытанні асветніцка-прапагандысцкай работы. Заўважым, Якуб Колас не хаваў свайго знаёмства з чалавекам, які з гледзішча савецкай улады цалкам мог патрапіць у так званую катэгорыю «СОЭ» («социально опасные элементы»). А такі вырак пагражаў «заходнікам», а тым больш інтэлігентам старой, польскай, а ў дадзеным выпадку яшчэ і царскай загартоўкі.

Пасля вайны ўлада глядзела на «заходнікаў» з падазрэннем і нярэдка ішла на прэвентыўныя меры ў выглядзе дэпартацый і зняволення. Пад іх трапілі і некаторыя сваякі К. Міцкевіча. І тут яму таксама давялося прыкладаць намаганні, каб адвесці пагрозу ад жыцця родных, сярод якіх былі і такія, хто афіцыйна працаваў пры нямецкай акупацыі, а гэта лічылася злачынствам супраць савецкай улады. У 1947 г. паэт «всё лето хлопотал об освобождении из ссылки племянника». Тут Якуб Колас прыбядніўся: першае прашэнне за нябогу датавана 4 сакавіка 1947 г., і да канца года паэт безвынікова грукаўся ў розныя ўладныя інстанцыі, аднак пляменнік вярнуўся дадому толькі ў 1951 г., адбыўшы ўвесь тэрмін (рэабілітаваны адно ў 1995 г.).

Трэба сказаць, што прасіць і тым больш выпрасіць літасці для ахвяр палітычных рэпрэсій у той час не ўяўлялася магчымым нават першым асобам: успомнім трагічную долю жонак В. Молатава і М. Калініна — асоб з першага шэрагу кіраўніцтва СССР. Якуб Колас ішоў насуперак агульнай сацыяльна-палітычнай плыні. І нярэдка паспяхова. Як паказала практыка, рызыка, якой ён падвяргаў і сябе, і сваіх блізкіх, была апраўданай. Вялікі Паэт і Гуманіст не схібіў сэрцам і душой і змог прайсці па вастрыні экзістэнцыяльнага ляза.

**Анатоль ТРАФІМЧЫК,**
**фота прадастаўлена Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеем Якуба Коласа**

# Доўгае рэха мінулага



Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

Жнівеньскі нумар «Полымя» завяршыў публікацыю рамана Алеся Макоўскага «Развітальнае рэха», распачатую ў ліпеньскім выпуску. Згодна з сюжэтам, галоўны герой Андрэй Ляшкевіч атрымаў заданне напісаць уласную творчую біяграфію. Каб максімальна сканцэнтравацца, ён едзе ў вёску і там трапляе ў палон успамінаў… На жаль, твору ўласцівыя адсутнасць выразнай кампазіцыі, стракатасць, эклектыка і імкненне аўтара падзяліцца з чытачамі ўсім, што ён памятаў і ведаў. А. Макоўскі ўключыў у раман безліч побытавых гісторый (пра аднавяскоўцаў, стукачоў, продаж ботаў у войску), некалькі гумарэсак (пра з'яўленне ў армейскай часці генерала і «няўдалы» фотаздымак, зроблены галоўным героем), гісторый з асабістага жыцця (чытач знаёміцца з Бэлай, а яшчэ з Святланай, якая ў рэшце рэшт стала жонкай героя), а таксама ўстаўныя апавяданні пра жыццё рабочых завода, напісаныя ў лепшых традыцыях сацыялістычнага рэалізму. У «Развітальным рэху» хапае і публіцыстыкі (фрагменты пра тэлебачанне, калайдар, гарбачоўскую перабудову, бамбёжку Ірака, стан сучаснай журналістыкі). У асобных сцэнах вельмі расчароўвае празмерны натуралізм (персанажы высвятляюць, які стул у хлопчыка, ці лёгка сыходзяць у старой газы). Наогул, амаль усе героі «Развітальнага рэха» прадстаўлены на старонках надзвычай пункцірна, ніводны з характараў, на жаль, не распрацаваны. Да таго ж іх біяграфіі звязаныя толькі з галоўнай дзеючай асобай і ніяк не перасякаюцца паміж сабой.

Дзеля аб'ектыўнасці прызнаюся: часам у творы А. Макоўскага сустракаюцца годныя, па-мастацку выпісаныя фрагменты. Напрыклад, па-свойму ўражваюць разважанні аўтара пра сучасную вёску або жыццёвая гісторыя калгасніцы, узнагароджанай ордэнам Леніна. Эпізод пра землякопа наогул нагадвае філасофскую прытчу. Але «Развітальнае рэха» не дазваляе адказаць на галоўнае пытанне: дзеля чаго галоўны герой і аўтар вырашылі падзяліцца згадкамі пра мінулае? Прычыны, чаму Андрэй Ляшкевіч сеў за пісьмовы стол, у «палымянскім» тэксце не тлумачацца. А вось А. Макоўскі, хутчэй за ўсё, вырашыў расказаць гісторыю ўласнага жыцця. Пра аўтабіяграфічнасць «Развітальнага рэха» сведчыць падабенства паміж біяграфіямі галоўнага героя і аўтара, працытаваны ліст пісьменніка Паўла Місько, у якім той хваліць аповесць Андрэя Ляшкевіча, частковае супадзенне паміж прозвішчамі герояў рамана і рэальных творцаў (Міколам Фядзько — відаць, Фядзьковічам і Яўгенам Крупенем — відаць, Крупенькам).

На жаль, усе названыя акалічнасці не дазваляюць казаць пра «Развітальнае рэха» як пра раман. Хутчэй ён нагадвае кактэйль з асабістых успамінаў, публіцыстыкі, старых апавяданняў і аўтарскіх разважанняў пра жыццё, аб'яднаных у адным тэксце. Магчыма, яны будуць цікавыя блізкім, сябрам і знаёмым аўтара, але наўрад ці зацікавяць тую ж вартасць да шырокай аўдыторыі.

Зрэшты, у жнівеньскім нумары можна знайсці і іншыя, больш удалыя творы. Чытач мае магчымасць пазнаёміцца з вершамі Міхася Пазнякова, Казіміра Камейшы, Валерыя Калінічэнкі і Браніслава Спрынчана (у перакладзе Міколы Шабовіча), апавяданнямі Юліі Зарэцкай і Анатоля Андрэева (твор апошняга перастvораны Міхасём Кенькам). Раздзел крытыкі і літаратуразнаўства прадстаўлены артыкуламі Валянціны Навіцкай (прысвечаны характарам інтэрпрэтацыі народнага эпасу У. Караткевічам і Я. Баршчэўскім), Серафіма Андраюка (рэцэнзія на «Маю бібліятэку», апошні твор Янкі Сіпакова), Івана Саверчанкі (пра беларускую літаратуру эпохі Рэнесансу). Праз фрагменты ўспамінаў Віктара Гардзея паўстае постаць вядомага журналіста і навукоўцы Барыса Стральцова. «Полымя» друкуе фрагменты спадчыны гісторыка, археографа, этнографа і фалькларыста Івана Барычэўскага (уступны артыкул, пераклад з рускай мовы, каментарый і публікацыі Аляксандра Вашчанкі). Алесь Марціновіч знаёміць чытачоў з асобай Сымона Хурсіка, чыя творчасць была заўважана Максімам Гарэцкім. Леанід Яўменаў разважае над канцэптуальнымі асновамі палітычнай філасофіі Аб'яднаных Нацый Еўропы. Арцём Кавальчык выказвае свае ўражанні пра кнігу казак Ганада Чарказяна «Талісман».

# Кантэксты для тэкстаў



Алена КАРП

Калі вас спытаюць пра сучасных беларускіх мастакоў, выцягніце з паліцы пару нумароў «Нёмана». Не перабіраючы — любыя, што трапяцца пад руку. Думаю, вы зможаце ўразіць суразмоўцу. А дзеля рубрыкі «Беларусь жывапісная» «Нёману» сапраўды варта вылучыць асобнае месца на паліцы. Так, на вокладцы восьмага нумара — фрагмент карціны Таццяны Грыневіч, яркі, сакавіты, спелы і мройны, як апошні летні месяц. І нечага такога ж яркага, запамінальнага міжволі чакаеш і ад зместу часопіса.

Калі вас спытаюць пра сучасную беларускую літаратуру, то тут такіх адназначных рэкамендацый не будзе. Пагартайце свежыя выданні, разважце, што прапанаваць свайму госцю, каб пакінуць прыемнае ўражанне.

Што да жнівеньскага нумара «Нёмана», то ў ім можна раіць матэрыялы так бы мовіць, «пазалітаратурнай» часткі. Напрыклад, інтэрв'ю з жонкай Міхася Стральцова Галінай Стральцовай, падрыхтаванае Наталляй Казапалянскай. Апошнім часам шырэй і глыбей усведамляецца значэнне творчасці Міхася Лявонавіча для беларускай літаратуры. Можна спадзявацца, што яго спадчына будзе грунтоўна і ўсебакова прааналізавана, а што яна таго вартая — ужо, бадай, аксіёма. Зразумела, для даследчыка акрамя ўласна тэкстаў важны яшчэ кантэкст. Ён акурат і аднаўляецца дзякуючы падобным публікацыям. У інтэрв'ю «Спачатку было каханне» не ставіцца задача стварыць парадны партрэт, наадварот, агучваюцца пэўныя балючыя моманты. Пры гэтым мяжа, за якой зазіранне ў чужое жыццё становіцца неэтычным, не пяройдзена, патрэбны баланс паміж адкрытасцю і далікатнасцю, паважлівасцю захаваны.

Матэрыял Наталлі Прушынскай «Андрэй Мрый на Поўначы ў ссылцы» ўзбагачае біяграфію пісьменніка, бацькі аўтаркі, фактамі, канкрэтнымі датамі, спасылкамі на дакументы і цьмянымі дзіцячымі ўспамінамі. Разам з тым і матэрыялы следчай справы не даюць адказаў на пытанні пра лёс страчаных рукапісаў і трагічную гібель брата Шашалевічаў. «По приезде в разговоре взрослых присутствовал Андрей, но самого его не было». Гэтая фраза шмат што тлумачыць. Родная дачка вымушаная пісаць пра бацьку, кіруючыся пераважна чужымі ўспамінамі і казёнными дакументамі. Этапныя шляхі забралі яго ад сям'і, і цяпер проста фізічна немагчыма стварыць дакладны партрэт. Такі штрых да партрэта эпохі.

Рубрыка «Verbatim» ужо стала выконвае культурна-асветніцкую функцыю, распавядаючы пра тое, што тэатр бывае розным, што ён можа станавіцца полем для эксперыментаў, і гэта адбываецца ўжо і ў нашай прасторы. Інфармацыя пра тэатр, якога кансерватыўныя гледачы не ведалі, не заўважалі ці не хацелі заўважаць, — таксама крок да паразумення і прыняцця. У гэтым нумары аўтар рубрыкі Алена Мальчэўская прадстаўляе чытачам рускага рэжысёра Дзмітрыя Валкастрэлава і — ускосна — беларускага драматурга Паўла Пражко.

Вяртаючыся да ўласна літаратурнай часткі часопіса, варта згадаць вершы Віктара Гардзея. Яны пасуюць восені — медытатыўныя, роздумныя, прасякнутыя той настальгіяй, з якой людзі звычайна азіраюцца на прамінулую вясну («Журавли — тревоги трубадуры…»), тых, каго ўжо няма з намі («Выйдешь из белого облака в белом…») і ўласны шлях:

*Похоже: как грачей на свежей пашне,*
*Прошедших дней спугнул я череду,*
*Ищу чего-то, может, день вчерашний,*
*Хоть знаю: ничего я не найду.*

Так змена сезонаў — ад жнівеньскага сонца і кавуноў да верасnёвай зябкасці — патрапіла і на нёманскія старонкі. Чытачу, зрэшты, застаецца спадзявацца на восеньскае натхненне, на тое, што і невясёлым дажджлівым вечарам яму будзе што пачытаць акрамя праверанай класікі.

# Супярэчнасці і неспадзяванкі



Алеся ЛАПІЦКАЯ

За лета «Маладосць» прыкметна змянілася: больш смелымі і займальнымі сталі тэмы публіцыстычных матэрыялаў, з'явіліся шматлікія спасылкі на сайты і блогі. Узніклі невялічкія новыя рубрыкі, адрасаваныя пераважна падлеткам (некаторыя змяшчаюцца на адной старонцы і нават не вылучаныя ў змесце). Калі раней «Маладосць» адрозніваласа ад іншых літаратурных часопісаў найперш сярэднім узростам аўтараў, то сёння выданне ператвараецца ў масток між танюткай «Бярозкай» і беларускай культурнай прасторай: да мэтавай аўдыторыі далучаюцца вучні сярэдняй школы.

Ці магчыма, каб чытачамі аднаго часопіса былі і вясёлыя сямікласніцы, і паважаны прафесар? У выпадку восьмага нумара «Маладосці» гэта цалкам верагодна: дзяўчатак зацікавіць «Радасная падстава» В. Шэляговіч ці «Эратычна-турыстычна-лінгвістычнае» Д. Дудзінскага, а навуковец, напэўна, прагледзіць артыкул З. Давідоўскага «Пра з'яўленне аднаго верша…», прысвечаны жыццёвым акалічнасцям У. Дубоўкі і знакамітаму вершу «О, Беларусь, мая шыпшына». Але не наадварот!

Ядро часопіса (паэзія, проза, крытыка) пры ўсіх метамарфозах застаецца нязменным — менавіта добрыя мастацкія творы аб'ядноўваюць вакол выдання самых розных чытачоў. Характэрна, што апошнія нумары новай, нязвыклай, крыху стракатай «Маладосці» распачынаюцца «Жыровіцкім дыярыушам» — творам, які адразу ставіць пад сумнеў агульныя ўяўленні пра сучаснасць. Унутраны маналог набліжаны да плыні свядомасці, успаміны чаргуюцца з развагамі пра душу ды Бога і перапыняюцца радкамі з тэксту *The Beatles* ці складаюцца ў верлібры. Тэкст поўніцца гаркотай, роспачлю, няўпэўненасцю і, здаецца, не мае нічога агульнага з айцом Яўстафіем на фотаздымку, — зрэшты, увесь часопіс адметны супярэчнасцямі ды неспадзяванкамі.

Аптымістычнае ўражанне пакідаюць творы дэбютантаў — вершы В. Агапонавай і апавяданне А. Белахвостава. Найлепшая публікацыя нумара — паэзія М. Латышкевіч, дзе джазавыя матывы злучаюцца з напевам калыханкі і рыпеннем старых аўтобусаў, а галоўны герой — добры казачны кот. Аўтарка як быццам без складанасці знаходзіць і камбінуе суладныя вобразы, настройваецца на вершаваны памер і падбірае рыфмы. У вершы «Дождж праліўся…» М. Латышкевіч метафарычна сцвярджае заўсёднае паўтарэнне і ўзнаўленне: чалавек блукае ў «вязі сцежак» і пішa крокамі «папуры з гісторый»:

*Зноў сціраe, быццам час,*
*рысы словаў мора.*
*Цягне сонца за сабой прадзіва марское,*
*Каб пасля яго вярнуць*
*з дажджавой вадою.*

З кола ўзнаўленняў, паўтарэнняў, сугуччаў і паэтычных пошукаў — вершы А. Далімаева і М. Шабовіча.

Проза нумара прадстаўлена творамі І. Шорац і І. Хадарэнка. Але калі першая аўтарка ў апавяданні «Ноч. Дзень. Ноч» спрабуе «запаліць зорачкі надзеі і аптымізму», то І. Хадарэнка «ганарар за публікацыю ахвяруе Беларускаму дзіцячаму хоспісу». У апавяданні «Усё будзе добра» пісьменніца ставіць пад сумнеў звыклую аптымістычную прыказку: невылечна хворыя памруць, выпівохі заробяць інсульт, папугайчык, які трапіў на мароз, непазбежна змерзне, і цуд не адбудзецца нават на Новы год, нават для гераіні-Надзеі.

Безумоўна, зацікавяць чытача ўспаміны А. Глобуса, прысвечаныя вучобе ў першым — восьмым класах, з невялікім эпілогам-падагульненнем з цяперашняга жыцця. «Вясёлыя і сумныя слоўцы» чамусьці застаюцца ў памяці як гісторыя нянавісці да савецкай школы — нянавісці да аднакласнікаў, настаўнікаў, будынкаў і нават універмагаў, дзе прадаецца форма. «Дзве школы» нагадваюць, што пакуль яшчэ не кожнаму беларускаму пісьменніку можна прышпіліць цэтлік вялікага гуманіста: А. Глобус не спяшаецца любіць, шкадаваць, разумець і апраўдваць, ён ставіцца да сваіх герояў крытычна і патрабавальна і не даруе ані фізічных заган, ані спецыфічных паводзін. У атмасферы насцярожанасці і нядобразычлівасці такі знаходзіцца месца сяброўству, павазе, жартам і радасці — але чытаць пісьменніка-мізантропа больш камфортна, чым мізантропа-мемуарыста.

«Дзве школы» добра суадносяцца з рубрыкай «Пралог»: наступны нумар «Маладосці» будзе часткова прысвечаны абмеркаванню школьнай праграмы па беларускай мове і літаратуры. Дыскусія мае быць цікавай — вось толькі ці варта чакаць канкрэтных вынікаў? «Тэма» гэтага нумара таксама прывабная — «чорныя капальнікі», пра якіх распавядаюць археолагі, нумізматы, студэнты. У часопісе змешчаны і творы такіх розных аўтараў, як А. Вашчанка і Л. Леванавіч, В. Назараў і В. Рычага. «Мрый — публіцыст», «Rock forever…», інтэрв'ю з намеснікам міністра адукацыі — што ў новай «Маладосці» выбіраеце вы?

Уладзімір ЛІПСКІ



# Мае маленні

## За ананіма-плявузгалу

*Чорныя хмары,
уздыміце палахліўца ўвысь.
Хай пярун
прачысціць яму вушы.
Хай маланка
не слепіць яго зрок,
а нябеснае свяціла
прасушыць глузды.
Сляпы крот,
навучы відушчага бачыць.
Каб і ў цемры
мог адрозніць чорнае ад белага,
карэньчык ад чарвяка,
сонца ад месяца.
Сын Божы,
скіруй шкодніка да веры.
Хай жа немач яго
Сыдзе на сухі лес,
у зямныя расколіны,
у гадзючыя норыны,
у балотную твань.
А калі засвярбяць рукі
тварыць ананімку,
калі жаба заквокча ў грудзях,
калі закарціць некага ачарніць,
апаганіць, унізіць, растаптаць,
хай з Нябёсаў у той міг
прыляціць да яго эсэмэска:
«Адшкрабіся, стуканчык, ад сваіх грахоў
Раней, чым распінаць бязвіннага».
Амінь.*

## За паклёпніка-балаболку

*Не за сінімі морамі,
не за высокімі гарамі,
не на векавым дубе,
не ў пчаліным вуллі,
не ў пякучай крапіве,
не ў мурашыных харомах,
а непадалёк ад цябе,
у мяккай падушачцы,
у клубку нітак
тырчыць вострая голка.
На самым яе кончыку —
твой паратунак.
Набярыся адчаю,
смеласці, цярпення
і пачастуй той іголкай
свой свярбячы язык.
Будзе балюча,
стане спякотна,
невыносна млосна,
потна.
Але ведай —
гэта і ёсць тваё
ачышчэнне.
Ад балбатні,
каверзнай жуйкі,
славеснай пякоткі,
кепскіх думак.
А перад сном
папрасі выбачэння
ва ўсіх,
каго скрыўдзіў сваёй звягай.
І перахрысціся
ў імя Айца, Сына і Святога Духа.
Амінь.*



Фота Кастуся Дробава

Лёля БАГДАНОВІЧ



## Кахала

*Як ні было, ды ўсё ж кахала.
Кахалі шчыра і мяне.
Пяшчота ў вочы пазірала
У калярова-звыклым сне.
Кахала прагна і аддана,
Як толькі я кахаць магла.
Дарыў цяпло і ласку ранак
І кветка папараць цвіла.
Увечар зорачкі над хатай
Не дазвалялі сумаваць,
Збіраўся месячык шчарбаты
Са мной у хованкі гуляць.
А я пляла карункі з кветак —
Рамонкаў, сціплых васількоў.
Пляту вянкі я і дагэтуль
З крылатых мар, прыгожых сноў...*

## Паркалёвыя мары...

*Паркалёвыя мары
У рамонкавых снах.
Чаравікі да пары
Знойдуць зоркавы шлях.
З адвячорка да рання,
Ад цямна да цямна
Заспявае кахання
І пяшчоты струна.
Вырастаюць і крылы,
Калі згода між нас,
Скуль бяруцца і сілы,
І спыняецца час.
Паркалёвыя мары...
Не хачу залатых!
Чаравікі да пары —
Лёс адзін на дваіх!*

## З люстэрка пазірае незнаёмка

*Развітвацца балюча з маладосцю —
Прывыкнуць і гукаць яе дарма.
Хандра штодня наведваецца ў госці,
І паратунку ад яе няма.
З люстэрка пазірае незнаёмка.
Тады з вачэй і смутак напльіве.
Няўмольны час нацягвае пастромкі
І на часцінкі сэрца маё рве.
Але ж душа ані не пастарэла
І з часам не згаджаецца ніяк.
І я кажу аптымістычна-смела:
«Шчэ на гары маёй не свіснуў рак!»*

Дэбют

Алена БАСІКІРСКАЯ



Алена Басікірская з вершамі ў «ЛіМе» друкуецца ўпершыню, хоць чытачы рэспубліканскіх выданняў ужо ведаюць яе як аўтара празаічных замалёвак і нарысаў. Нарадзілася ў Полацку, цяпер працуе ў Глыбоцкім раёне настаўніцай беларускай мовы і літаратуры. Завочна вучыцца на 4 курсе філалагічнага факультэта БДПУ імя Максіма Танка.

## Царыца ноч…

*Царыца ноч у чорным аксаміце
Лучыну паліць — захад чырваніць,
І сумна келіх сну нагбом дапіць,
Дык вы мне, зоркі, казку раскажыце.*

*Гляджу ў акно: там цемра ахінае
Прастору дня раскінутым крылом.
Наўкол усё зачаравана сном,
Як квеценню чаромхавай у маі.*

*Царыца ноч ступае чынным крокам
І адганяе мітусліві дзень.
На ложак мой кладзецца сонны цень,
А ў думках я ад сну яшчэ далёка.*

## Трыялет

*Твой светлы позірк усміхнуўся міла,
Ён блізкі мне і вельмі дарагі.
Нас не пужаюць цяжкія шляхі.
Твой светлы позірк усміхнуўся міла.
Мы не сябры для вусцішнай тугі,
Заўсёды смех-званочак я любіла.
Твой светлы позірк усміхнуўся міла,
Ён блізкі мне і вельмі дарагі.*

## Жыццё

*Жыццё не бывае сумным,
Жыццё не бывае простым,
І трэба ў натоўпе тлумным
Жыццё шанаваць з узростам,
Бывае, штурхне знянацку,
Калі ж апякае доўга.
Жыццё не пустая цацка,
А ўхабістая дарога.
Ідзе ды вядзе па скрухах,
Па радасцях ды спатканнях.
Павольнае часта ў рухах,
Яно не бывае крайнім.
Самі, як што, вінаваты?
З гэтым не пагаджуся.
Прычын у жыцця багата
Нас пакідаць у скрусе.*

## Песня мая душэўная

*Мне даспадобы раніца,
Месяц па небе коціцца.
З зоркамі там сустракаецца,
Траўка ў расе маркоціцца.
Гэтай парой ціхутка
З вершамі — у абдымках я.
Астра глядзіць бялюткая,
Рэчка — празрыста-плыткая.
Я ж пакладу радочкамі
Песню сваю маёвую.
І праспявае ночкаю
Конік санату новую.
Песня прыгожа зложыцца,
Радаваць будзе кожнага.
Шчасце і радасць множацца,
Я іх мінаю пожняю.
Песню маю душэўную
Так заспяваць мне хочацца.
Раніца каралеўная
Важна ад сонца моршчыцца.
Я ж вазьму ў рукі ціхенька
Томік знаёмы з вершамі.
Спелым паглядам вішанька
Хоча ўчытацца першаю.*

Марыя РУДОВІЧ

## *Фантасмагорыі*

# Уначы



Горад спаў. Драмалі праспекты, ціха саплі завулкі, ля ракі абаранкам скруціўся парк. Згаслі каляровыя вітрыны, сцішыліся гаваркія базары, змоўклі шумныя крамы і крамачкі. І толькі ў адной з іх чуўся ціхі шоргат.

Уначы рыбы сабраліся на раду. Рада была не першая, а вось ноч апошняя — тут, на старым жытле. І ўсе — нават самая дробная плотка — ведалі гэта. А што да кількі — дык тая ад хвалявання ўвогуле страціла прытомнасць.

У залах панавала цішыня, тры акны — два шырэйшыя і адно вузейшае — глядзелі на апусцелы горад, пакручастыя прыступкі — восем уніз і адну, дзявятую, на вуліцу, — агарнуў змрок.

Час ад часу чуліся няўцямныя гукі, недзе пад самым дахам прабег вятрыска, у доме насупраць рыпнулі варотцы.

З-пад столі звалілася чарапаха, па падлозе прапоўз марскі вожык, побач мільгануў уюн. Чырванапёрка і карп сцішыліся ў кутку, у розныя бакі глядзела камбала. На падыходзе былі караблі — чатыры вялікія акіянскія сейнеры — і вакол іх белымі грабеньчыкамі кіпелі салёныя марскія хвалі.

Рыбы нясмела туліліся адна да адной і моўчкі — насельнікі водных глыбінь ўвогуле маюць звычку маўчаць — чакалі пачатку.

Акурат пасярэдзіне невялікай залы сядзеў руды кот. Не, яны ніколі не сябравалі, рыбы і кот — спрытны шэльма надта ж любіў цішком паласавацца рыбкай, праз што тыя мелі вялікі клопат і турботы, — але сёння ён лічыў абавязкам далучыцца да агульнай справы.

— Шаноўнае спадарства… — як самы паважаны і ўплывовы распачаў прамову сом, узвышаючыся над грамадой, — паплечнікі… таварышы… сябры… Наш утульны дом, наша маленькае жытло… — ён абвёў вачыма сцены, затрымаў позірк на гіпсавых барэльефах з каляровымі выявамі сваіх далёкіх і блізкіх сваякоў — шматлікіх прадстаўнікоў рыбінага роду. — Не ведаю, што й прапанаваць… і заспакоіць вас не выпадае… — прамоўца памаўчаў, варушачы вусамі, цяжка ўздыхнуў, а тады працягваў, — было і горш, было і лепш… — сом зноў уздыхнуў, хапаючы ротам паветра. — Але каб вось так… з нашага дома… дзе нас кожны ведаў… дзе мы столькі гадоў… дзе мы заўсёды… — ён раптам несуцешна заплакаў, і буйныя слёзы пакаціліся на падлогу. Вакол мітусіліся занепакоеныя селядцы.— Вось і надышла наша чарга…

«Наша чарга… наша чарга», — пранеслася па зале.

— Мы адны, — зашапталіся рыбы. — Ні аднадумцаў, ні сяброў… нікога… толькі чужынцы… чужыя твары, чужыя ўчынкі…

— А ты памятаеш, — звярнуўся пячкур да акуня, — пах хлеба на нашай вуліцы? А смачнае малако і пахкае масла? А духмяны сыр?

— Та-а-ак… А цяпер газай смярдзіць…

— А таго дзівака, што ўсё гартаў кніжкі і шукаў на небе Сузор'е Рыб?

— Та-а-ак…

— А песню памятаеш?.. «Ты ж мая, ты ж мая перапёлачка…»

— Та-а-ак… А цяпер — «На красивые пардон посмотри со всех сторон…»

Рыбы зусім разгубіліся.

— Што рабіць?.. Куды падавацца?.. Як перажыць?.. Куды мы?.. Адны!.. Кінутыя!.. Нікому не патрэбныя!..— чуліся роспачныя галасы.

Кот асцярожна паварушыў хвастом.

За вокнамі — двума шырэйшымі і адным вузейшым — мігцелі зоркі, на прыступках — восем уніз і адна, дзявятая, на вуліцу — не чулася ні гуку.

— А ты што хаваешся ў зацішку?! — накінулася раптам салака на шчупака, які як нікалі сціпла і ціха сядзеў у зарасніку і амаль незаўважна варушыў плаўнікамі. — Ты ж такі ўвішны і разумны… такі спрактыкаваны… такі герой… пальца ў рот не кладзі… каго хочаш глынеш… дзе ты толькі не сноўдаешся… а зубы — во-о-о! — каго хочаш грызануць… скажы хоць што… параду якую дай…

— А што казаць… што раіць… — гаротна адгукнуўся шчупак. — Што я магу?.. Ну, што я магу?!.. Хто мяне пытае?!.. Мае зубы!.. Ты пра што?!.. Даўно ляскаць няма чым… вось і чакаю з мора пагоды…

— Цьфу! — злосна плюнула салака. — Цнатлівец знайшоўся!.. А калі ты як утрапёны па ўсёй рацэ лётаў за нейкай шпротай… а тая шалахвостка і рада… увесь іл узварушыў… водарасці з карэннем павыдзіраў… я пасля два дні прыбірала… ледзьве разгрэблася… ваду ўскаламуціў… добра яшчэ, што каменне не даўмеўся параскідаць… тады ты розум меў?! Тады ведаў, што рабіў?!..

— Дык я… дык што… ды калі тое было… — збянтэжыўся шчупак. — Ты ўжо занадта, суседка…

— Калі б ні было, стары ёлупень!.. Як успомню той жах… як узгадаю тую каламуць… хоць вока выкалі… дыхаць няма чым… чыстай вадзіцы не ўхапіць… дагэтуль млосна!.. На патэльню б цябе, на патэльню! Прысмаліць бы твой разумны хвост! А то вось яшчэ памятаю…

— Ну, не злуйся, не злуйся, суседка… зусім збэсціла… і ты, калі падумаць, не лепшая…

— Што-о-о?! Ты яшчэ тут будзеш пра мяне — пра мяне, вэнджаную салаку! — нешта плявузгаць?! Ды я зараз цябе… на чыстую ваду! На чыстую ваду…

— Не трэба, не трэба, шаноўныя, сварыцца… — прымірэнча прамовіў мянтуз. — Не след зараз займацца абы-чым… Нам бы тут як выжыць… ацалець… Во-х-х!.. У каго яшчэ якія прапановы?

— Можа, нам у музей падацца… у гістарычны, напрыклад… ці ў мастацкі… а то і ў прыродазнаўчы… гэта ж зусім побач. Можа, нас там прымуць? — у голасе карася прагучала слабая надзея.

— Мы не гістарычная каштоўнасць, і не мастацкая… мы так… прыналежнасць месца… і часу… — азваўся сом.

— Але ж прыналежнасць… прыналежнасць…

— Круціцца, круціцца трэба! — усклікнуў вугор. — Ужыць дыпламатычныя сродкі, абвясціць мараторый на правядзенне будаўнічых работ, пачаць перамовы…

Кот штосьці мяўкнуў сабе пад нос.

— Трымацца! — прагучаў голас. — З усіх сіл… не паддавацца… — наперад выступіў краб. — Клюшнямі!.. Клюшнямі ўчапіцца!.. Хіба мы зломкі?!

— Дзверы шчыльна зачыніць… барыкаду зрабіць… — высунулася з-пад панцыра марудлівая чарапаха, — а калі што, дык і краны паадкрываць… змыць усё чужое…

— Не ўтрымацца нам… не ўтрымацца… павыганяюць… паразбіваюць, — уздыхнула траска.

Рыбы хваляваліся.

— Гэта наш дом…

— Наша вуліца…

Доўга яшчэ гаравалі і спрачаліся рыбы, не ведаючы, як ратавацца, што прапанаваць, якія захады рабіць і ці ёсць ён увогуле, той паратунак.

Раптам у перадсвітальнай смузе пачуўся аднастайны гук званочкаў. Спалоханыя рыбы кінуліся хто куды, чарапаха зноў апынулася пад столлю, вугор скруціўся колцамі. Бомканне ўсё набліжалася. Адзін за адным паволі рухаліся вярблюды, гучалі гартанныя галасы пагоншчыкаў, то тут, то там час ад часу мільгала белая чалма.

Калі развіднела, на пакручастых прыступках ляжаў гарачы пясок.

З самага ранку на праспектах і вуліцах панавала невыносная гарачыня. Горад абыякава маўчаў.

# Увосень

Стары дом з'яўляўся на звыклым месцы ўвосень. Акуратна, каб выпадкова не паслізнуцца і, барані божа, не паваліцца, ён нячутна спускаўся з пагорка, рабіў некалькі крокаў па вузкай сцяжынцы, збочваў у знаёмы двор і асцярожна ўладкоўваўся ля цаглянага трохпавярховіка, тулячыся сваім драўляным бокам да яго цёплых парэпаных камянёў. Тады, ціха парыпваючы бярвеннем, адчыняў нізкую брамку, даючы волю колішнім галасам, атрасаў з ганка дарожны пыл і, слухаючы звон трамваяў у суседнім завулку, сціхаў. Ён заўсёды прыходзіў сюды ў няпэўны час жоўта-мройлівага лісця, празрыстага павуціння і халаднаватага паветра — любіў гэту пару. Ягоныя сябрукі, такія ж старыя дамы, не прыходзілі ніколі, — мо хварэлі, а мо проста патрэбы не было, — а ён вяртаўся на гэту вуліцу пад высокімі таполямі, у зарослы сад, да маркотнай ракі. Ён чакаў сустрэчы ўвесь год — лічыў тыдні і месяцы, а прыходзіў увосень. Вуліца штораз прыгажэла, нібыта рабілася маладзейшай, залівалася залацістым святлом, лёгка бегла на пакручасты груд. Стары з задавальненнем адзначаў, як пасуе ёй чырвона-барвовы колер восеньскага ўбрання, як няўхільна падтрымлівае яна строгі парадак, здавалася б, хаатычнага руху, як упрыгожвае яе чыстае шкло гмахаў. Штогод ён знаходзіў яе нейкай новай, нечаканай, знаёмай і незнаёмай, вядомай і невядомай, але заўсёды жаданай. Праўда, ведаў, што яго вуліца мае салідны ўзрост, шмат што бачыла і многа памятае, але не ўсё хоча сказаць і не заўсёды мяняла не толькі свае аздабленні, але нават імя: даўней яна звалася Ленінскай, а да таго была Губернатарскай, а перад тым Французскай, а яшчэ раней… Ат, а ці не ўсё роўна ўрэшце, як яна звалася раней?! Галоўнае, што яны былі разам. Беглі імгненні, складаючыся ў хвіліны і гадзіны. Высока ўзнімаючы комін над спічастым дахам, стары дом маўчаў і думаў пра сваё. Ён глядзеў на няспынны калаўрот пярэстай мітусні, на ахопленых заўсёднымі клопатамі людзей, якія спяшаліся па сваіх справах, на яркія агеньчыкі модных машын, на гадзіннік у суседнім двары, які па-ранейшаму адлічваў час. На невысокім беразе ракі ўглядзеў сівую жанчыну, якая, відаць, кагосьці чакала і ў задуменні глядзела на гульню хваль, на сонечныя водбліскі на цёмнай вадзе, на палёт шэрых качак, раз-пораз спынялася каля клумбы з раскошнымі восеньскімі кветкамі ды час ад часу сыпала зерне вясёлым верабейкам, што скакалі па асфальце.

Стары паслухаў, як шамаціць, ападаючы, лісце ў садзе, падзівіўся, пра што гамоняць галіны на дрэвах, і прыгадаў, як калісьці даўно такой самай парой з'явілася перад ім маленькая дзяўчынка. Цікаўная гарэза адразу ж узлезла на гарышча, тузанула як след падслепаватае акенца і толькі што не звалілася ў зараснікі крапівы і шыпшынніку — ён ледзь паспеў падхапіць яе і ўпіхнуць у пакойчык. З таго часу стары дом страціў спакой. Ён браў удзел ва ўсіх яе гульнях і забаўках: яна ведала ўсе яго патаемныя куточкі, лесвіцы, калідоры, прыбудовы і сховішчы, прыступкі, гучкі і засаўкі, любіла ўсе яго гукі, колеры і пахі, усе яго таямніцы і звычкі. Ён расказваў ёй пра Чырвонага Каптурка і Шэрага Ваўка, пра Папялушку і Злога Цмока, пра царская сына і дачку чараўніка, пасылаў ёй ласкавыя песні і добрыя сны. Улетку дарыў ёй духмяныя кветкі з саду і паказваў карысныя расліны, а ўзімку наладжваў вясёлыя святы, упрыгожваючы навагоднюю ёлку бліскучымі шарамі і цацкамі. Ён нязменна апекаваўся ёю і пільна сачыў, калі яна, падобная да медзведзяняці ў сваім белым футры, гуляла ў снежкі, ляпіла снегавіка ці ляцела на санках з высокай горкі, хуценька зачыняў усе весніцы і дзверы, незадаволена глядзеў на незнаёмцаў, калі тыя з'яўляліся, а аднойчы шпурнуў ладнага ледзяша ў злоснага дзядзьку, які без дай прычыны бадзяўся пад вокнамі і, мяркуючы па ўсім, меў намер напалохаць малую. Нягоднік завішчэў і подбегам кінуўся прэч, паціраючы вялікі гуз, што адразу ж ускочыў на лбе, а дом задаволена пасміхаўся.

Часам стары дом шаптаў ёй пра нешта даўняе і дарагое, найдаражэйшае ў свеце, добра ведаючы, што свой галоўны скарб ён аднаго разу адкрые і пакіне менавіта ёй — ён так даўно чакаў. Ішоў час, стары ўсё шукаў зручнага моманту і аднойчы адважыўся. Дзяўчынка зручна ўладкавалася на канапе і гартала прыгожую кніжку. «Пасляліты люд», — выразна прамовіў ён і адразу ж змоўк. Сонечны прамень асвятляў каляровыя малюнкі, лашчыў бялюткія старонкі, адбіваўся ў бліскучай вокладцы. Малая здзіўлена ўзняла галаву, прыслухалася, азірнулася, спрабуючы зразумець, адкуль данеслася слова, але больш нічога не пачула. Яна для чагосьці памацала, папраўляючы, цырату з карункай на круглым стале, тады ўзяла сакавіты яблык, патрымала ў руках, але есці не стала — паклала назад. Закруцілася па пакоі ваўчком, засакатала, заскакала, шчаслівая смеючыся з нейкіх сваіх жаданняў, з чагосьці невыразнага і невымоўнага, што ведала толькі яна адна, радуючыся нейкай сваёй радасцю і сваім адкрыццям. Праз колькі дзён стары зноў прамовіў запаветнае слова. Усхваляванае дзяўчо кінулася шукаць адказ. Думкі яе беглі ад стагоддзя да стагоддзя, ад адной краіны да другой, блукаючы па чужых дарогах. Стары паварушыўся і адразу ж скінуў з паліцы кніжку — невялікую, старэнькую, танюткую. На вокладцы было пазначана знаёмае імя.

Увечары ён шаптаў ёй, як у цяжкі час, насоўваючы ніжэй свой дах, злосна пазіраючы ва ўсе бакі і беручы аканіцы на балты, ахоўваў паэта ад бяды, як бараніў яго, калі па бруканцы грукацелі танкі, а на ганку тупалі боты чужынцаў, як пазней захоўваў яго слова. Ён расказваў ёй, як калісьці стаяў тут друкарскі варштат і чалавек у старадаўніх строях з радасцю і здзіўленнем нізка схіляўся над друкаванымі літарамі. «Гэта тваё, — ціха гаварыў ён. — Спрадвечнае. Беражы».

Беглі гады і дзесяцігоддзі. Лета змянялася зімой, а зіма — летам. Шырокі шлях часам рабіўся вузкай калінай. Тады яна вобмацкам ішла ў цемры, сціскаючы ў жменьцы залатое зерне яго слоў і сваіх сноў, шукала каштоўныя зярняткі, згубленыя і разрабаваныя, раскіданыя ў прасторы і часе. Вакол штосьці свісцела, выла, крычала, галёкала, гойсала, злосна рагатала. «Навошта табе? — даводзіў нейчы голас. — Забудзься і пакінь!» Яна не зважала, рухалася далей, і нават не заўважыла, як зрабілася старой і сівой, вочы яе ўжо амаль не бачылі.

Стары дом застаўся адзін, зусім адзін — змарнелы, спрахнелы, нікому непатрэбны і кінуты, ён знікаў, раставаў у паветры, рабіўся ўспамінам, лёгкім воблачкам, далёкай марай. Ён сыходзіў, ужо ні на што не спадзеючыся, нічога не шкадуючы, не азіраючыся.

Але аднойчы пачуліся гучныя крокі. Аднекуль здалёк, заціскаючы ў жменьцы залатое зерне, бегла да свайго дома, да сваёй вуліцы вясёлая гарэзлівая дзяўчынка. Ад ракі спяшалася сівая жанчына, захінаючы ад пранізлівага ветру старонкі з малітоўнымі словамі. Яны сутыкнуліся на знаёмым парозе і здзіўлена паглядзелі адна на адну. Надыходзіў няпэўны час жоўта-мройлівага лісця, празрыстага павуціння і халаднаватага паветра. Стары дом з'яўляўся на звыклым месцы ўвосень.



# Зінаіда Камароўская: «Муж раўнуе да Коласа»

У музейным свеце навіна: Зінаіда Камароўская, дырэктар літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа, атрымала званне заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь. Не ведаю, як наконт яе калег, але мяне гэта не здзівіла: у большасці сталічных культурных імпрэз заўжды ад імя музея ўдзельнічае Зінаіда Мікалаеўна. Да таго ж, сам музей заўжды на слыху — дзякуючы акцыям і праектам, якія адбываюцца, лічы, штодня. Нават інтэрв'ю нашае пачалося не з пытання журналіста, а з гарачага расповеду спадарыні Зінаіды пра планы музея.

— Мы толькі-толькі ўстанавілі інтэрактыўны комплекс «Якуб Колас: чалавек, эпоха, час». Цяпер можна атрымаць сувеніры: паштоўку з вашым фота, дыск, на якім будзе запісана, як вы чытаеце верш Коласа, а яшчэ, згуляўшы ў віктарыну, зарабіць грошы-«каласочкі», якія даюць права бясплатна наведаць наш філіял. Адразу ж можна зрабіць віртуальную экскурсію па Коласавых мясцінах. У экспазіцыйнай зале ўстаноўлена віртуальная кніга «Каласіяна» з творамі Коласа, рукапісамі і ўрыўкамі з экранізацыяй. Яшчэ ў мяне ёсць мара — «агучыць» другі паверх. Хочацца, каб наведвальнік прыйшоў і адчуў прысутнасць гаспадара. Вось Колас падымаецца цяжкімі крокамі па лесвіцы, уваходзіць у кабінет, чуем, як ён адкрывае шуфляду, бярэ паперу, пачынае пісаць апошні ліст… З радыёл будуць гучаць мелодыі пяцідзясятых гадоў. У гасцёўні на другім паверсе часта збіраліся сябры-пісьменнікі Коласа. Чаму б не даць і іх галасы? Уявіце, вы ўваходзіце ў гасцёўню, а там размаўляюць Танк, Броўка, Маўр. А яшчэ ж філіял на Стаўбцоўшчыне! У Альбуці мы стварылі «Хатку знахаркі», дзе будуць частаваць гарбатай на зёлках і распавядаць пра лекавыя зборы. Усё гэта плануем адкрыць да «Каласавін».

Таксама ўвесь час я марыла вось тут, на сядзібе, устанавіць скульптурную кампазіцыю ў метале: пад дрэвамі, якія сімвалізуюць сям'ю Коласа, у роздуме сядзіць ён сам. Скульптар А. Заспіцкі зрабіў макет, але далей справа не ідзе — вялікія выдаткі. Таму пакуль што абмяжуемся іншай ідэяй: зрабіць героям коласаўскіх твораў у дрэве — Лабановіча з Ядвісяй і Сымона-музыку. Праца ўжо ідзе. Хацелася б і для дзетак зрабіць пляцоўку з героямі дзіцячых твораў Якуба Коласа — з Савосем і катком, Ракам-вусачом ды іншымі персанажамі. І каля кожнай скульптуры будуць змешчаны шыльдачкі з коласавымі радкамі… Самыя далёкія мары — павільён у выглядзе школьнага класа, дзе будуць паказваць фільмы ці слайд-шоу.

**— Адкуль такая любоў да музейнай справы? Можа, у сям'і былі «музейшчыкі»?**

— Не, не было. Тата быў даволі начытаны па тых часах. Ён нарадзіўся ў Цвяры, скончыў дзевяць класаў, працаваў у хаце-чытальні, а падчас вайны быў паранены, прыехаў сюды адведаць бацьку — і застаўся. У нашай вясковай хаце было вельмі шмат кніг: Пушкін, Лермантаў, Дастаеўскі, якога тата вельмі любіў, Бунін… Заўжды выпісваў для нас дзіцячыя часопісы. Нават пісаў вершы — для сябе, як і мама. І ў выніку я выбрала філфак. Пісала вершы, друкавалася ў раённай газеце. Але на філфаку ўбачыла, на якім узроўні пішуць іншыя, і перастала друкавацца, а для сябе і дагэтуль патрошку пішу.

**— У музеі Коласа вы працуеце ўжо 26 гадоў. Як так атрымалася?**

— Пасля ўніверсітэта ніяк не магла ўладкавацца на працу. І калі шукала месца, успомніла, што мне прапаноўвалі прыйсці ў Купалаўскі музей. Мне ўвогуле ўсюды спадарожнічаў Янка Купала. На школьным экзамене я выцягнула білет па Купалу, паступала ва ўніверсітэт — зноў трапіўся Купала, курсавую і дыпломную працы пісала па Купалу. Таму я часта хадзіла ў фонды музея, дзе сустракалася з пляменніцай паэта Ядвігай Юльянаўнай Рамановскай, якая і запрасіла мяне. Так што дзесяць гадоў я адпрацавала ў музеі Янкі Купалы. Ён дасюль мне блізкі і родны, усё адно як першае каханне. А потым так склаліся абставіны, што запрасілі ў абкам прафсаюзаў, але вельмі хацелася вярнуцца ў музей, які цягнуў мяне з неадольнай сілай. І калі мне прапанавалі пасаду дырэктара музея Якуба Коласа, я пагадзілася. Тут і працую са студзеня 1987 года.

**— Кожны дзень вам даводзіцца кантактаваць з процьмай людзей. Стамляецеся?**

— Я не ведаю, што такое стамляцца. Лічу, гэта лёс кіраўніка — нават ноччу думаць пра работу. Не бывае такога, каб я выйшла за парог музея і забыла пра яго. Задум — мора. Зараз працуем над складаннем чытанкі для дзяцей, напрыклад. Калі хораша праілюстраваць кнігу, дзеткі будуць хіліцца да беларускай мовы, да твораў Якуба Коласа. Я гляджу па сваіх унуках, якія заўжды з захапленнем чыталі народныя казкі, а цяпер вучацца ў беларускамоўнай гімназіі.

**— Што ж тады самае цяжкое ў вашай працы і што — самае прыемнае?**

— Самае крыўднае, калі не рэалізуюцца праекты, якія задумаў. А так — якая цяжкасць? Толькі радасць. Я сапраўды шчаслівая, што працую ў музеі, і ў прыватнасці — музеі Коласа, які, да ўсяго, мой зямляк. І мне нават здаецца, што я разумею яго душу. Вось кажуць, што Колас быў суровы. Але ж гэта толькі знешне. Ён быў вельмі добры, шчыры чалавек, баяўся каго-небудзь пакрыўдзіць. Ведаеце, стаўбцовае старэйшага пакалення часта кажуць: «любачка, каб жа цябе не пакрыўдзіць». Думаю, Колас быў такі самы. І мне падабаецца шматграннасць музейнай працы. Нядаўна я пераглядала фотаздымкі і ўспомніла людзей, якія прыходзілі ў наш музей: Анатоль Багатыроў, Заір Азгур, Іван Навуменка, Сяргей Грахоўскі. Частыя госці музея — народныя артысткі Таццяна Мархель, Марыя Захарэвіч... А сям'я Коласа? Памятаю, сяджу, гляджу ў вакно і бачу — ідзе натуральны Колас: паліто, капялюш, пастава… Даніла Канстанцінавіч любіў прыходзіць напрыканцы дня, шмат расказваў, гаварыў, успамінаў, тактоўна павучаў мяне, маладую. Цяпер так прыходзіць Міхась Канстанцінавіч. Мы ўжо так да яго прывыклі, тэлефануем, як свайму чалавеку, і забываем, што гэта сын Коласа. Падумаць толькі!

**— Што вы маглі б назваць самым значным сваім дасягненнем за гады дырэктарства?**

— Не дасягненне нават. Увесь час мае сілы былі накіраваныя на тое, каб музей гучаў. Вельмі складана працаваць у музеі адной персоны. І яшчэ больш складана — у музеі мемарыяльным, дзе няма ніякіх умоў, каб разгарнуцца: ні выставачнай залы, ні лекцыйнай, нават гардэроба няма. Увесь час думаеш, як прыцягнуць людзей. Бясконцыя праекты, напрыклад, «Творчыя сем'і ў Доме Коласа», «Нашчадкі славутых людзей», калі ў доме Коласа сабраліся нашчадкі Тараса Шаўчэнкі, Тычыны, Рыльскага і гаспадара дома. Пад выставачную залу мы аддалі былы кабінет Данілы Канстанцінавіча, дзе прымаем выстаўкі не толькі з Беларусі, але і з замежжа, а таксама раз на месяц мяняем экспазіцыю, робім дні адкрытых фондаў. Дарэчы, фонды ўвесь час папаўняюцца. Нядаўна, напрыклад, знайшліся новыя лісты Коласа.

**— Вы суткамі думаеце пра музей. Колас пакуль не сніцца?**

— Не (*смяецца*), пакуль не сніўся. Але я хачу вам сказаць, што Колас прысутнічае тут пастаянна. Калі застаюся ўвечары ў музеі адна, часам становіцца крыху не па сабе. Чалавек пасля смерці не знікае бясследна, а калі яго яшчэ і ўспамінаць па сто разоў на дзень… Тым больш, што гэта яго дом.

**— Сярод сваіх родных прапагандуеце Коласа? Прымушаеце ўнукаў сядзець над яго кнігамі?**

— Не, не прымушаю, тым больш што цяпер жывём асобна, дзеці раз'ехаліся, і мы засталіся з мужам, які ўжо моцна пранікся Коласам…

**— Раўнуе?**

— Раўнуе... да працы! Кажа: «Ну дык дзе твой дом? Твой дом у музеі. Ты ж там увесь час». Ды яшчэ, малайчына, на выхадных падвязе мяне ў філіял: «Штосьці ты засумавала. Давай праедземся, глянем…» А ўнукам, чатыром хлопчыкам, я стараюся чытаць творы Коласа. Музей жа яны ведаюць да драбніц, любяць яго і нават прапагандуюць у сваіх школах.

**— А ці няма, часам, сярод іх Канстанціна?**

— Ёсць. Яму два гады. Хоць і малы, але ўжо такі сур'ёзны, разважлівы.

**— Не магу не запытаць, якія эмоцыі выклікала ў вас прысуджэнне звання заслужанага дзеяча культуры? Прынялі як належнае ці шчыра ўсцешыліся?**

— Што вы, гэта такі гонар! Усе кіраўнікі стараюцца, і я нават думала, чым жа я лепшая за некага іншага. Але радасць вялікая ад таго, што праца заўважана. Мы заключылі пагадненні ў Польшчы, ва Украіне, у Расіі і Літве. Цяпер намячаецца супрацоўніцтва з Эстоніяй. І, па шчырасці, я нават не чакала, што наш маленькі музей будзе заўважаны. Хоць сябе з рахункаў не скідаю, разумею, што заслуга не мая асабістая. Тут праца калектыву і гонар усёй установе. Адзін у полі не воін.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Чаго баяцца дамавікі?

Што звычайна робяць людзі ўвосень? Правільна, успамінаюць лета і... чакаюць зімы. Таму і тэмы, якія закранаюцца ў верасьнёўскім нумары часопіса «Вожык», блізкія і зразумелыя многім. Лёля Багдановіч клапоціцца пра «Ураджай», Галіна Нічыпаровіч расказвае пра ««Спагадлівых» дзікоў», якія «пагаспадарылі» на агародзе бабы Ульяны, Міхаіл Маскальчук узгадвае прыгоду, якая здарылася яшчэ «за польскім часам» з двума суседзямі-сябрамі на графскім полі (быль «Вартаўнік, сабака, рай...»). Мастакі ж выправіліся на «ціхае» паляванне: Аляксандр Каршакевіч і Алег Карповіч збіраюць грыбы, Юрый Міхайлаў дэманструе, якім павінен быць сапраўдны грыбны дождж. А вось рубрыка «Мабільны фотапрыкол» прысвечана руплівым гаспадыням, якія не выпускаюць з рук закатачную машынку. Глядзіце на «сям'ю» ў слоіку і — спіце спакойна... калі зможаце!

А адпачыўшы на моры, назбіраўшы грыбоў і ягад, выкапаўшы бульбу, можна пагаварыць і пра іншае, больш істотнае. Наталля Кульгавая ў фельетоне «Чаго баяцца дамавікі?» узнімае актуальнае пытанне даўгабудаў у нашай краіне, у рубрыцы «Іголкатэрапія» расказвае пра кантрабандныя прадукты, пра падаткі, што не трапляюць у бюджэт, пра жывучыя і сёння прыпіскі, а ў міні-фельетоне «Сіндром Янучка, ці Калі плача кот» (рубрыка «Навіны з МУС: матай на вус...») паведамляе пра рэвалюцыйнае адкрыццё, зробленае ў галіне крыміналістыкі. Мастак Аляксандр Каршакевіч у міні-коміксе ў рубрыцы «Асцярожна: прахіндзеі!» перасцерагае ад вялікіх надзей на Надзею (ну, ці Свету або Таню). Мужчынам чытаць і глядзець абавязкова!

Байка Віктара Рэчыца «Конь і Конік» вучыць таму, што «...Павінен ты нарэшце зразумець: / Каб сілу паказаць, яе патрэбна мець», Таццяна Дземідовіч кпіць у іранесцы з тых, хто імкнецца «Усюды паспець...», а Валянціна Доўнар у сваіх «Назіранках» разважае пра дактароў і лячэнне, «праклятыя агароды» ды, вядома, стасункі мужчын і жанчын...

Кнігарня «Вожыка» прадстаўляе чытачам гумарыстычную навінку — кнігу вершаваных мініяцюр Міхася Мірановіча пад назваю «Жартачкі». Зборнік складаецца з дзесяці тэматычных раздзелаў і трапна высмейвае заганы сённяшняга жыцця: «...Сталі піць / Гарэліцу кабеты, / Мужыкі / Пайшлі па мужыках...»




У «Студэнцкай гумарыне» весела смяюцца студэнты, бо да сесіі яшчэ далёка (На экзамене ў інстытуце фізкультуры: «Так, давайце залікоўку, цягніце канат!»), а «Парнаскія жарты» цешаць пісьменнікаў: свае новыя пароды прадставілі Генадзь Аўласенка, Васіль Жуковіч, Казімір Камейша, Мікола Тонкавіч.

«Песня ўсім настрой стварае, / З ёю добра марыцца. / А хто песень не спявае, / Той, як грыб, састарыцца!» — спявае Людміла Юшына, і да яе са сваімі прыпеўкамі далучаюцца Расціслаў Бензярук, Віктар Саланец, Лёля Багдановіч. Ну і, вядома, што за «Вожык» без афарызмаў і анекдотаў? «Калі не хочаш нешта рабіць — ты знойдзеш прычыны. Калі захочаш нешта зрабіць — прычыны знойдуць цябе», — сцвярджае Дунька Шып («Думкі ўголас»), а Сяргей Лапцёнак раіць: «Калі не злавіў і аднаго зайца, кажы ўсім, што гнаўся за двума» («Старое на новы лад»). «Мяч яшчэ ляцеў у акно кабінета дырэктара школы, а вучні ўжо гулялі ў хованкі» — падборку анекдотаў на «школьную» тэму падрыхтаваў Кастусь Карнялюк.

Вожыкаўскія мастакі стварылі шмат цікавых карыкатур (напрыклад, Алег Карповіч паказаў, як жыве чалавек у камп'ютарны век) і дзіцячых міні-коміксаў (Павел Гарадцоў намаляваў сапраўды анекдатычныя сцэнкі), а таксама запрасілі ў госці сваіх калег з Украіны — трох Анатоляў: Васіленку, Апчэла і Васільева.

Напрыканцы «Вожык» смела закранае «Інтым-пытанні на развітанне» і настойліва раіць падпісацца на часопіс, каб не выглядаць так, як персанаж на фотаздымку. Які інтым? Які персанаж? Шукайце дзявяты нумар часопіса «Вожык» і самі ўсё ўбачыце!

**Юрый ВЯРБІЦКІ**

*Унікальны праект*

# Прыйсці і застацца

ПАБАЧЫЎ СВЕТ БЕЛАРУСКАМОЎНЫ ПЕРАКЛАД РАМАНА ПРА АПОШНЯЕ КАХАННЕ ФРАНЦА КАФКІ

Летась нямецкі пісьменнік Міхаэль Кумпфмюлер упершыню наведаў Беларусь. Тады ён распавядаў пра свой раман «Хараство жыцця», які толькі-толькі пабачыў свет на яго радзіме. Мінуў час, і нагодай для новага візіту спадара Міхаэля ў Мінск стала тая ж кніга, але ўжо ў перакладзе на беларускую мову. Цяпер і нашы аматары літаратуры маюць магчымасць прачытаць гэты шчымлівы раман пра апошняе каханне Франца Кафкі і маладой кухаркі Доры Дыямант. Праект адбыўся пры падтрымцы Інстытута імя Гётэ ў Мінску, а па-беларуску перастварыла кнігу таленавітая перакладчыца Ірына Герасімовіч. Падчас прэзентацыі беларускамоўнага перакладу рамана спадар Міхаэль распавёў пра гісторыю яго ўзнікнення — ад задумкі да рэалізацыі, раскрыў сакрэты архітэктуры твора, а таксама даў магчымасць прысутным «зазірнуць за далягляд» кнігі — пазнаёміцца з далейшым лёсам галоўнай гераіні.






### «А ПОМНІШ, ЯК УСЁ ПАЧЫНАЛАСЯ?»

— Перадгісторыя даволі доўгая, яна сягае ў далёкую мінуўшчыну. Калі мне было 16, першым аўтарам, якога я пачаў сур'ёзна чытаць, быў Франц Кафка. Цягам двух гадоў амаль не чытаў кніг іншых пісьменнікаў. Якраз тады пачаў пісаць сам, і рабіў гэта ў стылі Кафкі. Праз некаторы час зразумеў, што нельга пісаць, як нехта іншы. Тады давялося развітацца з Кафкам, я нават думаў, што ніколі больш не сустрэнуся з ім. Але потым, падчас пісання іншага твора, я зноў натрапіў на гісторыю апошняга кахання Кафкі, і ўжо тады з'явілася думка, што гэта можа стаць асновай новага рамана. Я пішу пра людзей, якія мусяць трываць вялікі ціск і якім заўсёды не хапае часу. Так лічыць мой выдавец. Сапраўды, калі ўдумацца, то ў гісторыі пра апошняе каханне Франца Кафкі якраз гэта мяне і зачаравала. У герояў года не было, каб выпрабаваць усё, што можа даць каханне чалавеку, але Дора і Франц смела ідуць наперад.

### ГАЛОЎНАЕ — ДЭТАЛІ

— Паводле адукацыі я германіст, а ўсе германісты да кожнага слова, якое кажуць, павінны сабраць нейкія сведчанні. Па другой адукацыі — гісторык, і таму веданне крыніц для мяне абавязковае. У пошуках фактaлагічнай асновы для кнігі я зрабіў тры асноўныя рэчы: пачытаў усё ліставанне паміж Кафкам і Дорай Дыямант, пабываў у тых месцах, дзе яны былі разам, і перачытаў усяго Кафку. У працэсе пісання імкнуся знайсці для сябе дзве асноўныя рэчы. Па-першае, фігура апавядальніка, той голас, які будзе весці чытача па старонках кнігі. Па-другое, мушу выбудаваць стасункі паміж персанажамі кнігі і апавядальнікам, вызначыць, наколькі глыбока ён можа зазірнуць у іх сэрцы і думкі.

### ПІСЬМЕННІК ЦІ АРХІТЭКТАР?

— Перш чым пачаць пісаць кнігу, доўга думаю. Разважаючы над сюжэтам, я заўважыў, што Франц і Дора былі разам менш як год, і тыя месяцы, дзе яны праводзяць адрэзкі жыцця, адпавядаюць порам года. Улетку яны ў Мюрыцы на Балтыйскім моры, увосень і ўзімку — у Берліне, а вясну бавяць у санаторыях Аўстрыі. Спачатку я планаваў, што ў рамане будзе чатыры часткі, але потым усё ж вырашыў, што берлінская частка павінна быць адной. Але тады я мусіў расказваць пра падзеі, што там адбываліся, удвая хутчэй. Да таго ж заўважыў, што гэтыя тры часткі — як тры стадыі кахання: прыйсці, застацца, развітацца. Па сутнасці, кожны з нас перажывае тое самае на зямлі. У гэтым матэрыяле, як і ў кожным, за які бярэцца літаратар, ёсць свой прыхаваны закон, трэба толькі пачуць яго.

Я пастанавіў для сябе, што кніга будзе ў двух «галасах» — расповед будзе весціся то ад асобы Франца, то з пункту гледжання Доры. А паколькі колькасць раздзелаў у рамане цотная, то пачынаецца расповед будзе яго голасам, а закончыцца яе ўражаннямі.

### КНІГА ПРА КАФКУ

— Канечне, гэта раман пра каханне, але як бы ні было, найперш — пра самога Кафку. Для мяне важна не столькі расказаць гісторыю, колькі разбурыць міф, які склаўся пра Кафку. Дарэчы, не ў апошнюю чаргу дзякуючы самому пісьменніку, бо ён нямала спрычыніўся да яго стварэння. А сэнс у тым, што сам Кафка стылізаваў сябе да такога хранічна няшчаснага, непрыдатнага да жыцця халасцяка, які мусіць рабіць выбар: жыць альбо працаваць. Мне падаецца, што гэты міф няслушны, небяспечны і ўвогуле не адпавядае рэчаіснасці.

Прааналізаваўшы біяграфію Кафкі, можна заўважыць, што якраз тады, калі ён быў глыбока няшчасны, то ляжаў у ложку і нічога не пісаў. Хіба толькі некалькі радкоў сваім сябрам. Аднак сваім жыццём Кафка абвяргаў гэты міф. І якраз таму яго апошні год адметны: ён сам пераконваецца ў няслушнасці свайго тэзіса, што жыццё і мастацтва несумяшчальныя. Кафка невылечна хворы, але побач з ім каханая жанчына. Тым не менш, можа, якраз таму ён працягвае працаваць.

А не так даўно змяніўся і стэрэатып пра яго каханку Дору Дыямант: яна нарэшце атрымала ў літаратуразнаўчых даследаваннях тое месца, якога вартая.

### ЗАЗІРНУЦЬ ЗА ГАРЫЗОНТ

— Што ж сталася з Дорай пасля смерці Кафкі? Пра гэта распавядае яе біяграфія, напісаная амерыканскай даследчыцай літаратуры Каці Дыямант. У асобе Доры гатоўнасць цалкам прысвяціць сябе каханаму чалавеку дзіўным чынам спалучалася з эмансіпаванасцю. У яе быў свой план лёсу, яна хацела стаць актрысай. Пасля смерці Кафкі яна вярнулся ў Берлін і праз некаторы час сапраўды трапіла на сцэну. Гэта была перакананая сіяністка, у 1930-я гады пазнаёмілася з немцам-камуністам, яны ажаніліся, нарадзілася дачка Марыяна. Калі Гітлер прыходзіць да ўлады, яны на пэўны час застаюцца ў Нямеччыне, але жывуць у падполлі, на нелегальным становішчы. Падчас вобыску паліцыя знаходзіць у кватэры лісты Кафкі да Доры, іх канфіскуюць...

З прычыны невыносных умоў яны вырашаюць ехаць у Савецкі Саюз. Мужа Доры па прыездзе арыштоўваюць і адпраўляюць у лагер. Дора яго больш не пабачыць. Але ёй разам з дачкой нейкім цудам удаецца пакінуць СССР. У пачатку 1940-х жанчына трапляе ў Вялікабрытанію, дзе яе на год змяшчаюць у лагер для інтэрніраваных асоб. Пасля вызвалення жыве ў Лондане — у страшнай галечы. Там жа і памірае ў беднасці на пачатку 1950-х.

Цягам апошніх гадоў невялікую фінансавую дапамогу Дора атрымлівала ад Макса Брода, сябра і выдаўца Кафкі, але гэтых грошай не хапала. У канцы жыцця Дору наведвае літаратуразнаўца Каці Дыямант, шмат з ёй гутарыць. Менавіта з тых размоў нам засталіся сведчанні пра гісторыю кахання, якія я распрацаваў у сваёй кнізе. Адметна таксама, што, хаця да шлюбу ў іх з Кафкам справа не дайшла, яго апошняя каханая жанчына заўсёды называла сябе Дора Кафка-Дыямант.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*За падзеяй*

# Грахоўскаму прысвячаецца

У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі адбылася літаратурная вечарына, прысвечаная стагоддзю з дня нараджэння вядомага беларускага паэта, празаіка, публіцыста і перакладчыка Сяргея Грахоўскага.

На сустрэчы прысутнічалі родныя пісьменніка, блізкія сябры, калегі па пяры і даследчыкі яго творчасці. У якасці арганізатара мерапрыемства выступіў Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры.

У межах літаратурнага праекта бібліятэка адкрыла аднадзённую выстаўку «...Ад слова свеціцца жыццё», на якой дэманстравалася вялікая частка творчай спадчыны пісьменніка пачынаючы з самых першых зборнікаў «Дзень нараджэння» (1958), «Чаканне» (1960) і «Голас сэрца» (1962), а таксама літаратура пра яго жыццё і творчасць. Адметна, што ўпершыню на выстаўцы былі прадстаўлены прадметы з фондаў Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры і сямейнага архіва Грахоўскіх: фотаздымкі, рукапісы, асабістыя рэчы Сяргея Іванавіча.



*Фрагмент экспазіцыі з фондаў ДМГБЛ і з сямейнага архіва Сяргея Грахоўскага.*

Прысутныя на вечарыне літаратары, якія былі з Сяргеем Грахоўскім у цёплых сяброўскіх адносінах, успаміналі пісьменніка як чалавека вельмі шчырага, энергічнага, адкрытага, добрага, гатовага заўсёды прыйсці на дапамогу і падбадзёрыць. «Як ён заўсёды красамоўна, прыгожа, змястоўна выступаў на ўсіх літаратурных вечарынах! Гаварыў цікава, што ўся аўдыторыя ўважліва слухала», — прыгадала літаратуразнаўца Лідзія Савік. Пісьменніца, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы Раіса Баравікова распавяла, што калі Сяргею Іванавічу надзвычай падабаўся верш маладога паэта, то ён мог прыслаць пачаткоўцу ліст з паштоўкай, каб падбадзёрыць і натхніць на новыя адкрыцці. Творчасць Сяргея Грахоўскага была яго абсалютным люстэркам. Як дакладна прыгадала Раіса Баравікова, вершы Сяргея Іванавіча прасякнуты мудрасцю, маладосцю і жыццёвай энергіяй. Ды і сам пісьменнік, нават у сталыя гады, быў у даволі добрай фізічнай форме.

Выступоўцы адзначалі, што Сяргей Грахоўскі любіў жыццё. Любіў кожную яго крупінку. І змог пранесці гэтую любоў праз увесь свой лёс, нягледзячы на цяжкія выпрабаванні, якія выпалі на долю.

**Ганна ЗАПЛЕЧНІКАВА,**
**фота аўтара**

## Нататкі рамантычнага маркетолага



**Кацярына СІМАН**

# Лекі ад адзіноты і страху

Восеньню, калі крыху прыціхла летняе буянне фарбаў і гукаў, усё часцей сыходзіш у разважанні і назіранні. Часцей чуеш свой «унутраны голас» і заўважаеш «знакі звыш». Дадайце да гэтага прафесійную дэфармацыю асобы, і вы зразумееце, што са мной адбываецца цягам апошняга месяца. То ў гасцях на вочы трапіцца магніт на халадзільніку. А на ім — выслоўе, якое стала ўжо крылатым: «Хто чытае кнігі, заўсёды будзе кіраваць тымі, хто глядзіць тэлевізар». То ўся лента навін у сацыяльнай сетцы поўніцца выключна кніжнымі пастамі. З ліку апошніх — постэр аднаго з расійскіх выдавецтваў: «Чытайце кнігі — спатрэбіцца».

Мы ўжо разважалі пра тое, навошта і як людзі пішуць кнігі, але яшчэ не глядзелі на справу з іншага боку «літаратурных барыкад». Дык навошта і як людзі чытаюць? Якія кнігі яны выбіраюць?

У ліку пераваг Чалавека-Чытача адразу ж можна назваць самыя відавочныя. Такі чалавек — разумны, граматна піша (хоць і не вучыць правілы спецыяльна), у яго багаты слоўнікавы запас, ён усебакова развіты, вучыцца на чужых памылках і, хутчэй за ўсё, нядрэнна адчувае людзей. Джэсі Фішэр, герой фільма «Гуманітарныя навукі», казаў: «…мэта мастацкай літаратуры — барацьба з адзінотай…». Цяжка не пагадзіцца. Чалавек, які чытае, пражывае сотні жыццяў, падарожнічае па ўсім свеце, бывае нават у розных кутках Сусвету. Нездарма навукоўцы рэкамендуюць перш за ўсё чытаць навуковую фантастыку, паколькі менавіта гэтая літаратура стымулюе працу мозга, развівае мысленне і ўяўленне.

Тут варта прыгадаць словы прафесара астрафізікі з Кембрыджа: «Я кажу студэнтам, што лепш чытаць добрую фантастыку, чым навуковую літаратуру кепскай якасці. Гэта цікавей, а верагоднасць памылкі ў прагнозах прыкладна аднолькавая».

Бываюць людзі, для якіх чытанне і адукаванасць — своеасаблівыя іміджавыя «фішкі», абавязковыя атрыбуты ідэальнага паспяховага вобраза. Хоць гэты вобраз — усяго толькі міраж. Не так даўно брытанскія сацыёлагі правялі апытанне. У выніку стала вядома, што большасць брытанцаў падманвае, што чытае класіку, каб падавацца разумнейшымі. А гутарку такія людзі падтрымліваюць на штучных «падпорках»: экранізацыях ці скарочаных інтэрнэт-пераказах. Ды што там Туманны Альбіён, у любой краіне хапае такіх вось чытачоў-фантомаў. А спытай, што ён чытаў з таго ж Чэхава, то ў лепшым выпадку такі «інтэлектуал» ад літаратуры перавядзе гутарку ў жарт і пакіне вашу кампанію. Тым лепш.

І калі мы ўжо некалькі разоў згадвалі навуку, то варта прыгадаць яшчэ адзін цікавы факт. Нядаўняе даследаванне тых жа брытанскіх вучоных даказала, што літаратура аздараўляе ўвесь арганізм не горш за спартыўныя практыкаванні. Бавячы вольны час з кнігай, чалавек у літаральным сэнсе трэніруе мозг. Пры чытанні ў мозгу адбываецца рэзкая змена віду нервовай дзейнасці і характару кровазвароту. У гэтым выпадку арганізм задзейнічае розныя механізмы, якія дазваляюць развіваць пазнавальчыя здольнасці мозга. Высновы відавочныя.

Тут жа ўзгадваецца фраза з кнігі брытанскага літаратара Джуліяна Барнса: «У маладосці я жудасна баяўся лётаць. І кніга, якую я выбіраў у якасці чытва ў дарогу, заўсёды была той, якую я лічыў вартай быць знойдзенай на маім трупе». Адкіньце чорны гумар цытаты, пакіньце для сябе толькі сутнасць!

# Літва вачыма Мерымэ

Споўнілася 210 гадоў з дня нараджэння пісьменніка, які стварыў вобраз самай ракавой жанчыны ў еўрапейскай літаратуры — Кармэн. Імя юбіляра, як вы зразумелі, — Праспер Мерымэ.

Нарадзіўся 28 верасня 1803 года. Апантана ахоўваў помнікі гістарычнай спадчыны Францыі. Сябраваў з Ампeрам і Стэндалем, быў у добрых стасунках з Напалеонам III. Вывучыў рускую мову толькі для таго, каб чытаць Пушкіна і Гогаля ў арыгінале, а потым пераклаў на французскую «Пікавую даму» першага і «Рэвізора» другога. Зрэшты, Мерымэ быў адным з нямногіх, хто выдатна ведаў еўрапейскія літаратуры. Асаблівую ўвагу ён звяртаў на тое, што ўтрыравана звалася «экзотыкай»: асаблівасці побыту народаў, іх традыцыі, міфалогію. У навелах пісьменніка можна сустрэць процьму запазычанняў, і цяжка не заўважыць, з якой любоўю, філалагічнай пяшчотай ён ставіцца да кожнага падобнага слова.



Таму не дзіўна, што аднойчы Праспер Мерымэ звярнуўся да Літвы, у выніку чаго з'явілася на свет навела «Локіс» (1869 год), якая і стала асновай фільма Андрэя Кудзіненкі «Масакра» (2010).

Калі французам было цікава чытаць пра экзатычную і дрымучую Літву, то нам, ліцвінам, цікава паглядзець на гістарычную радзіму вачыма замежніка.

Навела падаецца ў выглядзе рукапісу, урыўка з дзённіка, які састарэлы нямецкі лінгвіст зачытвае аднойчы ўвечары каля цёплага каміна дваім сваім вучням. Так ствараецца казачны настрой, калі ўмоўны «стары» пры жывым агні распавядае казку «дзецям». І сапраўды, надалей аповед набывае фантасмагарычныя рысы: малады вучоны Вітэнбах выпраўляецца ў далёкі літоўскі замак Мядзінтылтас, дзе жыве граф Міхаіл Шэмет са звар'яцелай маці. Варта заўважыць, што падзеі адбываюцца менавіта на літоўскіх землях, то бок, не ліцвінскіх, а жмудскіх і самагіцкіх. Тым не менш апісанні нораваў, міфалагічныя матывы і гістарычныя факты, пададзеныя Мерымэ, датычаць беларусаў не ў меншай ступені, у чым вы самі можаце пераканацца.

## СУРОВЫ ЛЮД

Доктар Фрэбер, які даглядае вар'яткуграфіню Шэмет, сцвярджае: «Нашы літоўскія дамы — амазонкі». Сам граф Шэмет гаворыць іншаземнаму госцю: «Літоўскі мядзведзь не алень, ён не дасца звычайнаму нажу». Улічваючы назву навелы (у Літве мядзведзя называлі «локіс») і той факт, што граф Міхаіл апынуўся пярэваратнем-мядзведзем, выказванне набывае двухсэнсоўнасць. Калі ж пацешыць сябе здагадкай, што вобраз графа — зборны і адлюстроўвае ўвесь ліцвінскі народ, становіцца зразумела, якое ўражанне ад усходніх суседзяў меў Мерымэ.

Да ўсяго, літоўцы вылучаюцца нязломным здароўем: «Вы не ведаеце нашых літоўскіх страўнікаў, яны нібы бляхай падбітыя. Нашыя сяляне ядуць усе грыбы, якія ім трапляюцца, і пачуваюцца выдатна». Дзівіцца гэтым людзям і сам Мерымэ: «Будзь ён багаты ці бедны, шляхціц ці селянін — славянін можа цудоўна заснуць і на голых дошках».

У першы ж дзень прафесар Вітэнбах сутыкаецца з нечаканасцю: замест выштанчанага аперытыву літоўцы падаюць некалькі гатункаў гарэлкі, а да яе — салёныя і вострыя закускі дзеля прабуджэння апетыту. Што да самога стала, ён у літоўцаў багаты. Нават калі ў доме нечакана з'явіцца плойма згаладалых гасцей, гаспадыня заўжды знойдзе, чым іх пачаставаць. Праўда, Мерымэ паскардзіўся на тое, што занадта многа ў іх пірагоў, «гарачых і халодных».

## ЦЯЖКАСЦІ ПЕРАКЛАДУ

Мерымэ, адлюстраваўшы ў навеле становішча народа і яго «гаворкі», акрэсліў і стан беларускага пісьменства ў канцы XIX стагоддзя. Так, лінгвіст Вітэнбах марыў перакласці Святое Пісанне на жмудскую мову, аднак граф запярэчыў: «Сярод людзей, што ведаюць жмудскую мову, не знойдзецца ніводнага пісьменнага». На што вучоны выступіў з чыста багушэвічаўскай пазіцыі: «Галоўнай перашкодай да распаўсюджання пісьменнасці з'яўляецца менавіта адсутнасць кніг. Калі ў сялян будзе друкаваная кніга, яны захочуць яе прачытаць і навучыцца грамаце. Гэта ўжо здаралася з многімі дзікімі народамі…»

Вуснамі графа Шэмета Праспер Мерымэ выказвае думку, што мова літоўцаў (трэба думаць, і беларусаў) не можа карыстацца лацінскім алфавітам. «У вас няма ні нашага ж, ні нашага л, ні нашага ы, ні нашага ё», — кажа граф.

Разам з тым, прыслуга ў замку размаўляе толькі па-польску і па-руску. Падзеі адбываюцца ў 1866 годзе, аднак чытач не сустракае ніводнай згадкі пра паўстанне Каліноўскага. Напэўна, Мерымэ не хацеў акцэнтаваць на гэтым увагу чытача, аднак міжвольна ён указаў на русіфікацыю і паланізацыю насельніцтва.

## ШТО Ў ІМЕНІ ТАБЕ МАІМ?

Праспер Мерымэ называе імёны, дарагія кожнаму беларусу: Кейстут, ад якога вядзе свой род граф Шэмет, і Гедымін. Яшчэ адна мілая сэрцу згадка — імя Адама Міцкевіча. Зыходзячы з тэксту навелы, мы можам смела сцвярджаць, што славуты француз шчыра захапляўся ліцвінскім паэтам, ён называў яго «бліскучым адраджэннем літоўскай музы». У навеле Мерымэ дае пераказ балады Міцкевіча «Тры Будрысы», дзе ўзгадваюцца Альгерд, Скіргайла і Кейстут, а таксама даецца апісанне беларускіх зямель: так, за Нёманам «нікчэмныя сахі ды плугі. Затое… дзяўчыны там, дзеткі, прыгажэйшыя за ўсіх паланянак. Жвавыя, што коткі, белыя, як смятана, пад цёмным брывом блішчаць зорамі вочы».

## ЗУБРЫ, ВУЖЫ, ВЯДЗЬМАРКІ

Літва — краіна ведзьмакоў. Граф распавядае, што непадалёк ад замка можна набыць загавораныя кулі, прытым па даволі прымальным кошце, а звар'яцелая графіня больш за ўсё баіцца, што ёй абстрыгуць косы (тут варта прыгадаць, што моц вядзьмаркі ў яе валасах). Па дарозе на курган (Мерымэ з замілаваннем прыводзіць гэтае слова) героі сустракаюць старую з прыручаным вужом, якая так дарэчы ўзгадвае Перуна. Акрамя таго, у чорных азёрах суровага краю жывуць русалкі, а ў пушчах — зубры, пра якіх Мерымэ ведаў з «Нататкаў» Цэзара і на якіх, як ён распавёў вуснамі вучонага, «палявалі меравінгскія каралі ў Камп'енскім лесе».

Але гэта яшчэ што! У дрымучых літоўскіх лясах ёсць звярынае царства — матачнік, куды не можа ступіць нага чалавека, дзе звяры жывуць у гармоніі і міры. Нават мамант там захаваўся і карыстаецца надзвычайнай павагай. «Здаецца, ён у іх старшыня сойма». Жывёл, якія парушаюць звярыны закон, выганяюць з царства, і тыя вымушаныя ўцякаць у землі чалавека.

## ВЯСЕЛЛЕ

Спачатку Мерымэ апісвае дзіўны рытуал, падчас якога госці п'юць за здароўе маладой з яе ж туфліка. «Ніколі айцы нашыя не сталі б піць са шкляных келіхаў!» — заявіў стары пан з сівымі вусамі, пасля чаго ў туфлік налілі шампанскае і пусцілі яго праз увесь стол. Далей — горай. «Хутка за сталом зрабілася так шумна, што я палічыў не зусім прыстойным заставацца ў такой кампаніі. Я незаўважна ўстаў з-за стала і выйшаў на паветра асвяжыцца. Але і там мне прадставілася відовішча не надта павучальнае. Дваровыя людзі і сяляне, уволю напіўшыся піва і гарэлкі, былі па большай частцы п'яныя. Не абышлася справа без боек і разбітых галоў. Там-сям на лужку валяліся п'яныя, і агульны выгляд сваята нагадваў поле бою». Па ўсім відаць, традыцыйнае славянскае вяселле зрабіла гнятлівае ўражанне на іншаземца. Зрэшты, граф Шэмет яго папярэджваў: «Не забывайце, што вы знаходзіцеся ў варварскай краіне. Тут не даводзіцца быць надта патрабавальным».

Дадамо толькі, што навела «Локіс» — апошні твор, надрукаваны пры жыцці Праспера Мерымэ.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# З цыкла «Руны»

У сталічным «Кніжным салоне» прайшла прэзентацыя зборніка экслібрысаў гродзенскага мастака Юрыя Якавенкі — вядомага беларускага графіка, які працуе ў жанры сюррэалізму, сябра Беларускага саюза мастакоў і шведскага аб'яднання *Grafikens Hus*, уладальніка мноства айчынных і замежных узнагарод.

Пабачыць работы творцы можна не толькі ў зборніку экслібрысаў, але і на сценах «Кніжнага салона». Тут была прадстаўлена кампазіцыя з цыкла «Руны». Практычна ўсе экслібрысы Юрыя Якавенкі прысвечаны калекцыянерам. У сваіх работах мастак здолеў стварыць уласны чароўны свет, змяшаўшы міфалогію еўрапейскага поўдня і поўначы.

Падчас імпрэзы мастак распавёў пра зборнікі сваіх работ, многія з якіх выйшлі за мяжой. Шмат слоў было сказана пра Італію. Але ў выніку, каб адкінуць сумневы, Ю. Якавенка адзначыў: «Колькі ні казаў бы пра Італію, я — патрыёт сваёй Радзімы. Жыву і працую тут. Калі ёсць магчымасць рэалізаваць свае ідэі, неяк выказацца, мне дапамагае Італія».

Напрыканцы выступлення мастак падкрэсліў: «Ёсць заказныя работы, але бываюць і такія, якія робіш для душы».



*Юрый Якавенка распавядае пра адзін са зборнікаў сваіх работ.*

Напэўна, менавіта апошнія перш за ўсё здзіўляюць глыбінёй рэалістычнасці, якасцю выканання. А падобныя сустрэчы ў «Кніжным салоне», якія збліжаюць майстроў з аматарамі мастацтва, — добрая нагода з прыемнасцю правесці час і завітаць у патаемны свет творчасці.

**Яўген СІНІЧЭНКА,**
**фота аўтара**

# Когда будущее под угрозой




**Научная фантастика издавна интересовала любопытных мыслителей, страждущих открыть для себя нечто новое. Писатель Вернор Виндж — волшебник в этой отрасли. Он не раз создавал альтернативные реальности, за что был удостоен пяти премий *Hugo*, двух премии *Locus* и четырёх премий *Prometheus.* У этого профессора математики невероятно масштабная фантазия, благодаря которой он и прослыл одним из лучших писателей-фантастов своего времени. Не так давно при поддержке ООО «Харвест» вышла третья часть его трилогии «Дети неба».**

Роман продолжает описывать суровые испытания, которые ложатся на плечи небольшой группы представителей человеческой цивилизации в новом мире Стальных Когтей. Над вселенной персонажей нависла угроза вторжения высокотехнологичной армии Погибели: чтобы избежать уничтожения, людям необходимо повысить уровень существующей средневековой цивилизации. Главным инструментом развития служит единственный уцелевший корабль «Внеполосный», в памяти которого хранятся данные о развитии тысяч цивилизаций во вселенной. Владение подобного рода информацией даёт практически неограниченные возможности её обладателю. Перед героями романа стоят вопросы глобального характера: как правильно строить и развивать цивилизацию? Какие технологии открыть первыми? Чем при этом жертвовать? Принять веру или подвергнуть всё существующее сомнению?

В книге несколько главных героев, и повествование ведётся от их лица, а события читатель видит их глазами. У каждого из них свои цели и пути достижения. Здесь есть любовь и ненависть, героизм и трусость, предательство и смерть. В этом выдуманном мире люди не избавлены от недостатков. На пути к выживанию и спасению нового мира героям придётся бороться со своими слабостями. Большинство персонажей — дети высокотехнологичной цивилизации, попавшие в средневековый мир, где обитают стаи Стальных Когтей. Равна, пилот «Внеполосного», — единственная взрослая девушка в романе. Именно она становится лидером человечества и формирует план развития цивилизации. Однако часть группы подвергает сомнению выбранный путь, стремится нарушить шаткое равновесие между двумя расами.

Ненапряжённое описание происходящего в альтернативной вселенной прерывается, когда наружу всплывают ошибки героев, допущенные ими в прошлом. Именно эти незначительные огрехи ставят под угрозу будущее. Наступает момент, когда мир, созданный в романе, рушится. Книга полностью захватывает читателя и будто сама не позволяет положить её пылиться на полку. Ближе к развязке сюжет претерпевает такие метаморфозы, что трудно уловить, как событийный ряд меняет своё направление. Некоторым героям повезло сблизиться с представителями новой расы, а некоторые ненавидят своих врагов, да и сами герои по-новому открываются в конфликтах противоборствующих сторон.

Если вы любите фантазировать и погружаться в новые миры, эта книга вызовет у вас неподдельный интерес. «Дети неба» — отличная возможность совершить увлекательное путешествие в фантастический мир Вселенной Вернора Винджа.

**Евгений СИНИЧЕНКО**

# Истина, которую не спрятать

**Питерский писатель и переводчик Семён Глинский не слишком известен за пределами своего окружения. При этом рукопись его романа «Дом с прозрачными стенами» была номинирована на премию «Рукопись года», автор выпустил сборник собственных рассказов и повестей, и это не считая нескольких качественных романов. Сейчас на просторах интернета любители питерской «инфернальной» прозы усиленно обсуждают новый роман писателя «Игра навылет», который вышел при поддержке ООО «Харвест».**




Известный российский прозаик Павел Крусанов сказал об этой книге следующее: «Здесь есть какая-то неудержимая правда — она выглядывает из сочленений слов и вязи строк, её не спрятать». На самом деле, реализм написанного в романе уже с первых страниц раскрывает цепкие объятия и погружает читателя в свою злободневность. Но при этом в мире писателя нет ничего близкого обычному человеку. Нет привычных героев и имён персонажей, каждый из которых носит выдуманное им же прозвище. Здесь нет простых жизненных ситуаций, нет какого-то маленького островка, отведённого для мечтаний. Всё в романе пропитано безысходностью и атмосферой агрессивного реализма. В книге есть всё, что находится рядом с нами постоянно, и при этом нет ничего привычного.

«Игра навылет» написана простым и понятным слогом. Понимание этого текста доступно каждому, хотя роман заключает в себе более глубокий смысл, чем кажется при поверхностном чтении. Очевидное присутствие интертекста вызывает неподдельный интерес к этой истории. Любителям творчества писателей «поколения X» будет особенно интересно следить за тем, как Семён Глинский «дёргает» за все ниточки, управляя своими безликими персонажами и заводя сюжетную линию всё дальше от границ природной простоты.

Автор связал нескольких незнакомых друг с другом людей общей проблемой и заставил их выживать. Так, как невозможно прожить за пределами этой фантастической реальности или в подобной ситуации. Автор сопереживает героям, но в то же время с невозмутимостью устраивает им прогулку по кругам «новейшего ада», близкого нашей действительности. Даже при этом герои существуют в своей полноценной жизни, любят, покидают выдуманный мир самым нелепым образом — например, с помощью фена в ванной и собственной глупости. Всё в этой истории взаимосвязано и в то же время обособлено.

**Евгений СИНИЧЕНКО**

# Тревоги, печали и счастье

**Московское издательство «АСТ» продолжает радовать своих читателей новыми книгами. Летом 2013 года при поддержке ООО «Харвест» увидел свет перевод книги Люсинды Райли «Танец судьбы».**

Люсинда Райли — киноактриса, путешественница, счастливая жена и мать четверых детей, а вместе с тем писательница, чьими книгами давно восхищаются миллионы читателей в Европе и США. Права на издание романа Люсинды уже приобрело 15 стран (только в Германии тираж превысил полторы тысячи экземпляров), а сама книга вошла в список бестселлеров *New York Times*.




Как следует из аннотации к изданию, — это «книга об утраченных иллюзиях и вновь обретённых надеждах. Книга о жестокой вражде — и настоящей дружбе. Но прежде всего — книга о любви и вдохновении».

В роман введено огромное количество героев. Вначале всё кажется простым и понятным, но чуть позже начинаешь осознавать, что ты запутался. А спустя ещё пару страниц вникаешь в своеобразную игру автора и, сам того не понимая, начинаешь подыгрывать.

Сначала ты в Ирландии, потом, не успевая насладиться великолепием местности, оказываешься в Нью-Йорке, через пару страниц — в Англии или Швейцарии. Быстрый темп, море эмоций, разнообразные события, которые так стремительно сменяют друг друга, что не позволяют читателю оторваться от повествования.

Столь увлекательно и своеобразное расследование. Читателя вместе с главной героиней Гранией почти на протяжении всей книги волнует один и тот же вопрос: что стало причиной вражды между двумя семьями — Девншир (Лайл) и Райн? Ответ на него знает мать Грании — Кэтлин, которая очень долго сомневается, рассказывать ли дочери правду, и постоянно твердит, что если та не остановится, история повторится. Но Грания чересчур самостоятельна и упряма, она выпытывает у матери правду.

К тому времени, как переплетения двух семейных историй выяснены и распутаны, автор убивает отца Авроры, Александра Девншира, при этом Гранию сделав его женой, наследницей огромного состояния и двух больших поместий. Но Грания проявляет себя настоящей женщиной. Её не интересуют деньги. Она переживает за свою падчерицу, которую безумно любит. Теперь семья Грании становится родной для Авроры.

В романе нашло отражение множество современных проблем. В образе маленькой Авроры есть рассудительность, понимание, умение любить, доброта… Складывается впечатление, словно живёт она уже не одну сотню лет.

Во время чтения, да и после него, не устаёшь восхищаться тем, как ловко она выдерживает все жизненные напасти. Девочка умеет притягивать к себе всё живое и старается сделать мир лучше.

В конце романа именно она поможет своей новоиспечённой матери сойтись с Мэтом, её бывшим женихом, с которым та рассталась из-за того, что они просто не умели слушать друг друга и не пытались напрямую поговорить о своих тревогах и печалях. Да, Грания снова выйдет замуж, у Авроры появятся отец и брат, она осуществит мечту — как бабушка, станет балериной. Если вы полагаете, что это и есть счастливый конец, то в самый раз взять в руки книгу.

**Екатерина СТАСЁНОК**

# Святых братоў жывая мудрасць

**Не так даўно ў Мінску ўрачыста адзначалася гадавіна стварэння славянскай азбукі Кірылам і Мяфодзіем. Пасольствы Рэспублікі Балгарыя, Славацкай Рэспублікі і Чэшскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь разам з гістарычным факультэтам БДУ і Дзяржаўным літаратурным музеем Янкі Купалы падрыхтавалі з гэтай нагоды шэраг мерапрыемстваў. У БДУ адбыўся семінар, удзельнікамі якога сталі вядомыя вучоныя-гісторыкі розных краін, прайшоў паказ дакументальнай стужкі чэшскага рэжысёра А. Шміта «Кірыл і Мяфодзій. Спадчыну бацькоў і мацярок зберажы для нас, Божа!», пра пераклад якой з чэшскай на рускую паруліпіся студэнты гэтай ВНУ. У Купалаўскім музеі пачалі працаваць выставкі «1150-годдзе прыходу Святых Кірыла і Мяфодзія ў Вялікую Маравію» (Славакія) і «Свет літар» (Балгарыя).**

### СПАЧАТКУ БЫЛО СЛОВА…

Нагода для ўрачыстага святкавання таго факта, што 1150 гадоў таму на тэрыторыю Вялікай Маравіі прыйшлі браты-асветнікі Кірыл і Мяфодзій, — вынікі іх працы, высока ацэненай нашчадкамі праз стагоддзі. Не згубіць нацыянальныя адметнасці, захаваць самабытнасць, зрабіцца адной з вядучых сіл у тагачасным свеце славянам дазволіла менавіта духоўнае адзінства, пачаткам якому было Слова. І хаця інтарэсы Візантыі, што даверыла братам вялікую місію, былі найперш палітычнымі: аб'яднанне славян з дапамогай далучэння іх да хрысціянства, царкоўная незалежнасць стала каталізатарам станаўлення дзяржаўнасці, глаголіца, а потым кірыліца дапамаглі разрозненым этнічным групам захавацца на культурнай карце свету. Са святых кніг пачаўся адлік эпохі кніжнай культуры, на рахунку якой не адно стагоддзе.

Экскурсія ў нумізматычны музей гістфака БДУ дапамагла ўяўленню пра той час, калі нарадзілася славянская азбука. Вялікая колькасць народаў на гэтай тэрыторыі, хаджэнне рымскіх, арабскіх, а пазней чэшскіх манет, арэна сутыкнення інтарэсаў Рымскай і Канстанцінопальскай цэркваў… Пра шляхі асветнікаў і іх вучняў, захаванне іх дасягненняў, пераемнасць традыцый гаварылі ўдзельнікі семінара.

Тэма духоўнай еднасці славян была і лейтматывам фільма вядомага чэшскага рэжысёра. Адзначым, што здымаў яго спадар Шміт у тым ліку і ў Беларусі. Спалучаючы прыёмы дакументальнага і ігравога кінематографа, рэжысёр асэнсоўвае ўнёсак асветнікаў Кірыла і Мяфодзія ў наша жыццё. Спадзяёмся, што дзякуючы студэнцкаму перакладу мы зможам убачыць яе на адным з беларускіх тэлеканалаў.

### З КАЛЫСКІ СЛАВЯНСКАЙ КУЛЬТУРЫ

Еднасць славянскіх каранёў арганічна адчувалася ў музыцы гурта «Старое сяло», што сустрэў гасцей у сценах Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.

Віталі ўдзельнікаў мерапрыемства галоўны спецыяліст Упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Валянціна Макарава, Часовы Паверанны ў справах Рэспублікі Балгарыя ў Беларусі Івайла Іванаў, Часовы Паверанны ў справах Чэшскай Рэспублікі Дагмар Дзідэнка-Навагардска. Намеснік пасла Славацкай Рэспублікі Эрых Ліптак прадставіў выстаўку «1150-годдзе прыходу Святых Кірыла і Мяфодзія ў Вялікую Маравію».

Пранікнёна выканала паэму Канстанціна Філосафа «Прогалас» (прадмову да Біблії) у перакладзе на беларускую А. Камоцкага кіраўнік мастацкага тэатра «Жывое слова» Алеся Сівохіна. Дырэктар Купалаўскага музея Алена Ляшковіч нагадала, што ў лютым у музеі адбылася прэзентацыя беларускага выдання гэтай кнігі.

Як адзначалася падчас урачыстых мерапрыемстваў, галоўную ролю ў тым, што не згінула справа Кірыла і Мяфодзія і іх паслядоўнікаў, адыграла ў тыя далёкія часы Балгарыя. Менавіта тут стараславянскай мове было наканавана зрабіцца трэцяй (пасля лацінy і грэчаскай) мовай літургіі ў хрысціянскай прасторы. Але не толькі пазнаёміцца з выстаўкай далі магчымасць супрацоўнікі пасольства гэтай краіны. Дзяржаўны культурны інстытут Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Балгарыя парупіўся пра выданне да яе адкрыцця каталога «Свет літар (ці евангельская прытча пра сейбіта ў XXI стагоддзі)», тэкст для якога напісалі А. Джурава і В. Велінава.

Аддаючы даніну павагі Кірылу і Мяфодзію, аўтары не пазбягаюць пытанняў: «Дзе сёння наша адказнасць перад справай першанастаўнікаў і наш запавет нашчадкам? Якімі сейбітамі будзем мы ў XXI стагоддзі і ці знойдзем спрыяльную глебу, на якой вырасце шмат збожжа? Ці захаваем павагу да кнігі і ведаў, спагаду да бліжняга, здольнасць да паглыблення ў сябе, самаацэнкі, самакрытыкі, урэшце — духоўнасць, якая выратавала б нас ад спажывецтва, нявер'я, апатыі і адсутнасці забарон у пазбаўленым цудаў свеце постмадэрнісцкага грамадства?» Аксіння Джурава і Вася Велінава раяць звярнуцца да мудрасці святых братоў, што казалі пра чалавека: «Ещё более душа бескнижная в мертвеца его превращает».

**Дзмітрый ХВОЙНЫ**

# І шлях, і водгулле, і памяць…



**26 жніўня пайшоў з жыцця слынны літаратуразнавец, паэт і перакладчык Уладзімір Іосіфавіч Мархель, які звязаў свой лёс са служэннем беларускай навуцы і слову.**

Нарадзіўся 20 красавіка (даследчык запэўніваў, што гэта дакладная дата, устаноўленая паводле згадак яго бацькоў, а паводле пашпарта — 28 сакавіка) 1940 года ў вёсцы Жыгалкі Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Успаміны пра дзіцячыя і юнацкія гады на малой радзіме навуковец пранёс праз усё жыццё, адлюстраваўшы іх у мемуарах «Працэнты памяці» (часопіс «Тэрмапілы» за 2005, 2007, 2009, 2011 гады). Вучыўся будучы філолаг у сярэдняй школе імя Я. Коласа ў вёсцы Мікалаеўшчына, непадалёку ад якой прайшлі раннія дзіцячыя гады класіка беларускай літаратуры, аўтара «Новай зямлі». Магчыма, незвычайная лірычная аўра гэтага месца паўплывала на выбар У. Мархелем шляху паэта, які пачаў друкаваць вершы ў 1954 годзе ў стаўбцоўскай раённай газеце «Голас селяніна», калі яму было 14 гадоў. На подступах да навукова-творчай дзейнасці загартоўваўся характар: малатабоец у калгасе, рабочы ачышчальнага забою на шахце ў Новашахцінску Растоўскай вобласці. Скончыўшы філфак БДУ, настаўнічаў у стадоліцкай, валожынскай, адной з мінскіх школ, супрацоўнічаў з газетай «Мінская праўда», быў старшым рэдактарам у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа АН БССР. З 1971 года працаваў у аддзеле навуковай інфармацыі па грамадскіх навуках АН БССР, рыхтаваў навукова-інфармацыйныя бюлетэні па беларускім літаратуразнаўстве і мовазнаўстве.

Уладзімір Іосіфавіч найбольш раскрыўся як беларусазнаўца падчас працы ў Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы НАН Беларусі, дзе з 1999 па 2008 год быў загадчыкам аддзела ўзаемасувязей літаратур. Нас, сваіх падначаленых, ён вучыў уздымацца над праблемай, глядзець на яе з усіх бакоў, быць аб'ектыўнымі ў ацэнцы літаратурных з'яў, пераканаўча абгрунтоўваць думку. Звяртаў увагу, што важна мысліць арыгінальна, пераадольваючы стэрэатыпы, і ісці далей за папярэднікаў. Тыя гады пазначаны асаблівай добразычлівай навукова-творчай атмасферай, сяброўскай згуртаванасцю. Адначасова з працай у Інстытуце У. Мархель выкладаў беларускую літаратуру студэнтам БДУ і Беларускай акадэміі музыкі. Абараніўшы кандыдацкую дысертацыю па тэме «У. Сыракомля ў беларуска-польскім літаратурным узаемадзеянні (сярэдзіна XIX — пачатак XX стагоддзя)», ён працягваў вывучаць аспекты беларуска-польскіх гісторыка-культурных, духоўна-ментальных, фальклорна-літаратурных кантактаў згаданага перыяду (кнігі «Крыніцы памяці» (1990), «Прадвесце» (1991), «Прысутнасць былога» (1997), артыкулы, усяго больш як чатырыста прац). Даследчык лічыў, што «прошласць падае знак прышласці», што без асэнсавання традыцый няма літаратурнага развіцця, і сваімі росшукамі спрыяў вяртанню польскамоўнай спадчыны ў свядомасць нашага сучасніка. Уладзімір Мархель вынайшаў тэрмін «кантамінацыйная білінгвальнасць» для характарыстыкі польскамоўнай беларускай паэзіі XIX стагоддзя. Яго кнігі «Вяшчун славы і волі» (1983, 2005) пра Уладзіслава Сыракомлю і «Ты як здароўе…» (1998, 2003) пра Адама Міцкевіча і сёння не страцілі сваёй актуальнасці і запатрабаванасці. У. Мархель выступіў укладальнікам «Твораў» Вінцэся Каратынскага (1981, 1994, 2009), «Твораў» Янкі Лучыны (1988, 2001), «Санетаў» Адама Міцкевіча (1998), кнігі Станіслава Манюшкі «Ліра мая для спеваў: Рамансы і песні на словы Уладзіслава Сыракомлі» (з В. Скарабагатавым) (1998), зборніка «Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай: Беларуская польскамоўная паэзія XIX стагоддзя» (1998), кнігі твораў Зоф'і Манькоўскай (2004). За сваю плённую працу быў узнагароджаны прэміяй *Polcul* (1998). Як навуковы рэдактар зборніка «Нарысы беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей. Культурна-гістарычныя і літаратуразнаўчыя аспекты праблемы» (2002) адзначаны прэміяй Прэзідэнтаў Акадэмій навук Беларусі, Украіны і Малдовы (2004). Спрычыніўся да акадэмічнага выдання «Гісторыі беларускай літаратуры XIX — пачатку XX стагоддзя» (2007, 2010): быў рэдактарам і аўтарам раздзелаў 2-га тома. У сваіх артыкулах даследаваў творчасць Вінцэся Каратынскага і Янкі Лучыны, Ігната Легатовіча і Яна Чачота, Аляксандра Ельскага і Яна Каханоўскага, Якуба Коласа і Тараса Шаўчэнкі, польскамоўную паэзію Янкі Купалы і інш. Разам са спеваком Віктарам Скорабагатавым вывучаў дзейнасць Станіслава Манюшкі, спрыяў арганізацыі канцэртаў, каб данесці музыку выдатнага кампазітара да беларускіх слухачоў. Уладзімір Іосіфавіч прызнаваўся, што некаторых людзей успрымае ў меладычным арэоле, як быццам у душы гучыць музыка.

Кніга перакладаў Уладзіміра Мархеля з польскай паэзіі «Водгулле» (2000) выявіла яго як таленавітага пераствaральніка, добрага знаўцу польскамоўнай лірыкі XIX — XX стагоддзяў (Ян Баршчэўскі, Ігнат Легатовіч, Адам Міцкевіч, Антон Эдвард Адынец, Уладзіслаў Сыракомля, Вінцэсь Каратынскі, Янка Лучына, Ян Каханоўскі, Юліян Тувім, Тадэвуш Ружэвіч, Станіслаў Рышард Дабравольскі і інш.). Перакладаючы, ён вывучаў біяграфіі паэтаў, каб зразумець псіхалогію іх творчасці. У 2007 годзе пабачыла свет кніга выбранай лірыкі Уладзіміра Мархеля «Але…», і крытыкі высока ацанілі адметныя светапогляд, творчую манеру, шырокі жанрава-тэматычны дыяпазон арыгінальнага і шчырага паэта, вернага Слову і Айчыне.

У назвах яго кніг — словы «шлях», «памяць», «водгулле», «прысутнасць былога»… Ён, падобна Сыракомлю, «Лірнік вясковы», стаў не толькі гарадскім паэтам, але і вядомым літаратуразнаўцам і таленавітым перакладчыкам. Ён — як «Прадвесце» таго, што беларуска-польскае літаратурнае ўзаемадзеянне не толькі адбывалася ў XIX — пачатку XX стагоддзя, але і будзе адбывацца, пакуль сябруюць, лістуюцца і прыязджаюць адзін да аднаго ў госці творцы і даследчыкі з суседніх краін.

Пахаваны Уладзімір Мархель на Паўночных могілках.

20 красавіка 1996 года, у дзень свайго 56-годдзя, Уладзімір Іосіфавіч напісаў верш, у якім спрабаваў зазірнуць у сваё паслязямное жыццё, уявіць працэс пераходу душы ў іншасвет:

*З прастораю скрыжуе час пара —*
*І ўспыхнуць спынена вякі:*
*Апошні ліст майго календара*
*Не з-пад маёй зляцідзь рукі*
*І не ў маю апусціцца далонь.*
*Ці паглыне яго патоп-вада,*
*Ці спапяліць чысцец-агонь,*
*А дзён мінулых чарада*
*У ясны ўвойдзе небаўзыдм,*
*І не адступіць болей далягляд,*
*І ўбачу сэнс сябе затым,*
*Але ці вам скажу? Наўрад…*

Нездарма кажуць, што пакуль пра чалавека помняць, ён жыве. «Крыніцы памяці» (так называецца кніга У. Мархеля), нашай памяці пра творцу — ва ўсім, што ён зрабіў у імя служэння беларускаму літаратуразнаўству. Таму «Прысутнасць былога» — прац і спраў выдатнага прынцыповага навукоўца, таленавітага паэта і перакладчыка, мудрага і шчырага чалавека — відавочная.

**Таццяна БАРЫСЮК**
**ад імя аддзела ўзаемасувязей літаратур Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі**

## Адам Міцкевіч
## Да Нёмна

*Мой Нёман родны,*
*дзе сягонне тыя воды,*
*Якія чэрпаў я ў дзіцячыя далоні*
*І заплываў з якімі ў дзікія затоні,*
*Калі шукаў для сэрца*
*сцішнай прахалоды?*

*Лаура горда ў іх глядзелася заўсёды,*
*Касу любіла заплятаць,*
*уквечваць скроні,*
*І вобраз там яе, адбіты ў хвалі лоне,*
*Не раз я замуціў слязьмі ў былыя годы.*

*Мой Нёман, родная рака,*
*дзе хвалі тыя,*
*А з імі столькі шчасця,*
*і надзей, і мараў?*
*Дзе весялосць, маленства мілае*
*без хмараў?*

*Дзе век бурлівы, леты нашы маладыя?*
*Лаура дзе? Сяброў не бачу,*
*любых твараў,*
*Усё прайшло, а слёзы памяці жывыя.*

**Пераклад Уладзіміра МАРХЕЛЯ**

# Толькі праўда. Дакументальная



Ці ёсць у Беларусі дакументальны тэатр? Якія эксперыменты можна рабіць з драматургічным творам? Ці могуць героі сучасных п'ес выкарыстоўваць лаянкавыя словы на сцэне? Пра гэта і не толькі распавядае малады беларускі драматург Дзмітрый Багаслаўскі.

**— Па адукацыі ты рэжысёр, працуеш акцёрам у тэатры, да таго ж і п'есы пішаш. Як гэта спалучаецца?**

— Трэба проста размяркоўваць час. Пакуль Маладзёжны тэатр на рэканструкцыі, — часу хапае. А рэжысурай я практычна не займаюся, толькі іншым разам чыткамі.

**— Чаму вырашыў заняцца менавіта драматургіяй?**

— У 2007 годзе, калі адкрылі Цэнтр беларускай драматургіі, мне старэйшыя хлопцы з рэжысуры сказалі: «Слухай, ты ж калісьці нешта пісаў — ідзі паспрабуй». А я, калі ў каледжы вучыўся, напісаў п'еску на шэсць старонак. Тады якраз шукалі свежы матэрыял, многім прапанавалі рабіць чыткі. Усё адбылося незаўважна для мяне.

**— Як ставішся да сваіх першых драматургічных спроб?**

— З замілаваннем. У прынцыпе, тады гэта былі нататкі, эцюды, а не п'есы. Першую п'есу «Пешка» я напісаў яшчэ ў каледжы. Пасля Сяргей Анцалевіч паставіў яе ў Цэнтры драматургіі як сваю дыпломную працу. Праз год паставіў яшчэ адну — «Мае рукі». Вось так і пайшло… Але больш грунтоўныя творы пачалі атрымлівацца толькі ў 2010 годзе. Цяпер мы ўжо працуем утрох: Сяргей Анцалевіч, Віктар Красоўскі і я. Вось прыехалі з «Любімаўкі», дзе чыталі наш тэкст у Студыі Альтэрнатыўнай Драмы «Патрыс». А ў гэты час у тэатры «Практыка» была прэм'ера аднаго нашага сябра і калегі Пашы Расолькі па п'есе «Чырвоная птушка». Мы смяяліся з Мішам Дурнянковым, што беларускі дэсант высадзіўся ў Маскве. (*смяецца*).

**— П'еса «Патрыс» — вынік некалькіх гадоў працы Студыі Альтэрнатыўнай Драмы?**

— Так. Гэта быў вельмі доўгі працэс. П'еса ўвесь час відазмянялася, дадаваліся новыя інтэрв'ю, новыя хады. Спрабавалі «гуляць» з часам, змянялі кампазіцыю. 28 верасня адбылася прэм'ера. «Патрыс» — наша дасягненне. Дзякуй арганізатарам фестывалю «ТЭАРТ», што яны нас пачулі.

**— Гэта першы спектакль у дакументальным жанры на Беларусі?**

— Арганізатары напісалі так хутчэй для прыцягнення ўвагі. Гэта наша праца ў сваім родзе першая, і шмат чаго сабрана ў п'есе. Рэальныя інтэрв'ю са швейцарцамі, якія да нас прыязджалі, з жыхарамі Мінска, плюс сюжэтныя лініі — мы прыдумалі іх самі. Атрымалася своеасаблівая «салянка» з меркаванняў і поглядаў розных людзей.

**— Цяжка было працаваць утраіх?**

— Вядома ж, складана было тры розныя меркаванні сумясціць. Мы спрачаліся, лаяліся, ледзь не біліся, крыўдзіліся і кідалі ўсё... потым зноў вярталіся праз некалькі месяцаў.

**— Надалей плануеш займацца дакументальным жанрам?**

— Мы думаем над яшчэ адным праектам. Але цяпер трэба адшукаць «акно ў графіку», каб зрабіць падрабязны план працы. Дакументальны тэатр патрабуе шмат сіл. Патрэбна добрая каманда. Праект, які мы задумалі, ахопіць некалькі сацыяльных пластоў. Там будзе не толькі народная ацэнка, але і меркаванні прадстаўнікоў улады, спартсменаў, зорак...

**— Выбар герояў тваіх п'ес спантанны?**

— Бывае спантанным, бывае прадуманым. П'еса «Дзеўкі» ўзята з жыцця. Мне распавялі гісторыю пра тое, што ў нас існуе пэўная бяда (не будзем яе агучваць, каму цікава — прачытаюць). Захацелася над гэтым паразважаць. «Завея квецені» ўвогуле дзіўна ўзнікла. Я ўдзельнічаў у анлайн-лабараторыі, дзе драматургі кожны тыдзень павінны пісаць невялікія фрагменты п'ес. Усё было разлічана на шэсць тыдняў. Напісаў першыя акты і... палічыў, што гэта гатовая п'еса. Многія кажуць, яна ўвогуле не пра каханне і не пра людзей, але я сцвярджаю, што менавіта пра каханне.

**— А якая тэма дамінуе ў тваёй п'есе «Ціхі шэпат сыходзячых крокаў», цяперашняй прэм'еры РТБД?**

— Спрадвечная — бацькі і дзеці. Магчыма, фішка п'есы ў тым, што вечная тэма напісана сучаснай мовай. Але судзіць усё ж не мне.

**— Ты ў ёй эксперыментуеш?**

— Там і рэальнасць, і сон. П'еса пабудавана так, што кожная сцэна аддаляе папярэднюю. Папярэдняя сцэна рассыпаецца, таму што мы зноў не можам зразумець: гэта рэальнасць або нерэальнасць? Такі ход узнік спантанна. Спачатку п'еса была цалкам лінейнай і бытавой, а потым я працэнтаў шэсцьдзясят п'есы перарабіў пад сваё новае бачанне.

**— Як думаеш, усе зразумеюць эксперымент?**

— Пабачым! Пазней прааналізую ўспрыманне гледачоў. Для мяне вельмі важна, куды я трапіў, куды не, якія струны душы закрануў, а якія, магчыма, разладзіў.

**— Ці бачыў рэакцыю гледачоў на твае тэксты?**

— Вядома! Смешна было, калі прыехаў у тэатр Маякоўскага на прэм'еру «Завея квецені». Перада мной сядзелі англічанка і перакладчыца. Апошняя настолькі падключалася да дзеяння, што забывала перакладаць. А англічанка яе штурхала і казала: «Перакладай далей». Гэта было разоў шэсць за спектакль. На прэм'еры «Ціхага шэпту...» у Краснаярску некаторыя гледачы плакалі. Паглядзім, як успрымуць спектакль у Тэатры беларускай драматургіі. Па «Завеі квецені» я бачыў некалькі спектакляў. Рэжысёры адзін аднаго не ведаюць: адзін — у Маскве, другі — у Новасібірску, трэцяя — у Мінску. Усе чамусьці на сцэну ставяць жалезную бочку, напоўненую вадой, хоць у п'есе яе няма. Нейкія рэжысёрскія ніці... Я па-добраму смяяўся над гэтым: як тры рэжысёры выкарыстоўваюць аднолькавы ход?

**— Ты заўсёды пагаджаешся з рэжысёрскімі інтэрпрэтацыямі?**

— Ніколі не ўмешваюся ў працу рэжысёра. Ніхто ж не сядзіць і не глядзіць, як я пішу п'есу. Навошта замінаць артысту ці рэжысёру, якія знаходзяцца ў пошуку? Гэта іх асабістая прастора, таму на рэпетыцыі я не хаджу. Рэжысёры ствараюць вобразы, зразумелыя, блізкія і важныя для іх. Я наогул люблю спектаклі, дзе не бачны ні аўтар, ні рэжысёр, ні акцёр, а ёсць проста гісторыя, на якую прыемна глядзець тры гадзіны запар.

**— У цябе не ўзнікае жадання паставіць уласную п'есу?**

— Не, нецікава. Ты ж у п'есе ўсё ведаеш. Тады ў чым капацца, у чым разбірацца?

**— Доўга над тэкстамі працуеш?**

— Вельмі. Першая сцэна «Ціхага шэпту сыходзячых крокаў» была напісана ў 2009 годзе, а апошняя — у 2012-м. Тры гады! Проста ёсць пэўныя напрацоўкі, запісы, з якіх потым нешта складваецца. Магу нават адразу над некалькімі п'есамі працаваць.

**— Спрабаваў займацца адаптацыяй класічных тэкстаў?**

— Пагаварыць пра сучаснасць з дапамогай класічнай гісторыі мне цікава. Цяжка, але цікава! Я пішу цяпер «Войцэка» Георга Бюхнера на сучасны лад. П'есу сваю аўтар не дапісаў, прыходзіцца шмат матэрыялу пераглядаць, шукаць гісторыю напісання.

**— Твае творы перакладалі на іншыя мовы?**

— Так. «Завею квецені». Не так даўно «Ціхі шэпат сыходзячых крокаў» пераклалі на польскую, і цяпер ідзе размова наконт яе пастаноўкі ў Варшаве. Але польскі тэатр незадаволены перакладам: некаторыя рэчы атрымліваюцца смешнымі.

**— Ці бываюць праблемы з перакладам назваў п'ес на беларускую?**

— «Ціхі шэпат сыходзячых крокаў» у РТБД пераклалі даслоўна. Мы звярталіся да Ільі Кургана і Андрэя Каляды — прыйшлі да адзінага рашэння. А вось «Каханне людзей» у перакладзе на беларускую мяне не задавальняе. Не гучыць на слых. Мне неяк Міндаўгас Карбаўскіс сказаў, што «Ціхі шэпат сыходзячых крокаў» — гэта назва для п'есы, а не для спектакля. Гэта нейкая слязлівая меладрама пра каханне.

**— Здаецца, вельмі філасофская назва.**

— А каму цяпер трэба філасофія? На жаль, адзінкам! Я бачыў неяк назву «Радыкуліт — гэта зусім не смешна». Мяне палкамі не загналі б на такі спектакль. А народ валіць! На густ і колер фламастараў няма. Гэта добра, калі ў гледача ёсць выбар. Тэатры павінны быць абсалютна рознымі.

**— Як і гледачы... Дарэчы, ці хапае табе сувязі з гледачом?**

— Пасля чыткі мы робім абмеркаванне: з яго можна ўзяць шмат інфармацыі. У Магілёве Кацярына Аверкава рабіла чытку «Завеі квецені», прыйшла жанчына і спытала: «Дзіма, вы такі з выгляду інтэлігентны малады чалавек, як жа ў вас участковы мацюкаецца ў п'есе?» Тут узнікае пытанне: «А вы ў жыцці такога не сустракалі?» Нехта жыве ў сваім маленькім свеце, нехта глядзіць далей, нехта — глыбей. Меркаванні бываюць розныя, іх хочацца ведаць, каб не пісаць у стол.

**— Мат у тэксце не ўсімі ўспрымаецца?**

— І не прымаецца многімі. Я, напрыклад, супраць, так бы мовіць, неапраўданага мату. Але калі мы гаворым пра сучасны тэатр — не пра тэатр-храм з калонамі, як многія яго ўяўляюць, то ў некаторых момантах мат — гэта проста неабходнасць. І казаць пра тое, што выносіць на сцэну лаянку — гэта поўная безгустоўшчына, нельга. Безгустоўшчына — калі ты сядзіш у зале і цябе падманваюць, а ты лічыш, што гэта правільна. Вось твая асабістая безгустоўшчына! У нас глядач пакуль проста не гатовы ўспрымаць эксперыменты.

**— У цябе такія песімістычныя п'есы... Камедыю не плануеш напісаць?**

— Ды не, якраз планую. Калі ўсё атрымаецца, у Мінску адбудзецца вечар сучаснай беларускай камедыі. Яна таксама будзе востра сацыяльнай. Але абавязкова са шчаслівым канцом.

**Паліна ПЛАТАВА**

# Талент — сямейная рыса

26 верасня Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа запрасіў прыхільнікаў рамантыкі, музыкі альбо проста тых, каго заспела нечакана халоднае надвор'е, на творчую вечарыну таленавітага аўтара і выканаўцы Марка Затогіна.

**Марыя ВОЙЦІК**

Прагучала шмат цікавых вершаў і рамансаў. Аксамітны голас выканаўцы, быццам шаль, лёг на плечы і дарыў адчуванне спакою. Нездарма кажуць, што галоўнае — гэта месца, дзе мы знаходзімся цяпер, і чалавек, які побач. Але ж пра ўсё па парадку.

Марк Затогін нарадзіўся 67 гадоў таму ў сям'і вайскоўца. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт па спецыяльнасці «Археалогія». Не прывык сядзець без справы: працаваў на камсамольскіх і прафсаюзных выбарных пасадах, у сістэме прафтэхадукацыі, амаль 20 гадоў займаўся турыстычнай дзейнасцю.

Творчасцю Марк захапіўся з самага дзяцінства і на ўсё жыццё. Яшчэ хлопчыкам ён пачаў пісаць вершы і спяваць, займаўся мастацкай самадзейнасцю ў школе, потым у арміі, сур'ёзна вучыўся музыцы. Знакавым стаў 2007 год, калі М. Затогін запісаў у студыі першы кампакт-дыск пад назвай «Незабыўныя мелодыі», куды ўвайшлі папулярныя, любімыя слухачамі песні і рамансы мінулага. Праз некаторы час выканаўца стаў дыпламантам Рэспубліканскага конкурсу-агляду ветэранаў, прысвечанага песням ваенных гадоў. А ў пачатку гэтага года пабачыў свет яшчэ адзін кампакт-дыск, толькі ўжо ўласных, аўтарскіх музычных твораў — «Карціны жыцця». Сёння творца працягвае сцэнічныя выступленні і чакае «нараджэння» новай кнігі вершаў. Дарэчы, яшчэ «сыраватыя», але амаль што сфарміраваны зборнік пашчасціла ўбачыць гасцям творчага вечара.

У рамансах М. Затогіна шмат матываў, прысвечаных Беларусі, прыродзе роднага краю. Так атрымалася, што Марк доўгі час быў за яе межамі і моцна сумаваў па Бацькаўшчыне.

Калі запытацца ў аўтара пра натхненне, то ён, хутчэй за ўсё, падзеліцца сваёй жыццёвай пазіцыяй: «Заўсёды ўяўляў наша надзвычай кароткае жыццё як абавязковае адзінства душы і цела. Упэўнены, што толькі здаровы стан і аднаго, і другога дазваляе ствараць сапраўды прыгожыя і натхняльныя рэчы».

На творчай вечарыне сабраліся ўсе, хто верыць у М. Затогіна і заўсёды яго падтрымлівае, — сям'я, сябры, добрыя знаёмыя. Незвычайныя музычныя і вершаваныя сюрпрызы для гасцей падрыхтавалі ўнукі артыста. Як высветлілася, талент — сямейная рэліквія Затогіных.

Напрыканцы вечара Марк Затогін ад душы падзякаваў усім, хто прыйшоў і, канечне, арганізатарам мерапрыемства — выдавецтву «Каўчэг». Дарэчы, яго супрацоўнікі плануюць і надалей арганізоўваць у музеі сустрэчы з выбітнымі творцамі. Нездарма Дом Коласа заўсёды лічыўся сэрцам культурнага жыцця сталіцы.

*Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі*

# *Бібліятэчны сшытак*

**4 кастрычніка 2013 г.**

# Беларускі Пецярбург

Супрацоўнікі аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі падрыхтавалі выстаўку «Беларусы ў Пецярбургу». Яе адкрыццё адбылося ў Малой зале імя Р. Шырмы Беларускай дзяржаўнай філармоніі ў межах музычна-паэтычнага прадстаўлення «Рух музычны», прымеркаванага да ХХІІІ фестывалю «Адраджэнне беларускай капэлы».



## АД РОДНЫХ МЯСЦІН ДА ЕГІПТА

У экспазіцыі творы нашых землякоў — паэтаў і пісьменнікаў, вядомых гісторыкаў, археографаў, этнографаў, якія вучыліся, працавалі, друкаваліся ў Пецярбургу. На выстаўцы прадстаўлена каля васьмідзесяці дакументаў ХІХ — ХХ стст. з фондаў ЦНБ НАН Беларусі. Усю літаратуру па гэтай тэме, што захоўваецца ў нашых фондах, паказаць немагчыма, бо яе вельмі шмат. Таму спынюся на асобных выданнях.

Экспазіцыю адкрывае самы стары дакумент — альманах «Niezabudka» польскага і беларускага пісьменніка, паэта, выдаўца Яна Баршчэўскага, датаваны 1840 годам. На старонках «Незабудкі» з'явіліся першыя вершаваныя апавяданні. Але найбольш Я. Баршчэўскі вядомы сваім творам «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях», першы том якога выйшаў у 1844 г. на польскай мове. На тытульным аркушы зазначана, што ў кнізе змешчана гравюра Р. Жукоўскага, якая падае галоўныя сцэны апавяданняў. У ніжняй частцы гравюры — панарама Полацка (від з левага берага Дзвіны).

Працягвае экспазіцыю збор твораў нашага земляка Восіпа Сянкоўскага, пісьменніка, вучонага-ўсходазнаўцы, дыпламата, журналіста. Найбольш цікавымі з'яўляюцца ўспаміны пра падарожжа па Турцыі, Сірыі, Егіпце. Частка падарожных нарысаў была выдадзена на рускай мове («Отрывки из путешествия по Египту, Нубии и верхней Эфиопии»), напісаныя пазней «Успаміны пра Нубію і Сірыю» — на польскай мове. Таксама ў зборнікі ўвайшлі свецкія, бытавыя, псіхалагічныя, гумарыстычныя аповесці, напісаныя пад псеўданімам Барон Брамбеўс.

## ПРЫХІЛЬНІКІ МУЗЫ КЛІО

Навуковыя даследаванні Міхаіла Каяловіча, вядомага беларускага і расійскага гісторыка, прадстаўлены сачыненнямі «Чтения по истории Западной России» (1884) і «История русского самосознания по историческим памятникам и научным сочинениям» (1901). Працы прысвечаны гісторыі ўніяцтва, царкоўнай і агульнай гісторыі Заходняга краю. Аўтар быў прыхільнікам заходнерусізму, адстойваў меркаванне, што беларусы з'яўляюцца самабытнай часткай рускага народа.

У экспазіцыі — прыжыццёвыя выданні гісторыка, ураджэнца Полацка Васіля Сямеўскага. Ён вучыўся ў пецярбургскай гімназіі, потым на гісторыка-філалагічным факультэце Пецярбургскага ўніверсітэта, дзе захапіўся гісторыяй сялянства ХVІІІ — ХІХ стст. На выстаўцы — яго выданні з калекцыі Паўла Беркава «Крестьянский вопрос в России в XVIII и первой половине XIX в.», «Крестьяне в царствование императрицы Екатерины II».

Сярод дакументаў ХІХ ст. складзеныя гісторыкам, этнографам, рускім генералам П. Баброўскім «Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального Штаба. Гродненская губерния» (у 2 т.). Былы вучань Пружанскага дваранскага вучылішча і Полацкага кадэцкага корпуса, ён пазней узначальваў Ваенна-юрыдычную акадэмію. З 1859 г. кіраваў групай афіцэраў Генеральнага штаба, якая падрыхтавала і выдала «Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального Штаба. Гродненская губерния». Выданне змяшчае звесткі па гаспадарцы, этнаграфіі, асвеце, інфармацыю пра гарады і найбольш значныя мястэчкі Гродзенскай губерні.

На чарзе сціплая маленькая кніжка Андрэя Іванкоўскага, прысвечаная памяці Паўла Муханава (1798 — 1871), рускага ваеннага дзеяча, гісторыка, археографа. У 1834 г. ён пакінуў вайсковую службу і заняўся публікацыяй рукапісаў, якія набыў у Польшчы. Падчас працы на пасадзе старшыні Археаграфічнай камісіі ў Пецярбургу апублікаваў шмат дакументаў па гісторыі Польшчы і расійска-польскіх стасункаў. У кнізе «Зборнік Муханава» (1836) змешчаны дакументы з копій кніг Метрыкі ВКЛ (лацініцай), што захоўваліся ў Варшаве: граматы Вітаўта і Казіміра, лісты князёў ВКЛ да крымскіх ханаў, прывілеі на магдэбургскае права Полацку і Мінску.

## ПРАЦЫ ПА ЭТНАГРАФІІ

На выстаўцы прадстаўлены і кнігі вучоных-этнографаў, якія працавалі і друкаваліся ў Пецярбургу, перш за ўсё Яўхіма Карскага і Івана Насовіча. Тэма беларускага песеннага фальклору гучыць у зборніках народных песень, складзеных фалькларысткай і этнографам Зінаідай Радчанка. Яна вывучала побыт, абрады сялян, запісвала пачутыя ад іх творы. У выніку шматгадовай працы аўтар здолела падрыхтаваць і выдаць тры зборнікі песень, першы з якіх пабачыў свет у 1881 г. «Сборник белорусских народных песен Гомельского уезда». У ім змешчана 30 песень з напевамі. Значна большы па колькасці апублікаваных твораў другі выпуск зборніка — «Гомельские народные песни (белорусские и малорусские)» (1888). Тут 676 песень, якія З. Радчанка запісала ў той жа Дзятлаўскай воласці Гомельскага павета. Ва ўступным артыкуле аўтар паказала адносіны беларусаў да працы, іх гаворку, манеры спеваў і песенную творчасць.

Значны ўклад у станаўленне і развіццё беларускай фалькларыстыкі ўнёс беларускі этнограф і фалькларыст Павел Шэйн. Сярод кніг — яго «Матэрыялы для вывучэння побыту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю». У выданне ўвайшлі апісанні каляндарных і сямейных абрадаў беларусаў, іх жытла, адзення, страў, заняткаў, а таксама песні, казкі, легенды, паданні і інш. У выніку шматлікіх паездак па Беларусі была напісана фундаментальная праца «Велікарус у сваіх песнях, абрадах, звычаях, вераваннях, казках, легендах і да т. п.». На выстаўцы два тамы гэтага выдання знаходзяцца ва ўладальніцкім канвалюце.

Выстаўка «Беларусы ў Пецярбургу» працягвае сваю работу ў чытальнай зале аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ імя Я. Коласа.

**Алена ДЗЕНІСЕНКА,
навуковы супрацоўнік
аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў
ЦНБ імя Я. Коласа
НАН Беларусі**

# Кніжніца з аўтографамі

Сталічная дзіцячая бібліятэка № 2, размешчаная на вуліцы Кузьмы Чорнага, сёлета святкуе свой 60-гадовы юбілей. Яе адметнасцю з'яўляюцца ўнікальная калекцыя аўтографаў беларускіх пісьменнікаў і мастацкая галерэя.

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

Да 1953 года ў Савецкім (тады Варашылаўскім) раёне Мінска не мелася ніводнай дзіцячай кніжніцы. Установа, заснаваная 1 кастрычніка таго года, мусіла выправіць сітуацыю. Праўда, спярша бібліятэка нават не мела памяшкання. Таму набытая літаратура складвалася ў дзвюх маленькіх кладовачках у інтэрнаце будаўнічага трэста на вуліцы Чырвонай. Прычым супрацоўнікі афармлялі літаратуру ў калідорах. Першыя два гады кніжніца размяшчалася на Лагойскім тракце, а потым пераехала ў сучасны будынак.

А неўзабаве, падчас «Тыдня дзіцячай кнігі» 1957 года, туды завіталі першыя дарослыя госці: беларускія пісьменнікі Віталь і Артур Вольскія, Мікалай Гамолка і Валянцін Зуй. Менавіта ў той час у бібліятэцы пачалі з'яўляцца першыя аўтографы. Самы даўні з іх належыць Эдзі Агняцвет, якая 7 снежня 1958 года пакінула надпіс на сваёй кнізе «Госць з далёкай краіны»: «Чытачам дзіцячай бібліятэкі Варашылаўскага раёна г. Мінска — на добры ўспамін». Пазней у пісьменніцы наладзілася плённае супрацоўніцтва з установай. У фондзе захоўваюцца кнігі з яе аўтографамі, датаванымі 1978, 1982 і 1992 гадамі.

Іншыя, найбольш даўнія аўтографы належаць Сяргею Міхальчуку (кніга «Сто прыгод за адзін дзень», 1963), які спярша з'яўляўся чытачом установы, латышскаму паэту Аярсу Вацыецісу («Свяжем хвосты», 1969), Клаўдзіі Каліне («Хлопчык-пакідайчык», 1970), Сяргею Грахоўскаму («Агеньчык у акне», 1973). А больш позні аўтограф Паўлюка Пранузы на кнізе «Я вясну малюю», датаваны 1989 годам, вершаваны: «Дарагія чытачы! Вам адкрываць навук сакрэты, // Каб жыў шчаслівай чалавек. // Вачыма вашымі планета // Няхай глядзіць у новы век».

А сёлета 19 верасня свой аўтограф на кнізе Янкі Маўра пакінуў яго сваяк, сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч, які пажадаў чытачам «прачытаць як мага больш мастацкіх кніг».

Наогул, у бібліятэцы захоўваецца больш як 160 кніг з аўтографамі. Гэта творы Раісы Баравіковай, Ніны Галіноўскай, Віктара Казько, Уладзіміра Ліпскага, Уладзіміра Мароза, Алены Масла, Паўла Місько, Уладзіміра Саламахі, Яўгена Хвалея, Уладзіміра Ягоўдзіка, а таксама выданні, напісаныя ўдзельнікамі Другой сусветнай вайны, блакаднікамі, малалетнімі вязнямі фашысцкіх канцлагераў.

Цікава, што дзякуючы У. Ягоўдзіку бібліятэка стала месцам размяшчэння галерэі Алены Лось. Пісьменнік, які сябраваў з мастачкай, параіў ёй перадаць туды некаторыя свае карціны. Урачыстае адкрыццё галерэі, у якой прадстаўлена 36 твораў, адбылося ў 2010 годзе. Супрацоўнікі кніжніцы запісалі інтэрв'ю з віноўніцай урачыстасці на 45 хвілін і паказваюць яго фрагменты падчас імпрэз. Дарэчы, апошнім часам з'явілася ідэя прысвоіць бібліятэцы імя вядомай мастачкі, якая сёлета адышла ў іншы свет. Хацелася б, каб такая ініцыятыва спраўдзілася.

# Творцы прапануюць




*Фота Анатоля Клешчука*

*Анатоль Бутэвіч і Віктар Корбут прадстаўляюць кнігі Выдавецкага дома «Звязда».*

Па запрашэнні бібліятэк Мінска адбылася прэзентацыя кніг Выдавецкага дома «Звязда», падчас якой папулярныя аўтары Віктар Корбут і Анатоль Бутэвіч атрымалі магчымасць сустрэцца са сваімі чытачамі і пакінуць аўтограф на памяць. Пісьменнік А. Бутэвіч распавёў і пра сваю новую кнігу, якая мусіць пабачыць свет у кастрычніку, «Паміж княствам і каронай. Ад Крэва да Кракава». Гэтае выданне стане дакументальным працягам яго вядомага рамана «Каралева не здраджвала каралю». Плённае супрацоўніцтва ўстановы з бібліятэкарамі будзе мець працяг: у кастрычніку павінен адбыцца сумесны круглы стол на тэму «Аўтар — Выдавецтва — Бібліятэка — Чытач», пра які вы зможаце даведацца падрабязней на старонках чарговага «Бібліятэчнага сшытку».

**Кіра МУРАЎСКАЯ**



# Мастацтва з «Вільнюса»

«Ішла ў аптэку — тая зачынена, прыйшла ў бібліятэку — у аптэку не пайду» — такі запіс пакінула наведвальніца ў кнізе водгукаў бібліятэкі № 18, на пляцоўцы якой маецца і галерэя «Вільнюс».

*Мастачка Галіна Здановіч рыхтуецца да выстаўкі.*

Галерэя працуе з 31 мая 1997 года, і з таго часу тут прайшло каля 200 выставак. Пачыналася ўсё з маленькай залы, якая была доўгай і вузкай, таму мастакі звалі яе пеналам. Але з 2007 года памяшканне стала ў два разы большым, змяніўся дызайн — яна прыцягвае ўвагу творцаў і наведвальнікаў па сённяшні дзень. Тут выстаўляліся Уладзімір Шаркоў, Леанід Леўчанка, Марына і Мікалай Ісаёнкі, Янка Рамановіч, Аляксандр Крэс, Андрэй Бондараў, Аляксандр Салтавец, Ала Няхайчык, Віктар Васюкевіч і інш. У галерэі працуе мастацтвазнаўца — Кацярына Зверава. У гэтых сценах прайшлі конкурсы да юбілею «Песняроў» і «Дзяцінства, апаленае вайной», работы пераможцаў якога былі запрошаны ў Германію, выстаўка памяці мастака Вячаслава Лядзенкі, міжнародны конкурс дзіцячага малюнка «Свет з мараў», дзе былі прадстаўлены работы з Расіі і Украіны… Спіс цікавых падзей, здаецца, не пералічыць!

Цяпер у школьнай праграме няма ўрокаў па гісторыі сусветнай мастацкай культуры. Але ў «Вільнюсе» ўсё распавядуць ды яшчэ пакажуць на мультымедыйным экране. Прыходзяць паслухаць такія лекцыі не толькі школьнікі, але і курсанты Ваеннай акадэміі, Інстытута пагранічнай службы...

— На стварэнне гэтай галерэі мяне натхніў народны мастак Беларусі Аляксандр Кішчанка, з якім пашчасціла сябраваць, — распавяла Алена Сухадолава, намеснік загадчыка бібліятэкі № 18 і кіраўнік галерэі «Вільнюс». Для першай выстаўкі мастака, якому не пад сілу буйная зала, гэта проста ідэальнае месца. У нас утульна і зручна. На адкрыццях заўсёды шматлюдна, прыходзяць паэты, музыкі, спевакі. Ёсць маленькая традыцыя: мастак, які выстаўляецца, пакідае нам сваю карціну. У 1990-х гадах хтосьці з іх толькі скончыў «Глебаўку», а сення вядомы ўжо мастак. У нас жа ёсць іх першыя работы, мы гэтым ганарымся!

Што цяпер можна пабачыць у галерэі? Гэта фотавыстаўка Мікалая Лінніка, справаздачная выстаўка беларускіх мастакоў «У пошуках Атлантыды», прымеркаваная да года беражлівасці. Выстаўка работ чытачоў і супрацоўнікаў бібліятэкі «Ідэіператварэння смецця ў твор мастацтва». З 12 верасня ў галерэі выстаўляецца мастачка Галіна Здановіч.

— Першая мая выстаўка ў гэтай галерэі пакінула прыемныя ўспаміны, хоць усё праходзіла ў маленькай вузкай зале, — успамінае сама Галіна. — Мне пакінулі шмат добрых водгукаў. Цяпер гэта добра абсталяваная і вялікая зала. Якой будзе мая новая выстаўка? Як заўсёды, я пішу пейзажы, нацюрморты. Але кожны раз змяняю падыходы, задачы. Кожная экспазіцыя не падобная да папярэдняй. Мая ўлюбёная карціна «Адзінота» — гэта адна кветка на фоне дажджу, яна нясе святло і надзею на тое, што ўсё будзе добра.

**Алена ЛЯЎШЭНЯ,**
**фота аўтара**

# Пачастункі ад Салохі

Цэнтральная гомельская гарадская бібліятэка імя А. І. Герцэна запрасіла гледачоў на акцыю «Бібліяноч».

**Наталля ІВАНОВА**

Бібліятэку было проста не пазнаць. На 1-м паверсе, у аддзеле абанемента, размясцілася экспазіцыя «Расія 1920-х гадоў». У суседняй зале можна было пасядзець на 12 крэслах, а таксама пагутарыць з Астапам Бэндэрам, Элачкай Людаедкай і Мадам Грыцацуевай, узяць удзел у латарэі «12 крэслаў» і адпачыць у кавярні «Лепшы сябар страўніка».

Падняўшыся на 2-і паверх, госці апынаіся на сядзібе каля Дзіканькі, маглі пачаставацца ў Салохі, прагуляцца з Аксанай і праспяваць украінскія песні. Вядома, не абышлося без нацыянальнага далікатэсу: шчодрая Салоха частавала гасцей смачным салам. А побач працаваў прасторавы партал з Украіны непасрэдна ў Швецыю. На адным са стакгольмскіх дахаў сядзелі Малы і Карлсан. Яны хаваліся ад Фрэкен Бок, якая велічна ўладкавалася за стойкай. Зрэшты, яна была зусім не страшнай: частавала ласункамі і з задавальненнем распавядала пра кніжныя навінкі.

На 3-м паверсе можна было апынуцца «на прызбе з Васілём» і паслухаць байкі гомельскага пісьменніка Васіля Ткачова, а таксама наведаць кірмаш рамеснікаў і паўдзельнічаць у майстар-класах па пляценні з лазы і вырабе керамікі.

Для аматараў вострых адчуванняў былі арганізаваныя экстрым-туры ў бібліятэчныя сутарэнні «Лабірынт жахаў». Вядомы гомельскі астраном Уладзімір Ларыёнаў распавёў пра зоры. Далей адбылося адкрыццё выстаўкі мастака Уладзіслава Цiханава. А потым удзельнікаў бібліяночы чакаў спектакль абласнога драматычнага тэатра «Уладар народных дум і песень» па матывах твораў Янкі Купалы.

А яшчэ ў праграме акцыі былі буктрэйлеры, караоке, «кніжныя далікатэсы», латарэі, інтэрнэт-кафэ, міні-бар, кансультацыі бібліятэрапеўта, літаратурныя квесты, «свежая прэса для экспрэса», буккросінг, фотасесіі і майстар-класы.

# Палічка. Казка. Торбачка

Сталічная дзіцячая бібліятэка № 1 распрацавала праект пад назвай «Пяньковыя цікавосці».

Адмыслова для маленькіх аматараў літаратуры была зроблена незвычайная палічка-пянёк, на якой «растуць» кніжкі ў рознакаляровых торбачках. У праекце прапаноўвалася ўзяць удзел найбольш актыўным і зацікаўленым сем'ям. Знайшліся дзевяць.

Сутнасць праекта заключаецца ў зацікаўленні дзетак і іх бацькоў беларускай літаратурай для дашкольнікаў. Таму супрацоўнікамі бібліятэкі быў распрацаваны спіс літаратуры, прадстаўлены як творамі класікаў, так і сучасных пісьменнікаў.

Кнігі са спіса раскладваюцца па спецыяльных торбачках, якія развешваюцца на «чароўным пяньку». Кожная торбачка належыць пэўнаму дзіцяці — удзельніку праекта, і пазнаць менавіта сваю можна дзякуючы каляровай картцы з малюнкам любімай жывёліны, прымацаванай да яе.

Хлопчыкі і дзяўчынкі падыходзяць да палічкі-пянька і дзякуючы малюнку адшукваюць сваю торбачку, у якой ужо ляжаць новыя, цікавыя і прыгожыя, кніжкі. Гэтую торбачку дзеткі бяруць дадому, а калі прыносяць здаць прачытанае, то бібліятэкары спяшаюцца зноў напоўніць яе цікавай і карыснай літаратурай.

Імкнучыся дапамагчы дзецям у спасціжэнні роднай мовы, прапануюць удзельнікам праекта далучыцца да абмеркавання прачытаных кніг. З кожным дзіцём праводзіцца індывідуальная гутарка, высвятляецца, што было цікава, а што не, якая кніжка была складанай, а якая прачыталася з лёгкасцю. Такім чынам бібліятэкары ствараюць своеасаблівую статыстыку, якая потым дапамагае ім у працы з беларускай кнігай.

**Кацярына НАРВАТКІНА,**
**бібліятэкар II катэгорыі Дзіцячай бібліятэкі № 1**
**г. Мінска**

# «Парнас» адкрыў сезон

Паэтычны клуб «Парнас» Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, які працуе пры публічнай бібліятэцы № 5 г. Мінска, распачаў новы сезон.

**Павел КУЗЬМІЧ**

Створаны ў мінулым годзе па ініцыятыве старшыні сталічнай пісьменніцкай арганізацыі Міхася Пазнякова, клуб набыў папулярнасць як сярод творцаў, так і сярод шматлікіх прыхільнікаў прыгожага пісьменства. Пасяджэнні клуба праходзяць раз на месяц у самых розных фарматах. Як аўтар ідэі, сцэнарыст і вядучы «Парнаса» Міхась Пазнякоў прадстаўляе аматарам паэтычнага слова знаных і маладых паэтаў сталічнага аддзялення.

Прэм'ерай новага сезона сталася знаёмства з творчасцю Валерыя Максімовіча. Доктар філалагічных навук, больш вядомы як літаратуразнаўца і крытык, Валерый Аляксандравіч між тым даўно і плённа працуе на паэтычнай ніве, выдаў кнігу вершаў «Мяцежнай споведзі скрыжалі», актыўна друкуецца ў літаратурна-мастацкіх выданнях. Нямала яго вершаў пакладзена на музыку, песні выконваюцца знакамітым ансамблем «Песняры». Творы яго сугучныя дню сённяшняму, напоўнены любоўю да роднай зямлі, маці, гуманізмам і высакароднасцю.

# А верш чытаўся… з табурэта

**Вікторыя БАРОДЗІЧ**

Напэўна, нядаўняе святкаванне Дня горада ўвойдзе ў гісторыю дзіцячых бібліятэк як самае запамінальнае. З раніцы каля ратушы быў створаны маленькі кніжна-забаўляльны востраў. Мы хваляваліся, што з-за дажджу ніхто не прыйдзе, шкадавалі кніжкі.

Паступова з'явілася кніжная выстаўка (усе экспанаты — толькі пра Мінск!), інсталяцыя «Чалавек, які чытае», зробленая з кніжак, на якія адразу знайшліся жадаючыя (ледзьве ўгаварылі іх не разбураць інсталяцыю!), а на лаве заняў ганаровае месца домік з буккросінгам. Яшчэ праз пэўны час падышлі нашы сябры з выдавецтваў і Мінскага гарадскога аддзялення СПБ… І раптам з'явіліся госці! Рознага ўзросту. Усе хацелі паўдзельнічаць у свяце, атрымаць падарункі, ды і проста звярнуць на сябе ўвагу. «Топ-15 пытанняў пра Мінск» некаторыя зацягнуў так, што ў ход пайшлі званкі сябрам.

Каля доміка з кнігамі адразу ўтварылася чарга. А наш рызыкоўны табурэт, наконт якога вяліся спрэчкі, апынуўся проста зоркай свята! Стаць на яго і прадэкламаваць верш пад парасонам — рамантыка! Асабліва калі ўзнагарода — не звыклая цукерка, а кнігі пра Мінск з нашага ўласнага цыкла «Салодкая бібліяграфія». Ні з чым не параўнальнае адчуванне павагі, гонару і радасці, калі бачыш і чуеш малое дзіця, гадоў пяці-шасці, якое сур'ёзна дэкламуе вершык на роднай мове, стоячы на табурэце. Хацелася спыніць такія імгненні, якія, на шчасце, паўтараліся зноў і зноў, калі падыходзілі новыя дзеткі. Глядзячы на такую справу, чытаннямі ўслых натхніліся і дарослыя, нават пісьменнікі ды паэты!

Сярод іншых забаў — вязаны стрыт-арт, да якога запрашалі не толькі супрацоўнікі дзіцячай бібліятэкі, але і цудоўны вусень з яркіх нітак, займальны комікс-размалёўка па кнізе Паўла Місько «Эрпіды на планеце Зямля»; фотавіктарыны, каля якіх некаторыя затрымліваліся ажно на гадзіну, гульня ў гарады… Уся гэта культурная праграма была падрыхтавана дзіцячымі бібліятэкамі. Дзеці былі ў захапленні. І літаратурная варажба, і гучныя чытанні ад ініцыятыўных татаў з сямейнага цэнтра «Тата можа», і рознакаляровыя паветраныя шарыкі — для самых маленькіх чытачоў.

Тэрыторыя, здаецца, была падобная да вялізнага мурашніка: шум, людзі, дзеянні, рух… І сярод усяго — фотасушка са здымкамі клубаў і гурткоў у дзіцячых бібліятэках, куды кожнаму маленькаму мінчаніну проста неабходна завітаць! З бацькамі, братамі або сястрычкамі…

Ігнараваць дзіцячыя бібліятэкі? Амаль што злачынства! Пэўна, гэта разумелі тыя сем'і, якія насуперак непагадзі прыйшлі і атрымалі задавальненне ад свята. Ну, а мы яшчэ раз абгрунтавалі лозунг дзіцячых бібліятэк: у нас заўсёды нешта адбываецца!

# Чалавек у «Куфры»



*Акцёры маскоўскай творчай лабараторыі «Эскизы в пространстве».*

**Завершаны X міжнародны фестываль студэнцкіх тэатраў «Тэатральны куфар-2013». У праграме з 28 спектакляў 18 краін можна было прасачыць моцны агульны стрыжань.**

Напярэдадні гэта таксама падкрэсліў арт-дырэктар праекта, рэжысёр тэатра «На балконе» Сяргей Турбан: "У цэнтры спектакляў, якія сёлета ўбачаць мінчане, — лёс маладога чалавека або пары. Людзі шукаюць адказы на пытанні пра сваё месца ў свеце, імкнуцца зразумець, хто яны такія і ў якім напрамку ім рухацца, каб зрабіць жыццё лепшым. Можна сказаць, што гэта фестываль пра маё Я". Такім чынам, мы мусім разгледзець найбольш цікавыя пастаноўкі менавіта ў ракурсе татальнага на сённяшні дзень крызісу ідэнтычнасці.

П'еса «Сырыя і гордыя» (Масква) прысвечана праблеме сацыяльнай і асабістай ідэнтычнасці сучаснай моладзі. *Гордыя,* яны жывуць з «прэтэнзіяй не быць дыванком ці гартэнзіяй», але яны *сырыя* таму, што ўвогуле не бачылі жыцця і свету. Не маючы досведу (у шырокім сэнсе, у тым ліку досведу сувязі пакаленняў), жывуць амаль інстынктамі, пераважна стаднымі, кіруюцца стэрэатыпамі, размаўляюць ні пра што, ужываючы моўныя шаблоны ды асацыяцыі, навязаныя маскультам. Вядучым прынцыпам пастаноўкі абрана дэканструкцыя: зруйнаваць тое, што імкнешся спазнаць. Адсюль не толькі *рамонт* як фон спектакля, але і абвостраная, нават істэрычная атмасфера, падкрэсленая агаленасць нервалізаваных пачуццяў. «Гэта тое, як мы бачым штодзённую рэчаіснасць», — агучана ў Прадмове.

Спектакль «Латэнтныя мужчыны» студэнцкай групы «Карняг-тэатра» (Мінск) — пра крызіс гендарнай ідэнтычнасці, нават з абодвух бакоў: жанчыны «па-мужчынску» прагнуць дамінаваць, мужчыны «па-жаночы» ўсё часцей саступаюць. Такая тэндэнцыя актуальная ўвогуле, але найбольш заўважная ў інтымнай сферы, што і дэманструюць метафарычна ўдзельнікі спектакля.

Пра этнічную ідэнтычнасць ішла размова ў пастаноўцы «MENSCH / ЧАЛАВЕК» («Тэатральны квадрат», Мінск): пра трагедыю этнічных немцаў на тэрыторыі СССР — перад, падчас і пасля Вялікай Айчыннай вайны. Спектакль-дакумент створаны сумесна прафесійным сцэнарыстам Ганнай Суліма і нашчадкам «немца з савецкім лёсам» Андрэем Шыманскім. Апошні адначасова і летапісец жыццёвай драмы свайго бацькі, што, безумоўна, спрые ўражанню, прымушаючы «не прагарнуць нецярпліваю рукою» шмат для каго новую старонку.

Удала пасуюць сучаснасці і класічныя творы: «Дзённік Глумава» па матывах п'есы Аляксандра Астроўскага (тэатр «На балконе», БДУ) — пра пошук «вельмі разумным» героем свайго месца ў грамадстве. «Працэс» паводле аднайменнага твора Франца Кафкі («Крылы Халопа», Брэст) акрамя яго звыклай трактоўкі («асоба ў таталітарным грамадстве») датычыць яшчэ — і нават перадусім — праблемы няпэўнай сацыялізацыі: страх аўтычнага індывіда перад соцыумам натуральна вымагае падпарадкаванасці апошняму (метафарычна — смерці).

Шырокую ўвагу да «Тэатральнага куфра» стымулюе і такая акалічнасць: па ўзроўні студэнцкія спектаклі звычайна не саступаюць прафесійным. Цікава было пераканацца ў гэтым асабіста.

Перадусім, як і «дарослы», моладзевы тэатр рухаецца ў напрамку мінімалізацыі сродкаў. Прыкладам, навошта ўскладняць дызайн пляцоўкі настольні, што для перамены дзеі спатрэбіцца заслона, або светлавыя «завесы», або нават перапынак? Можна абыграць перамену як усім бачную, але ад гэтага не менш мастацкую метамарфозу («Працэс»). Можна ўвогуле абмежавацца аднай абстрактнай сцэнічнай прасторай і разнастаіць яе за кошт «рассоўвання» ў напрамку глядзельнай залы («Сырыя і гордыя»). Можна прэзентаваць аднастайны, падкрэслена фатаграфічны, чорна-белы фон, на якім найбольш выразна выглядае ўласна драма («Дзённік Глумава»). Усё гэта выпадкі, калі «прасцей» не значыць «горш».

Моладзевы тэатр улічвае таксама, што сучасны драматычны акцёр мусіць выразіць свайго героя не толькі жэстамі, мімікай, голасам, але і ў пластыцы-харэаграфіі. Гэта істотна пашырае неабходны спектр акцёрскіх кампетэнцый і абсяг прыёмаў пастаноўкі. Часам спектакль пабудаваны менавіта як пластычная дзея. Для «Латэнтных мужчын», прыкладам, гэта адзінае прымальнае выйсце, таму што падтэксты ў п'есе надзвычай далікатныя.

Сталасць-якасць выяўляецца і праз здольнасць рэалізаваць сябе ў розных фарматах: дзея на традыцыйнай сцэне, клубны тэатр, мініяцюра сам-насам з гледачом, нават абмен месцамі з глядзельнай залай. Гэтыя ды іншыя крокі эвалюцыі на карысць не толькі мастацтву, але і нам з вамі, для каго раней была толькі адна незайздросная роля: сядзі і глядзі.

Галасаванне гледачоў вылучыла пераможцу. Прыемна, што «Гран-пры» атрымаў спектакль, якому і сама паставіла самую высокую адзнаку: «MENSCH / ЧАЛАВЕК» («Тэатральны квадрат»). Напэўна, большасць назіральнікаў таксама адчула: гэта выпадак, калі спраўджваецца найгалоўнае прызначэнне тэатра — убасобіць тое, што баліць, але большасцю не ўсвядомлена. Увасобіць кранальна — і тут неістотна, маем мы справу з традыцыйнай пастаноўкай або эксперыментальнай, «прыгожа» гэта або не. Катарсіс па вызначэнні прыгожым не бывае.

Коратка пра іншыя вынікі. Спектакль Вільнюскага ўніверсітэта «Цырк» атрымаў прыз за лепшую сцэнаграфію, а згадання «Латэнтныя мужчыны» — за лепшую рэжысуру. У намінацыі «Лепшая жаночая роля адзначана артыстка з Тарту (Эстонія) Катрын Кальма, а лепшым акцёрам названы Цітан Штурбей (Славенія).

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

# Гаспарэ Манас: аўтапартрэт



**Музей сучаснага выяўленчага мастацтва прадставіў выстаўку італьянскага жывапісца, графіка і скульптара Гаспарэ Манаса «Партрэты буйным планам». Гледачы змаглі пабачыць пяцьдзясят жывапісных і графічных партрэтаў знакамітых людзей дваццатага стагоддзя. Але не менш цікавы і сам Гаспарэ.**

**— Як вы прыйшлі да мастацтва?**

— Маё жыццё змянілі тры шчаслівыя выпадкі. Дваццаць пяць гадоў таму я жыў у Лондане. На працягу шасці месяцаў прыходзіў у адну кавярню, піў каву і рабіў невялікія накіды, а побач сядзеў зусім незнаёмы пажылы чалавек і ўвесь час назіраў за мной. Аднойчы ён сказаў: "Не будзь ідыётам! Малюй! Пакінь усё астатняе!" Я спытаў: "А што вы пра гэта ведаеце?" Чалавек здзівіўся і адказаў: "Я Люсьен Фройд!" (адзін з самых значных мастакоў апошняга стагоддзя). Потым лёс звёў мяне з філосафам Карлам Поперам. Я маляваў яго, а ён пісаў пра мяне. У аснове філасофіі К. Попера — пошук ісціны, што вельмі на мяне паўплывала. І трэці прыклад шчаслівага выпадку: венецыянскі кінафестываль. Некалькі гадоў таму арганізатары гэтага фэсту папрасілі зрабіць скульптуру для пераможцы. Пасля ўручэння прэміі ў атэлі адбыўся невялікі фуршэт, дзе са мной пазнаёміліся Квенцін Таранціна і Вудзі Ален. Проста так такіх людзей не сустрэнеш!

**— Чаму партрэты?**

— Мабыць, я пасталеў. Прыйшла думка: людзі ствараюць гарады. Уявіце сабе: дзіця гуляе па пляжы і збірае ракавінкі, але яно не шукае ў іх малюскаў, толькі разглядае абалонкі. Я цяпер пачынаю шукаць малюска, схаванага ў ракавінцы. Спрабую зразумець самога сябе, людзей, якія жывуць побач, — шукаю ісціну ў самым сэрцы.

**— Стварэнне партрэта — гэта як распрананне чалавека?**

— Партрэт — вельмі інтымная рэч. Чалавек можа быць адкрыты з бацькамі, родзічамі, сябрамі. А мастаку, каб раскрыць партрэтуемага, адчуць яго душу, трэба вельмі тонка мысліць. Напрыклад, партрэт маёй жонкі Зоі — адзіная мая праца, напісаная са спіны. Яе твар не бачны, толькі валасы і шыя. Карціна да канца не разгадвае загадку канкрэтнай жанчыны. Атрымоўваецца нейкі зборны вобраз усіх жанчын, бо яны заўсёды загадкавыя. Дарэчы, добры партрэт — гэта калі я бачу здзіўленне, нават агіду на твары маіх герояў, нібы змяшчаю люстэрка насупраць іх. Глядзіце: мы брыдкія! Што сапраўды важна — гэта душа.

**— Над якімі палотнамі — вялікімі альбо маленькімі — вам прасцей працаваць?**

— Мне здаецца, намаляваць карціну маленькага фармату больш складана, чым намаляваць карціну, да прыкладу, на ўсю сцяну. На такіх работах можна заўважыць нават самыя нязначныя памылкі, таму і адказнасць за іх вялікая. Калі вы робіце малюнак на палову будынка — усё выглядае ідэальна, таму што выява знаходзіцца далёка. Самыя вядомыя партрэты ў свеце — вельмі маленькія, як партрэты Рэмбранта. Яны закрытыя, інтымныя. У сваіх работах я звяртаю ўвагу на дробныя дэталі. Не хачу рабіць рэкламу акуляраў ці шампуню… Толькі для гэтага і патрэбныя вялікія памеры!

**— Выхадцы з Беларусі паўплывалі на сусветную культуру?**

— Давайце вернемся ў Парыж стагадовай даўнасці. Там дамінавала французская школа жывапісу. У ёй працавалі Марк Шагал, Пінхус Крэмень, Міхаіл Кікоін, Хаім Суцін (блізкі сябра Мадыльяні — маэстра для мяне!), Сімон Сегал, Восіп Цадкін, Жак Ліпшыц. Сем чалавек з Беларусі! Гэта ж практычна ўсе прадстаўнікі парыжскай школы! Ці маглі ў далейшым узнікнуць такія напрамкі, як кубізм, футурызм, такія мастакі, як Пікаса, без уплыву людзей, што прыехалі ў Парыж з Беларусі? Наўрад ці… Для мяне гэта падстава для разважанняў.

**— Што для вас мастацтва?**

— Я займаюся жывапісам дваццаць пяць гадоў. Да гэтага працаваў і ў рэкламе, і ў іншых сферах бізнесу, але вырашыў змяніць сваё жыццё дзеля мары. Я быў вельмі багатым чалавекам — і вызваліў сябе ад матэрыяльных багаццяў, заняўся сваёй любімай справай. Малявау! Галоўнае, каб у цябе былі думкі, якімі ты хочаш падзяліцца з іншымі. Абавязкова павінны быць талент і штодзённая праца. Я працую па дванаццаць гадзін на дзень! У мяне, безумоўна, былі памылкі. Але чым больш памылак ты зробіш, тым больш паспяховым будзеш, бо памылкі заўсёды ўзгадваюцца, яны змяняюць цябе. Яшчэ трэба ўдача і вера ў тое, што ты робіш. І ахвяраваць. Ахвяраваць сваёй сям'ёй, каханымі, сябрамі. Мастацтва патрабуе ахвяр. Канечне, калі гэта сапраўднае мастацтва. Бо мастак можа быць і прадуктам, брэндам, як «Кока-Кола»… Калі выпрацоўваеш выключна дэкаратыўныя творы — гэта бізнес. Мая ж мэта — заняць маленькае месца ў гісторыі.

**Паліна ПЛАТАВА**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2601
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 03.10.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4383
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686